• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • цана 1000 рублёў

13 красавіка 1996 г.
субота, №№ 99-100
(22902 — 22903)



# ЗВЯЗДА

## ПРЭЗІДЭНТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА ПЕРАНЁС СВАЮ ПАЕЗДКУ Ў ЧАРНОБЫЛЬСКІЯ РАЁНЫ НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ

Як паведаміла прэс-служба Прэзідэнта, паездка плануецца на 17-18 красавіка. Змяненне тэрмінаў візіту кіраўніка дзяржавы ў чарнобыльскія раёны звязана з тым, што Аляксандр Лукашэнка расшырыў пералік пытанняў і праблем, якія трэба будзе вырашыць у ходзе паездкі. Акрамя гэтага, Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь асабіста мае намер пераканацца ў тым, наколькі эфектыўна выкананы план мерапрыемстваў, які быў ім зацверджаны пасля папярэдняга візіту. Аляксандр Лукашэнка збіраецца правесці цэлы шэраг сустрэч з жыхарамі гарадоў і вёсак, выслухаць іх патрэбы і запатрабаванні.

**БЕЛТА.**

## ЗБОРНАЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА ХАКЕЮ,

***Эйндховен, Галандыя***

**Мінск, 11 красавіка 1996 года**

Дарагія спартсмены!

Многія тысячы шчырых вашых балельшчыкаў і паклоннікаў у Беларусі з вялікай радасцю даведаліся аб вашай першай перамозе, заваяванай ва ўпартай барацьбе на чэмпіянаце свету па хакею. Вы паказалі прыгожую і мужную гульню, прадэманстравалі сапраўдны байцоўскі характар. Па прамой тэлевізійнай трансляцыі Беларусь убачыла не толькі бліскучую гульню, але і пачула цудоўны каментарый нашых спартыўных журналістаў.

Верым у вас, ганарымся вамі, чакаем новых перамог і вашага вяртання на Радзіму пераможцамі!

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

## Я. ПРЫМАКОЎ І І. КАРАТЧЭНЯ СУСТРЭЛІСЯ НАПЯРЭДАДНІ ПАСЯДЖЭННЯ САВЕТА КІРАЎНІКОЎ УРАДАЎ СНД

11 красавіка ў 18.00 міністр замежных спраў Расіі Яўген Прымакоў сустрэўся з выканаўчым сакратаром Садружнасці Незалежных Дзяржаў Іванам Каратчэняй.

На сустрэчы былі абмеркаваны пытанні маючага адбыцца пасяджэння Савета кіраўнікоў урадаў СНД, якія адносяцца да кампетэнцыі знешнепалітычнага ведамства.

Адзначана, што для Садружнасці, яе Выканаўчага сакратарыята, які мае статус наглядальніка ў ААН, бачацца вялікія перспектывы ва ўмацаванні яго аўтарытэту як міжнароднай міжрэгіянальнай арганізацыі, якая зарэкамендавала сябе.

**БЕЛТА.**

## «БЕЛАРУСКАМУ КРЭДЫТУ» РЭКАМЕНДУЮЦЬ САМАЛІКВІДАВАЦЦА

Савет дырэктараў Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь за шматлікія парушэнні дзеючага заканадаўства ўвёў асаблівы рэжым карэспандэнцкага рахунку АКБ «Беларускі крэдыт» па тыпу «Г».

У сувязі з гэтым абмежавана дзеянне ліцэнзіі на ажыццяўленне банкаўскіх аперацый. У прыватнасці, на прыцягненне сродкаў на ўклады і дэпазіты, выдачу крэдытаў ад свайго імя за кошт уласных і прыцягнутых сродкаў, уключаючы фінансавы лізінг і лізінг, на выдачу за трэціх асоб гарантый і паручыцельстваў, якія прадугледжваюць выкананне ў грашовай форме, а таксама на аперацыі з каштоўнымі паперамі.

Заснавальнікам АКБ «Беларускі крэдыт» Нацбанк рэкамендаваў разгледзець пытанне аб ліквідацыі банка.

Асноўнымі заснавальнікамі гэтага банка з'яўляюцца АП «Белсантэхмантаж», ЗАТ «Інэрмаркет», ЗАТ «Тэханпровіс». Старшыня Савета банка — К. Шэрман, старшыня праўлення — П. Пруднікаў.

**Прэс-служба Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь.**

## ПАРЛАМЕНЦКІ СХОД РАСІЙСКА-БЕЛАРУСКАГА СУПОЛЬНІЦТВА РАЗМЕСЦІЦЦА Ў САНКТ-ПЕЦЯРБУРГУ

Асноўнымі вынікамі першага афіцыйнага візіту беларускай парламенцкай дэлегацыі 10-11 красавіка ў Маскву сталі дасягнутыя дамоўленасці аб фарміраванні Парламенцкага сходу расійска-беларускай Супольнасці, прадугледжанага дагаворам ад 2 красавіка. Паводле слоў спікера Дзяржаўнай думы Расіі Генадзя Селязнёва, гэты сход можа быць утвораны яшчэ ў бягучым месяцы. Расійскі бок падтрымаў ініцыятыву беларускай дэлегацыі наконт таго, каб названы Парламенцкі сход пачаў дзейнічаць пры Міжпарламенцкай асамблеі СНД у Санкт-Пецярбургу, на базе структур і апарату МПА СНД. На думку Сямёна Шарэцкага, дзейнасць Парламенцкага сходу 2 краін стане добрым прыкладам для парламенцкіх дэлегацый іншых дзяржаў СНД.

У цэлым, як неаднаразова падкрэсліваў Сямён Шарэцкі, візіт беларускай дэлегацыі 10-11 красавіка ў Маскву меў на мэце пошук падыходаў да напаўнення канкрэтным зместам дагавора ад 2 красавіка. Гэтая тэма была скразной у перагаворах Сямёна Шарэцкага з Г.Селязнёвым, Я.Строевым, Я.Прымаковым, Б.Ельцыным, В.Чарнамырдзіным.

— Як з Барысам Ельцыным, так і з Віктарам Чарнамырдзіным мы гаварылі аб канкрэтным напаўненні дагавора, які быў падпісаны 2 красавіка. Калі пройдзе месяц—два—тры і людзі не адчуюць нейкага канкрэтнага паляпшэння хаця б у некаторых сферах жыцця, то ўсё гэта застанецца толькі яшчэ адным палітычным крокам, што непажадана ні РФ, ні нам,— растлумачыў С.Шарэцкі.— У прыватнасці, падчас перагавораў закраналіся такія пытанні, як узаемадзеянне з Выканаўчым камітэтам Супольніцтва, які ўжо створаны і які ўзначальвае Чарнамырдзін, аб месцы і ролі той дэпутацкай групы, якая будзе дзейнічаць на пастаяннай аснове і працаваць над удасканаленнем нашых заканадаўстваў... З беларускага боку ў Парламенцкім сходзе будуць прадстаўнікі ад усіх нашых фракцый...Акрамя таго, мы яшчэ раз узнялі чарнобыльскую праблему: я выказаў прапанову аб неабходнасці паскарэння будаўніцтва Гомельскага радыяцыйнага цэнтра, які быў бы ўжо агульным і для Беларусі, і для Расіі, а магчыма, і для Украіны. Акрамя таго, Віктар Чарнамырдзін заявіў, што яны ўжо вызвалілі памяшканні для дзейнасці Выканаўчага камітэта ў рэзідэнцыі Б.Ельцына...

Падчас сустрэч з лідэрамі Расіі і на выніковай прэс-канферэнцыі Сямён Шарэцкі неаднаразова падкрэсліваў, што гэта быў першы візіт парламенцкай дэлегацыі суверэннай Беларусі. Хаця расійскія прадстаўнікі стараліся абмінаць тэму суверэнітэту Беларусі ва ўтвораным Супольніцтве, разумеючы, што яна даволі вострая і балючая, Сямён Шарэцкі падкрэсліваў, што ўспрыманне дагавора ад 2 красавіка як факта інкарпарацыі Беларусі, на яго думку, няправільнае:»У дагаворы запісана, што дзяржавы застануцца суверэннымі, не будуць умешвацца ва ўнутраныя справы адна адной, а будуць узаемадзейнічаць на ўзаемавыгадных прынцыпах. Аднак нельга нам надалей быць на адлегласці».

Наконт пратэстаў 2 красавіка ў Мінску з нагоды падпісання расійска-беларускага дагавора і пазіцыі БНФ Сямён Шарэцкі зазначыў на выніковай прэс-канферэнцыі 11 красавіка, што пазіцыя БНФ не адлюстроўвае меркаванне большасці насельніцтва Беларусі, спаслаўшыся на тое, што ніводзін прадстаўнік гэтай партыі не быў абраны ў Вярхоўны Савет. Аднак С.Шарэцкі дадаў і наступнае: «Мы не лічым іх ворагамі, яны маюць права на сваю пазіцыю. Яны пабойваюцца таго, каб не адбылося інкарпарацыі Беларусі ў састаў Расіі. Мы ж гаворым аб захаванні прынцыпаў суверэннасці дзяржавы, яе тэрытарыяльнай цэласнасці ў гэтым дагаворы».

З расійскага боку таксама былі выказванні на гэты конт, у прыватнасці Ірына Хакамада заўважыла, што гуляць з праблемай суверэнітэту небяспечна і для Беларусі, і для Расіі. Расійскіх дэпутатаў таксама цікавіла, у якой ступені адлюстроўваюць меркаванне народа Беларусі, яго асобных сацыяльных груп тыя акцыі пратэсту, якія прайшлі ў Мінску. Прычым тлумачэнні яны атрымалі розныя: ад П.Краўчанкі і С.Калякіна.

У цэлым сітуацыя ў Расіі цяпер даволі складаная, ідзе перадвыбарная гонка, якая, як сказаў на сустрэчы з беларускімі дэпутатамі мэр Масквы Юрый Лужкоў, можа скончыцца не толькі зменай прэзідэнта, але і грамадска-палітычнага ладу. Натуральна, што маецца на ўвазе верагодная перамога Генадзя Зюганава. Відавочна, што такая перамога паўплывае і на далейшыя адносіны Расіі да Беларусі. Генадзь Селязнёў на пытанне аб магчымых зменах у інтэграцыйных сувязях Расіі і Беларусі ў выпадку, калі прэзідэнтам Расіі стане прадстаўнік ягонай партыі — КПРФ,— адказаў, што ў гэтым разе адносінам з Беларуссю будзе давацца зялёная вуліца, а самі яны стануць больш шчыльнымі, чым цяпер. Сямён Шарэцкі мяркуе, аднак, што падпісаны дагавор разлічаны не пад пэўных прэзідэнтаў, а для народаў і краін...

Тым часам у дні візіту дэпутаты Дзярждумы адхілілі прапановы Б.Ельцына і Савета Федэрацыі аб змякчэнні вядомай сваёй пастановы ад 15 сакавіка аб дэнансацыі Белавежскіх пагадненняў.

Старшыня камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі Пятро Краўчанка падвёў для карэспандэнта «Звязды» некаторыя іншыя, непалітычныя, вынікі перагавораў з лідэрамі Расіі:

— Перад спікерам Дзярждумы Расіі было пастаўлена пытанне аб магчымасцях вяртання на Беларусь страчаных намі ў свой час культурных каштоўнасцей, і я вельмі ўзрадаваны, што Селязнёў паабяцаў тут пэўныя зрухі. Мы не ставім пытанне пра вяртанне нашых каштоўнасцей у вялікіх памерах і поўным аб'ёме, разумеючы, што сёння гэта амаль нерэальна, і не ставім пытанне, каб гэта рабілася на падставе міжнародна-прававых дакументаў, існуючых у гэтай сферы, якія прыняты ў ААН і ЮНЕСКО. Гэта вельмі складана, бо будзе ствараціца пэўны прэцэдэнт. Таму мы ставім пытанне аб тым, каб гэта рабілася на падставе двухбаковых кантактаў пэўных устаноў, на падставе нейкага эквівалентнага абмену, які ўжо практыкаваўся пецярбургскімі музеямі, як было з вяртаннем археалагічных каштоўнасцей у Наваградак... З другога боку, такія крокі могуць рабіцца ў якасці добрых жэстаў, абмену падарункамі, як сведчанне шчырасці, братэрства, узаемнай павагі. І вось такая пастаноўка пытання знайшла пэўнае разуменне, канкрэтна ішла размова пра вяртанне слуцкіх паясоў і часткі архіву ВКЛ, вывезенага з Нясвіжа. Тое, што Селязнёў паабяцаў перагледзець ранейшыя падыходы, дае нейкую надзею. Не болей...Таксама з боку Я.Прымакова было паабяцана павялічыць аб'ём падрыхтоўкі беларускіх дыпламатаў у Маскве да 15 чалавек у год.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

*Масква—Мінск.*

## ПАСТАНОВА КАБІНЕТА МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 247

## АБ ПАВЕЛІЧЭННІ ГРАШОВАЙ КАМПЕНСАЦЫІ РАСХОДАЎ НА БЕНЗІН І ТРАНСПАРТНАЕ АБСЛУГОЎВАННЕ ІНВАЛІДАЎ

У мэтах узмацнення сацыяльнай абароны інвалідаў, якія маюць спецыяльныя транспартныя сродкі, а таксама ў сувязі з інфляцыяй Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Устанавіць з 1 студзеня 1996 г. штогадовую грашовую кампенсацыю расходаў на транспартнае абслугоўванне:

1.1. У памеры 1,0 млн. рублёў у год:

інвалідам Вялікай Айчыннай вайны І групы, якія не маюць па медыцынскіх паказаннях права на атрыманне бясплатна або на льготных умовах аўтамабіля з ручным кіраваннем;

**(Заканчэнне на 2-й стар.).**

## ПАСХАЛЬНАЕ ПАСЛАННЕ МІТРАПАЛІТА МІНСКАГА І СЛУЦКАГА ФІЛАРЭТА, ПАТРЫЯРШАГА ЭКЗАРХА ЎСЯЕ БЕЛАРУСІ

*«Крест претерпевый, і смерть упраздніввый,*
*і воскресый із мертвых, умірі нашу жізнь,*
*Господі, яко едін всесілен»*
Пасха, сціхіра на хваліцех.

**Праасвяшчэнныя архіпастыры, пастыры, богалюбныя інакі і ўсе верныя дзеці Беларускай Праваслаўнай Царквы!**

### Хрыстос уваскрос!

Крыжовы шлях Вялікага посту прывёў нас да свята святаў — Пасхі Гасподняй. Усе мы сведчым у гэтыя дні, што сапраўды *«прыйшла радасць усяму свету»*, бо *«Хрыстос уваскрос з мёртвых, смерцю смерць перамог, і тым, што ў магілах, жыццё даравай»*.

Уваскрэсенне Хрыстовае стала засяроджаннем дамастрою Божага, Яго невымоўнага промыслу аб лёсах сусвету і чалавечага роду. Хрыстос перамог смерць, і Жыццё Вечнае жыве побач з намі і ў нас саміх.

*«Да воскреснет Бог, і расточатся вразі Его!..»*, — так кожную раніцу маліўся ў пустыні Маісей, калі богаабраны народ працягваў свой шлях да Сінайскай гары Старога Запавету. Гэтую ж малітву ў аснову свайго псалма паклаў цар-псалмапевец Давід: *«...і да бежат от ліца Его ненавідящіі Его, яко ісчезает дым, да ісчезнут...»*. І цяпер у час горасці і напасці мы просім словамі гэтай самай малітвы дапамогі Святога Крыжа, сродку нашага выратавання: *«...яко тает воск от ліца огня, тако да погібнут бесі от ліца любящіх Бога і знаменующіхся крестным знаменіем і в веселії глаголющіх: радуйся, Пречестный і Животворящій Кресте Господень!..»*

З вышыні Уваскрэсення Хрыстовага ўся гісторыя чалавецтва выглядае як адзін вялікі крыжовы ход да ціхага слова Уваскрослага Збавіцеля: *«Радуйцеся!»* (Мф. 28: 9), якое Ён, паўстаўшы з мёртвых, звярнуў да жанчын-міраносіц на трэці дзень пасля Свайго пахавання.

У гэтай пасхальнай радасці — тайна выратавання бессмяротнай чалавечай душы. Таму і апостал Павел запавядаў вучням сваім: *«Заўсёды радуйцеся. Бесперапынна маліцеся. За ўсё падзяку ўзносце»* (1 Фес. 5: 16-18).

Узлюбленыя! Гасподзь вызначыў нам жыць у часы, калі многае мноства людзей шукае Бога, бо душы іх не знаходзяць супакою ў пустэчы няведання. Процьмы ілжэпрарокаў і ганарыстых прапаведнікаў прывабліваюць іх да сябе; вочы разбягаюцца ад колькасці прапануемых шляхоў, у вушах стаіць звон ад крыку глашатаяў... Між тым, людзі з надзеяй глядзяць на нас з вамі, тых, хто праваслаўна вызнае Бога Уваскрослага, і думаюць: «Можа сярод іх мы знойдзем спакой і любоў?»

Але ці заўсёды мы самі памятаем словы Збавіцеля: *«Па тым пазнаюць усе, што вы мае вучні, калі будзеце мець любоў між сабою»* (Ін. 13: 35)? Ці не падмяняем мы часам міласэрнае цярпенне да нашых бліжніх — сваёй рупнасцю не паводле розуму, а зварот да іх з любоўю — сваім — гняўлівым асуджэннем і фарысейскай пыхлівасцю?

«Радасць мая!» — так звяртаўся прападобны Серафім Сароўскі да тых людзей, якія шукаюць праўды і ў подзвігах асягаюць духу мірнага. І калі б ні прыйшоў да яго чалавек, Сароўскі старац сустракаў яго Пасхальным вітаннем: «Хрыстос уваскрос!». Пропаведдзю гэтай вечнай радасці Пасхальнай прыводзіў язычнікаў да Хрыста і апостал Павел, былы ганіцель хрысціянаў, які пасля свайго звяртання стаў усім для ўсіх, *«каб ўратаваць хоць некаторых»* (1 Кар. 9:22).

Дзе нам шукаць іншых прыкладаў жыцця паводле Евангелля? У каго яшчэ нам навучацца веры і жыццю па веры?

Усе мы ведаем, дарагія браты і сёстры: *«хто не любіць, той не пазнаў Бога, таму што Бог ёсць любоў»* (1 Ін. 4: 8). Таму і Сын Чалавечы даў нам дзве вялікія запаведзі: *«узлюбі Госпада Бога твайго...»* і *«узлюбі бліжняга твайго...»* (Мф. 22: 36-39).

Для нас, захопленых цяпер страсцямі многімі, гэтыя запаведзі па-ранейшаму застаюцца самым галоўным і адзіна дакладным паказчыкам духу той ці іншай падзеі, з'явы навакольнага жыцця. Дзе няма мудрай любові і браталюбства, а ёсць зайздрасць, злоба і падзелы, — там не можа быць міру, братэрства і згоды, якія застаюцца запаветным жаданнем народаў.

Таму будзем цвердымі ў спадзяванні на дапамогу Божую, бо, паводле Апостала, *«калі Бог за нас, то хто супраць нас?»* /Рым. 8:13/.

...Цяперашняе жыццё цяжкае і шматгаротнае. Хваробы і войны не сціхаюць, разгубленасць народаў і чалавечых сэрцаў нарастае з дня ў дзень, час паскорыўся так, што месяц пралятае, як адзін дзень... Але прыслухаемся да гораснага голасу пакутніка, які сказаў: *«А я ведаю, Збавіцель мой жывы, і Ён у апошні дзень адновіць з праху гэтую тленную скуру маю, і я ў целе сваім убачу Бога. Я ўбачу Яго сам; мае вочы, не вочы іншага, убачаць Яго»*. Гэтага чалавека звалі Іоў Шматпакутны (Іоў, 19:25-27). Ён жыў да таго, як нарадзіўся Маісей; ён перацярпеў усе свае вялікія пакуты, і па веры яго была яму ад Госпада вялікая ўзнагарода.

Узлюбленыя! Уваскрэсенне Хрыстовае — гэта адвечнае свята любові, запаведанае нам ад стварэння свету. *«Ні смерць, ні жыццё, ні мінулае, ні будучае... не можа адлучыць нас ад любові Божай»* (Рым.8:38-39). Сам час у сусвеце ліецца хвалямі сядміцаў, у якіх кожны сёмы дзень — нядзельны! Так было і так будзе да той пары, калі Гасподзь перарве плынь сядміцаў і ў дзень восьмы прыйдзе судзіць жывых і мёртвых, і створыць новае неба і новую зямлю, і скажа таму, хто напрацаваў і перацярпеў да канца: *«Увайдзі ў радасць Госпада твайго»* (Мф. 25:21).

У гэтыя радасныя дні Светлай сядміцы мы вітаем адно аднаго Пасхальным цалаваннем, падобна да святой роўнаапостальнай Марыі Магдаліне, падносім адзін аднаму пасхальнае яйка. Усё кароткачасовае зямное жыццё чалавечай душы ў целе падобнае да развіцця птушаняці ў яечнай скарлупцы, — пісаў свяціцель Філарэт, мітрапаліт Маскоўскі. Калі ж разбіваецца гэтая скарлупка ў прызначаны Богам час, тады адкрываецца перад чалавекам вышэйшае і шырэйшае кола жыцця. *«Трэба толькі,* — падкрэсліваў блажэнны Свяціцель, — *каб гэты зародак духоўнага Нябеснага Жыцця ў чалавеку быў напоўнены, прасякнуты і абуджаны жыватворнай сілай Крыві Хрыстовай»*.

Дарагія браты і сёстры, усе, хто ў Хрыста хрысціліся! Узлюбім Госпада не словамі толькі, а ўсім нашым станам жыцця! Узлюбім Стварыцеля ў Яго тварэнні, бліжнім і дальнім чалавеку, у прыродзе і ў гісторыі. Нікога не асудзім, каб не паўтарыць грахоў асуджанага намі! І тады мы адчуем, што ўжо не толькі для ўсяго сусвету, не толькі для людзей, што жывуць у свеце, — але і асабіста для нас, у нашым сэрцы Сын Чалавечы, Які змыў грахі свету Сваёй Прачыстай Крывёю, сапраўды ўваскрос!

### Хрыстос уваскрос!

**ФІЛАРЭТ,**
**мітрапаліт Мінскі і Слуцкі,**
**Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі.**
Уваскрэсенне Хрыстовае, 1996 г.,
Мінск.

# УВАСКРЭСНАЕ ЛІТАННЕ



**Божа, Божухна, Валадару — і каханне маё, і боль, холад хмары, адвага жару — ажываю ў Табе, з Табою.** Божа, Божа мой міласэрны — паратунак, узнёслы крыж, мой адзіны, няздрадны, верны, як Ты доўга праз час ляціш! Божа, Божа мой, Усясвеце — у свет расхрыстанае святло, я плыву ў Табе — ў зорнай Леце. Сонцам свята жыцця ўзышло. Божа, Божа, мой Шлях у Вечнасць — Узвышэнне маёй душы праз пакутнае права ўкленчыць, праз маркотны парог імшы. Божа, Божа маёй Краіны, Неба, Нетрасці і Зямлі — пашкадуй мой народ бязвінны, прыгарні яго, прытулі. Божа, Божа, прачысты Хрысце, пад крылом тваім белы Край страпянуўся пяшчотным лісцем — Божа, злітуйся, не карай... Не карай мой народ бязмоўем, адрачэнствам не пакрыжуй. Ліха, ліха ў радзімным доме — Божа, праўду табе скажу. Божа, Божа, даруй Айчыне жменьку мужнасці і дабра — мы з прадаўняе веры ўчынім годны лёс... — і ўваскрэсне Край!

Божа, Божа, іду з Табою на распяцце, на судны ўздым. І плачу невымерным болем за спустошаныя гады. У святарным Агні згараю, каб крывінкай сцячы на дол — дайна ўпасці ў нябыт ахвярай і Прышэсце пачаць з кладоў...

Божа, Божа мой міласэрны, як у цемрадзі не зблудзіць? Ты ўва мне ажываеш зернем... — не замоўкні, свяці, прыйдзі! Божа, Божа, упала неба слёзным воблакам на зямлю. Я не так ускладаю трэбы. Я не так Цябе, Бог, люблю. Я люблю Цябе па-за светам, недзе ўдалечы, як у сне. Кожнай кветкай і кожнай клеткай Ты звяртаешся да мяне. Кожнай кроплінай і раслінай Ты ў бязмежжы адзін жывеш. Я прысутнасць Тваю насіла — выкалыхвала ў сэрцы верш.

Божа, Божа, любіць вучуся — паміраць на Тваім крыжы. **Рукі змучанай Беларусі ў свет азораны развяжы!**

Божа, Божа, маё прычасце да Касмічнай жывой вады. Як нязносна-салодка ўпасці і ўваскрэснуць ніцінай шчасця... Божа, Божа, мой першы ўздых! Божа, Божа, маё збавенне ў невыказным памкненні жыць, кроў Твая — дабрыні праменне — вечнай сілай жыве ў крыжы.

Божа, Божа, мая планета, Космас чуйны і крэўны род — зладаванасць-яснота свету і відушчага сонца ўсход! Божа, Божа, мая любота, маёй мроі празрысты ўзмах! Дзён маіх залатыя соты і кахання гаркавы смак! Божа, Божа — хада ў бяссмерце, дакрананне да любых рук. Божа, Божа, не дай жа сцерці след сашэсця майго ў зару. Божа Хрысце, Марыя Панна, я ад Вас да Сябе іду — не вітаннямі сцежка ўслана, я вяду да Ўзнясення Дух. Божа, Божа, Святая Маці — першароднае веры ўзлёт, навучуся Любоў прымаці — і растане счужэння лёд. Божа, Божа, сплачу памылкі, ростань, роспач з Табой сцярплю — стану яскаркай Сонца зыркай, Уваскрэсну, бо свет Люблю...

**Божа, Божа, люблю Краіну, што гайдае маіх дзяцей.** Тут мой прадзед у бойцы згінуў. Тут мой спадчыннік расцвіце. Божа, Божа, пагляд кахання ў маёй долі не загасі. Што з планетаю крохкай стане, як абрынемся мы ў расстанне? Божа, як мне цябе ўпрасіць? — не пакінь мяне ў адзіноце, барані ад нягод гняздо. Узнадзеім Дарогу ў слоце, уваскрэсім крывіцкі Дом!

Божа, Божа, звядзі далоні закаханых адна ў адну — і ўваскрэснуць сівыя гоні пад ахоўным крылом Пагоні, каб ніколі больш не заснуць... Божа, Божа, іду на сустрэчу, укрыжоўваюся ў Любоў — і вачэй закаханых веча да цябе прывядзе, мой Бог. Да цябе прывядзе трымценне разняволеных струнаў-рук. **Без любові мы ў свеце — цені**. На распяцці з Табой згару. А з распяцця, з пакуты-болю да Нябёсаў сцяблом расту, раскалыхваю звон Любові па святой Беларусі, тут. Тут, дзе суджана мне ўваскрэснуць, Божа, Божа, у Вялікі Дзень. Божа, Божа, мне лёс накрэслі — хай валокны надзей прадзе... Божа, Божа, шапчу маленне: акрылі на паўстанне Дух. Адбываецца Уваскрасенне, я іду да Цябе, іду. Божа, Божа, з Табой мужнею, Ты ўва мне пераможна ўзрос. Ад сявенькі да песні жнеяў — Шлях калосся Твайго, Хрыстос. **Божа, Божа мой даравальны, заслані, зберажы мой Край.** Я з Табою на ўкрыжаванні. Я люблю — спасцігаю рай...

**Антаніна ХАТЭНКА.**
**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

# АБ ПАВЕЛІЧЭННІ ГРАШОВАЙ КАМПЕНСАЦЫІ РАСХОДАЎ НА БЕНЗІН І ТРАНСПАРТНАЕ АБСЛУГОЎВАННЕ ІНВАЛІДАЎ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

інвалідам Вялікай Айчыннай вайны, якія маюць па медыцынскіх паказаннях права на атрыманне бясплатна аўтамабіля з ручным кіраваннем, але не атрымалі яго або купілі аўтамабіль іншай маркі за поўны кошт;

1.2. У памеры 700 тыс. рублёў у год:

інвалідам I групы (акрамя інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны), якія маюць па медыцынскіх паказаннях права на забеспячэнне аўтамабілем з ручным кіраваннем (мотакаляскай) на льготных умовах, але не атрымалі яго;

інвалідам з прычыны працоўнага калецтва або прафесіянальнага захворвання, якія маюць па медыцынскіх паказаннях права на забеспячэнне аўтамабілем з ручным кіраваннем (мотакаляскай) на льготных умовах, але не атрымалі яго. У гэтым выпадку выплата кампенсацыі праводзіцца тымі, хто прычыніў шкоду.

2. Устанавіць з 1 студзеня 1996 г. штогадовую грашовую кампенсацыю расходаў на бензін, рамонт, тэхнічнае абслугоўванне аўтамабіляў і мотакалясак і запасныя часткі да іх:

2.1. У памеры 560 тыс. рублёў у год:

інвалідам Вялікай Айчыннай вайны і іншым інвалідам з ліку ваеннаслужачых, якія атрымалі згодна з дзеючым заканадаўствам бясплатна аўтамабіль «Запарожац» («Таўрыя»);

інвалідам Вялікай Айчыннай вайны і іншым інвалідам з ліку ваеннаслужачых, якія маюць згодна з дзеючым заканадаўствам права на бясплатнае атрыманне аўтамабіля «Запарожац» («Таўрыя») або мотакаляскі, але набылі аўтамабіль іншай маркі з залікам кошту аўтамабіля «Запарожац» («Таўрыя») з ручным кіраваннем або мотакаляскі;

Героям Савецкага Саюза і поўным кавалерам ордэна Славы пры наяўнасці ў іх аўтамабіля, атрыманага праз органы сацыяльнай абароны або набытага за поўны кошт;

інвалідам з ліку ваеннаслужачых, інвалідам з прычыны агульнага захворвання, працоўнага калецтва або прафесіянальнага захворвання, інвалідам дзяцінства, якія маюць згодна з заключэннем медыка-рэабілітацыйнай экспертнай камісіі права на забеспячэнне аўтамабілем з ручным кіраваннем або мотакаляскай бясплатна ці на льготных умовах і набылі аўтамабіль з ручным кіраваннем, ваджэнне якога ажыццяўляюць самі;

сваякам, якія сумесна пражываюць (пры наяўнасці аўтамабіля) і ажыццяўляюць догляд інваліда дзяцінства або дзіцяці-інваліда да 16 гадоў, які пакутуе ад дзіцячага цэрэбральнага паралічу ці захворвання (калецтва), звязанага з катастрофай на Чарнобыльскай АЭС, якія маюць права на забеспячэнне аўтамабілем «Запарожац» («Таўрыя») бясплатна або на льготных умовах;

2.2. У памеры 280 тыс.рублёў у год:

інвалідам Вялікай Айчыннай вайны II групы, якія маюць на праве асабістай уласнасці аўтамабіль, ваджэнне якога

ажыццяўляюць самі ці па даверанасці сваякі, якія сумесна пражываюць;

інвалідам Вялікай Айчыннай вайны і іншым інвалідам з ліку ваеннаслужачых, якія атрымалі мотакаляску бясплатна;

інвалідам Вялікай Айчыннай вайны II групы, якія не маюць права на бясплатнае забеспячэнне мотакаляскай, але набылі яе за поўны кошт;

інвалідам з прычыны агульнага захворвання, працоўнага калецтва ці прафесіянальнага захворвання, а таксама інвалідам дзяцінства, якія атрымалі мотакаляску бясплатна ці на льготных умовах.

3. Прызнаць страціўшай сілу Пастанову Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 7 лістапада 1994 г. № 170 «Аб павелічэнні грашовай кампенсацыі расходаў на бензін і транспартнае абслугоўванне інвалідаў у сувязі з ростам дзяржаўных цэн на энерганосьбіты» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1994 г., № 10, арт. 262).

**Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь** **М.ЧЫГІР.**

9 красавіка 1996 г.
г.Мінск.

# *Леанід* МАЛЬЦАЎ: «БЕЛАРУСКАЯ АРМІЯ БЫЛА І ЗАСТАЕЦЦА АРМІЯЙ СУВЕРЭННАЙ ДЗЯРЖАВЫ»

**З міністрам абароны Беларусі генерал-лейтэнантам Леанідам МАЛЬЦАВЫМ гутарыць карэспандэнт «Інтэрфакса» Вячаслаў ЗЯНЬКОВІЧ**

**— Леанід Сямёнавіч! У гэтым годзе плануецца завяршыць вывад з беларускай тэрыторыі расійскіх ядзерных ракет стратэгічнага прызначэння. Ці захоўваецца графік вываду?**

— Так, графік захоўваецца. На момант набыцця Беларуссю дзяржаўнага суверэнітэту на тэрыторыі рэспублікі знаходзілася 81 ядзерная ракета стратэгічнага прызначэння, якая дасталася нашай рэспубліцы ў спадчыну ад ліквідаванага Савецкага Саюза. Згодна з падпісаным Беларуссю міжнародным дагаворам, перададзеныя Расіі ракеты павінны быць вывезены з рэспублікі. На сённяшні дзень у Беларусі засталося толькі 18 стратэгічных ядзерных ракет. Мяркуецца, што яны пакінуць нашу тэрыторыю да канца гэтага года.

Прэзідэнт рэспублікі не раз у сваіх выступленнях адзначаў, што, нягледзячы на вялікія эканамічныя цяжкасці, Беларусь, якая няўхільна выконвае свае абавязацельствы па вываду ядзернай зброі, не можа абыякава ставіцца да заяў кіраўнікоў шэрага ўсходнееўрапейскіх дзяржаў аб намерах уступіць у НАТО і размясціць на сваіх тэрыторыях ядзерныя ракеты Паўночна-Атлантычнага альянсу. Поўнасцю падзяляю пазіцыю нашага Прэзідэнта, які, дарэчы, папярэдзіў аб гатоўнасці рэспублікі прыняць, калі такое адбудзецца, адэкватныя меры.

**— Ці дапускаеце вы ў гэтай сувязі магчымасць прыпынення (вядома, узгадніўшы гэта пытанне з Расіяй) вываду ядзерных ракет Беларуссю ў выпадку ўступлення некаторых Усходнееўрапейскіх дзяржаў у НАТО і наступнага размяшчэння на іх тэрыторыях ядзернай зброі Паўночна-Атлантычнага альянсу?**

— Думаю, што для такіх «рэзкіх» крокаў справа не дойдзе. Міжнароднае ж супольніцтва разумее ўсю небяспеку канфрантацыйных дзеянняў і ўсведамляе, да чаго яны могуць прывесці.

Кіраўніцтва нашай рэспублікі будзе дзейнічаць у адпаведнасці са становішчам.

**— А ў выпадку ўступлення ў НАТО Польшчы ці дапускаеце вы магчымасць передыслакацыі часцей і падраздзяленняў беларускіх Узброеных Сіл з мэтай іх канцэнтрацыі паблізу беларуска-польскай граніцы? Калі Польшча далучыцца да Паўночна-Атлантычнага альянсу, ці магчыма з'яўленне непадалёку ад граніцы з гэтай краінай расійскіх ваенных баз? Расія павінна садзейнічаць умацаванню баяздольнасці сваёй ваеннай саюзніцы...**

— Зараз мне цяжка сказаць што-небудзь пэўнае адносна перспектыў размяшчэння на тэрыторыі Беларусі расійскіх ваенных баз. Калі нават іх размяшчэнне акажацца калі-небудзь мэтазгодным, трэба будзе старанна вывучыць гэта пытанне на прадмет адпаведнасці дзеючаму заканадаўству.

Якой бы дружалюбнай для нас краінай ні была Расія, тым не менш, яна застаецца іншай дзяржавай. І размяшчэнне на беларускай тэрыторыі замежных ваенных баз з'яўляецца юрыдычна няпростай праблемай.

Што датычыць магчымасці передыслакацыі ваенных сіл з мэтай іх канцэнтрацыі паблізу беларуска-польскай граніцы, то як і ў адказе на папярэдняе пытанне, адзначу: кіраўніцтва рэспублікі будзе дзейнічаць у адпаведнасці са становішчам.

Безумоўна, калі Польшчу прымуць у НАТО, Беларусь будзе вымушана адказаць на гэта адпаведнымі мерамі, як палітычнымі, так і ваеннымі.

Такі крок, як канцэнтрацыя войскаў ля польскай граніцы — крайнасць, на якую можна пайсці толькі пасля таго, як будуць вычарпаны ўсе палітычныя сродкі па ўрэгуляванню пытанняў, звязаных са спробамі змяніць існуючы цяпер ваенна-палітычны баланс у Еўропе.

Упэўнены, што да такіх крайнасцей справа не дойдзе. Згубнасць курсу на процістаянне войскаў разумеюць усе бакі.

**— Набыўшы незалежнасць, Беларусь стала першай у свеце дзяржавай, якая добраахвотна адмовілася ад валодання ўласнай ядзернай зброяй. З пункту гледжання сённяшняга дня, наколькі палітычна дальнабачным і граматным было гэта рашэнне? Ці не з'яўляецца яно памылкай?**

— Адназначны адказ на гэта пытанне даць вельмі цяжка.

На мой погляд, як чалавека ваеннага, адразу пасля распаду СССР трэба было вызначыць кошт ядзернай зброі, якая знаходзіцца на тэрыторыі рэспублікі, і, па магчымасці выплаты Беларусі адпаведных сродкаў, выводзіць ракеты. Гэта дазволіла б намнога прасцей і лягчэй вырашаць фінансавыя пытанні.

Меркаваць аб тым, наколькі адмова ад уласнай ядзернай зброі была палітычна дальнабачнай ці не, асабіста я не магу, паколькі не ведаю ўсіх нюансаў палітычнай сітуацыі вакол гэтай праблемы, што былі на той момант. Напэўна, пэўная ступень папулізму ў прыняцці рашэння прысутнічала. На фоне пануючай тады эйфарыі гэта, відаць, было непазбежна.

Адмовіўшыся ад валодання ядзернымі ракетамі, Беларусь зрабіла прыгожы жэст, але нічога ўзамен не атрымала. Можна было старанна пралічыць вынікі рашэння аб вывадзе ракет... Але ў любым выпадку, у эканамічнам плане далёка не ўсё было зроблена мэтазгодна.

**— Раскажыце, як справы са скарачэннем узбраенняў згодна з Дагаворам аб звычайных узброеных сілах у Еўропе?**

— Беларусь практычна выканала ўсе свае абавязацельствы па ўказанаму дагавору.

З 1992 года рэспубліка скараціла 1873 танкі, 1441 бронемашыну, 130 баявых самалётаў. Згодна з пэўнымі для нашай рэспублікі квотамі, на ўзбраенні беларускай арміі засталося 1800 танкаў, 2600 бронемашын, 1615 артылерыйскіх установак, 294 баявыя самалёты і 80 верталётаў.

Такім чынам, рэспубліцы трэба скараціць толькі крыху больш як 100 бронемашын, пасля чаго можна будзе заявіць аб тым, што Беларусь поўнасцю выканае свае абавязацельствы па дагавору ЗУСЕ.

Яшчэ на мінулым тыдні колькасць танкаў, якія падлягалі ліквідацыі, было на 100 адзінак больш, але з падпісаннем кантракта на перадачу машын Венгрыі неабходнасць знішчэння танкаў адпала.

Адбылося так званае каскадзіраванне, калі Венгрыя абавязалася знішчыць 100 сваіх танкаў старой мадэлі, а Беларусь прадала ёй 100 больш сучасных машын. Выгада — двухбаковая.

**— Леанід Сямёнавіч! Беларусь і Расія абвясцілі курс на інтэграцыю. Як гэта адаб'ецца на жыццядзейнасці беларускай арміі?**

— У цэлым інтэграцыя станоўча адаб'ецца на становішчы ва Узброеных Сілах.

Тут важна разумець, што беларуская армія застаецца арміяй суверэннай дзяржавы. Узброеныя сілы рэспублікі па-ранейшаму падпарадкаваны толькі аднаму Галоўнакамандуючаму — Прэзідэнту Беларусі.

Згодна з дасягнутымі дагаворанасцямі, Расія бясплатна прадастаўляе магчымасць рамантаваць узбраенне і тэхніку, праводзіць яе тэхнічнае абслугоўванне, падрыхтоўку кадраў, пастаўку гаруча-змазачных матэрыялаў для баявога дзяжурства, прадастаўляць вучэбныя палігоны для стрэльбаў, асабліва сродкаў ППА вялікай далёкасці.

Асобныя палітыкі, якія палохаюць народ тым, што быццам бы беларускія ваеннаслужачыя будуць цяпер накіроўвацца ваяваць у Чачню, бессаромна хлусяць. У Беларусі дзейнічаў і дзейнічае закон, у адпаведнасці з якім ні адзін наш салдат не можа прымаць удзел у войнах за межамі рэспублікі.

**— А можа, гэта якраз дрэнна? Тэхнічна добра аснашчанай беларускай арміі патрэбны афіцэры, якія маюць вопыт баявых дзеянняў.**

— Я з такой пастаноўкай пытання не згодны. Сучасная тэхніка і сістэма кіравання дазваляюць у ходзе вучэнняў мадэліраваць любыя варыянты баявых дзеянняў. Вопыт паказвае, што калі на вучэннях войскі падрыхтаваны добра, то ў рэаліях вайны праблем з навыкамі і вывучкай не ўзнікае.

Чалавечае жыццё і здароўе намнога важней за дывідэнды ад наяўнасці ў войсках мноства афіцэраў, якія «нюхалі порах». Тым больш, што ў нас дастаткова афіцэраў, якія маюць вопыт Афганістана. Задача ў тым, каб эфектыўна гэты вопыт выкарыстаць.

**— У рамках беларуска-расійскай інтэграцыі ці плануецца стварэнне аб'яднанага камандавання войскамі ці аб'яднанага камандавання якой-небудзь асобнай групоўкай войскаў?**

— Не, не плануецца. Уся работа будзе будавацца на каардынацыі дзеянняў. Кожны бок сам вырашае, якая армія яму патрэбна.

Нават у выпадку баявых дзеянняў камандаванне войскамі не будзе кааліцыйным. Кожная краіна будзе камандаваць сваёй арміяй, узгадняючы сумесныя планы.

# АД ТОРБЫ НЕ ЗАСТРАХАВАНЫ НІХТО?

**Жабрацтва... З мэтай разабрацца ў прычынах гэтай з'явы ў грамадскім прэс-цэнтры Дома друку за «круглым сталом» сабраліся прадстаўнікі СМІ, міністэрстваў унутраных спраў, адукацыі і навукі, сацыяльнага забеспячэння, Беларускага таварыства Чырвонага Крыжа і медыцынскіх установ.**

Называліся наступныя лічбы і факты: у 1995 годзе праз спецыяльныя прыёмнікі-размеркавальнікі прайшлі 1245 чалавек без пэўнага месца жыхарства; з іх 1029 мужчын (75 працэнтаў) і 216 жанчын (25 працэнтаў). 1236 чалавек (91 працэнт), якія аказаліся за бортам жыцця, з'яўляюцца працаздольнымі, прычым 970 чалавек, або 85 працэнтаў, маюць рабочыя спецыяльнасці. 700 бамжоў былі адпраўлены органамі ўнутраных спраў да выбранага імі месца жыхарства, 172 — для працаўладкавання, 120 — на прымусовае лячэнне, 19 — у дамы-інтэрнаты агульнага тыпу.

Наша грамадства сапраўды сур'ёзна хварэе: у Беларусі на душу насельніцтва сёння прыпадае 25 літраў спіртнога ў год, што ў 3 разы перавышае мяжу генетычнай рызыкі, 43 працэнты народжаных з'яўляюцца на свет з адхіленнямі ў псіхіцы, з'явіўся нават тэрмін «алкагольны сіндром плода».

90 працэнтаў бамжоў — гэта хранічныя алкаголікі, якія пускаюць на свет да сябе падобных. Цяжкая эканамічная сітуацыя пагражае ў хуткай будучыні папоўніць рады адвергнутых грамадствам людзей. Ізгоямі ў перспектыве могуць стаць людзі, якія вызваліліся з месцаў пазбаўлення волі, бежанцы, маці-адзіночкі, непаўналетнія з няшчаслівых сем'яў.

Існуе і маральны аспект гэтай праблемы: клапаціцца аб бамжах або абараняцца ад іх? І ці такія яны безабаронныя, калі ў мінулым годзе імі было ўчынена 269 злачынстваў, у тым ліку 8 забойстваў?

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

# УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 141
## АБ СТВАРЭННІ ПРАВАВОГА КАНСУЛЬТАТЫЎНАГА САВЕТА ПРЫ ПРЭЗІДЭНЦЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

1. Стварыць Прававы кансультатыўны савет пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь.

2. Зацвердзіць Палажэнне аб Прававым кансультатыўным савеце пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь і састаў указанага савета (прыкладаюцца).

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА**

12 красавіка 1996 г.
г.Мінск.

*ЗАЦВЕРДЖАНА Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 12 красавіка 1996 г. № 141*

## ПАЛАЖЭННЕ АБ ПРАВАВЫМ КАНСУЛЬТАТЫЎНЫМ САВЕЦЕ ПРЫ ПРЭЗІДЭНЦЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

1. Прававы кансультатыўны савет пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь (далей — савет) ствараецца для вывучэння і прававой ацэнкі праектаў заканадаўчых актаў і канцэпцый дзяржаўнай палітыкі ў сферы прававога рэгулявання і правапрымяняльнай практыкі ў мэтах вызначэння неабходнасці іх прыняцця, а таксама прагназіравання эфектыўнасці дзеяння такіх законапраектаў і выпрацоўкі навукова абгрунтаваных прапаноў па іх рэалізацыі.

2. Савет у сваёй дзейнасці кіруецца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь і гэтым Палажэннем.

3. Савет фарміруецца з ліку найбольш вопытных і высокакваліфікаваных спецыялістаў у галіне права.

Персанальны састаў савета зацвярджаецца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

4. Асноўнымі задачамі савета з'яўляюцца:

аналіз сітуацыі ў прававой сферы і прагназіраванне развіцця грамадскіх адносінаў з пункту гледжання юрыдычнай навукі і правапрымяняльнай практыкі;

аналіз стану законнасці ў рэспубліцы, распрацоўка і ўнясенне прапаноў па яе ўмацаванню, забеспячэнню правоў і свабод грамадзян;

вывучэнне практыкі работы адпаведных праваахоўных органаў і падрыхтоўка прапаноў па яе ўдасканаленню;

удзел у распрацоўцы праграм па ўзмацненню барацьбы са злачыннасцю, умацаванню грамадскага парадку, прававому выхаванню насельніцтва;

аналіз дзяржаўных праграм па пытаннях падрыхтоўкі законапраектаў і распрацоўка прапаноў па планаванню законапраектных работ;

ацэнка мэтазгоднасці прыняцця заканадаўчых актаў і канцэпцый дзяржаўнай палітыкі ў сферы прававога рэгулявання грамадскіх адносінаў і правапрымяняльнай практыкі;

вывучэнне праектаў заканадаўчых актаў і падрыхтоўка адпаведных заключэнняў;

прагназіраванне вынікаў рэалізацыі заканадаўчых актаў;

аналіз стану спраў з падрыхтоўкай юрыдычных кадраў, у тым ліку вышэйшай кваліфікацыі, укамплектаваннем такімі кадрамі дзяржаўных органаў і арганізацый;

распрацоўка адпаведных практычных рэкамендацый для дзяржаўных органаў.

5. Савет мае правы:

ажыццяўляць ва ўстаноўленым парадку экспертызу дакументаў, што знаходзяцца на яго разглядзе;

прыцягваць ва ўстаноўленым парадку спецыялістаў міністэрстваў, іншых цэнтральных органаў кіравання, прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый для правядзення экспертызы адпаведных праектаў дакументаў;

запытваць і атрымліваць ад міністэрстваў, іншых цэнтральных органаў кіравання, прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый, а таксама службовых асоб інфармацыю і матэрыялы, неабходныя для ажыццяўлення ўскладзеных на савет задач.

6. Савет арганізуе сваю работу ў адпаведнасці з зацверджаным планам. Пасяджэнні савета праводзяцца па меры неабходнасці.

Савет правамоцны прымаць рашэнні пры ўмове прысутнасці на пасяджэнні савета не менш за дзве трэці яго членаў. Рашэнні прымаюцца простай большасцю галасоў прысутных на пасяджэнні членаў савета.

Рашэнні савета афармляюцца пратаколам і даводзяцца да ведама Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і ў Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь.

7. Арганізацыйнае і інфармацыйнае забеспячэнне савета ажыццяўляецца Адміністрацыяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне — Кіраўніцтвам справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

*Састаў савета будзе змешчаны ў наступным нумары «Звязды».*

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## ДЗЕТКІ — ШТО КВЕТКІ. А ЧАЦВЁРА — БУКЕТ!

**Дзіця — гэта заўсёды радасць, а вось на сям'ю Авецісян з Мінска шчасце абрынулася ў чатырохразовым памеры: дваццаціпяцігадовая Ліліт нарадзіла свайму мужу чацвярых дзяўчат. Падзея гэта неардынарная не толькі для Беларусі, але і для Арменіі — радзімы шчаслівых мужа і жонкі. У Мінскім абласным раддоме, дзе адбыўся гэты цуд, урачы (прынамсі, за апошнія 15 гадоў) такога выпадку не прыгадваюць, хоць штогод на свет тут паяўляюцца па 3-4 тройні.**

Трое з народжаных малышоў — блізняты. Нягледзячы на тое, што чацвярня па вазе і росту крыху ўступае сваім равеснікам (рост ад 33 да 38 см, вага — ад 1 кг 430 г да 1 кг 700 г), жыццю немаўлят небяспека ўжо не пагражае. Мама таксама адчувае сябе добра.

Да паяўлення ў гэтай маладой сям'і дзяцей мінула 4 гады, так што маладыя бацькі з лішкам «навярсталі» ўпушчаны час. Бацька чацвярні займаецца прадпрымальніцтвам. Але папаўненне сям'і адразу чатырма жанчынамі, безумоўна, самае сапраўднае разарэнне для любога мужчыны!

Да гэтага часу ў радні Авецісян ні блізнят, ні двайнят не было, таму нараджэнне адразу чатырох малышоў стала, бадай, прадметам сямейнай гордасці.

У час майго прыезду ў раддом сустрэцца з незвычайнай сямейнай парай мне, на жаль, не ўдалося — муж забраў сваю жонку, каб сустрэцца са шчаслівай раднёй, якая прыехала да іх з Арменіі. Пасля чаго мама павінна вярнуцца ў бальніцу пад нагляд урачоў.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## *ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ*

**І СЦІПЛА ПРАПАНАВАЎ СВАЮ КАНДЫДАТУРУ...**

Лідэр руху «Яблоко» Рыгор Яўлінскі прапанаваў Барысу Ельцыну зняць сваю кандыдатуру на выбарах прэзідэнта для таго, каб у некамуністычнах сіл з'явіўся шанц перамагчы 16 ліпеня. Ён выказаў сумненне ў тым, што ў выпадку выхаду Ельцына і лідэра кампартыі Генадзя Зюганава ў другі тур выбараў цяперашняму кіраўніку дзяржавы наўрад ці ўдасца выйграць. Лідэр «Яблока» падкрэсліў неабходнасць аб'яднання ўсіх некамуністычных сіл для падтрымкі аднаго кандыдата ў прэзідэнты. А найбольш падыходзячай кандыдатурай для гэтай мэты Яўлінскі бачыць сябе.

**ЛЁС ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ АЭС ВЫРАШЫЦЬ «ВЯЛІКАЯ ВАСЬМЁРКА»**

На самміце кіраўнікоў сямі вядучых краін свету і Расіі па праблемах ядзернай бяспекі, які адбудзецца 19-20 красавіка ў Маскве, будзе разгледжана пытанне аб будучым Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі на Украіне. Чакаецца, што ў рабоце саміта возьме ўдзел прэзідэнт Украіны Кучма. Найбольшую занепакоенасць у спецыялістаў выклікае не сама работа станцыі, а саркафаг над энергаблокам, дзе адбылася аварыя.

**ЖЫРЫНОЎСКІ «ПАКЛАПАЦІЎСЯ» ПРА ГРОШЫ РАСІЯН**

Лідэр фракцыі ЛДПР Уладзімір Жырыноўскі патрабуе з першага мая на два месяцы закрыць аэрапорт «Шарамецьева-2». Жырыноўскі паведаміў, што ўсе білеты на авіярэйсы ў заходнім напрамку скуплены да 1 ліпеня. Сотні тысяч расіян у залежнасці ад вынікаў прэзідэнцкіх выбараў збіраюцца выехаць з краіны разам са сваімі сем'ямі. «Трэба прадухіліць выезд на Захад зладзеяў з нашымі грашыма», — сказаў Жырыноўскі і запатрабаваў праверыць спісы ўсіх грамадзян, якія набылі білеты. «80 працэнтаў айчыннай эліты, якія маюць двайное грамадзянства, ужо поўнасцю забяспечылі свой выезд на Захад у выпадку спрыяльнага для іх выніку прэзідэнцкіх выбараў», — сцвярджае лідэр ЛДПР.

**ПАЖАР ЗАБРАЎ ЖЫЦЦІ 20-ці ЧАЛАВЕК**

У выніку моцнага пажару ў другім па велічыні аэрапорце Германіі — горада Дзюсельдорфа загінулі мінімум 20 чалавек, каля 100 атрымалі апёкі. Па словах паліцыі, колькасць ахвяр можа павялічыцца. Як перадае «Нямецкая хваля», пажар у аэрапорце Дзюсельдорфа ўспыхнуў у чацвер у другой палове дня. Аэрапорт закрыты і часткова эвакуіраваны. Прычынай пажару маглі стаць зварачныя работы. Больш як 200 пажарных з Дзюсельдорфа і бліжэйшых гарадоў усю ноч змагаліся з агнём і раніцай усё ж здолелі патушыць пажар.

***Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.***

# ГАРЭЛІК Леў Давідавіч

Беларускае мастацтва панесла вялікую страту. 11 красавіка пасля цяжкай хваробы пайшоў з жыцця выдатны скрыпач, народны артыст Беларусі Леў Давідавіч Гарэлік. Ён нарадзіўся ў 1929 годзе ў Бабруйску, музычную адукацыю набыў у Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, але ж задоўга да яе заканчэння 16-гадовым юнаком пачаў творчы шлях артыстам Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра БССР. З 1956 года Леў Давідавіч быў нязменным канцэртмайстрам і салістам аркестра Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета, спрыяючы павышэнню прафесіянальных якасцей свайго калектыву не толькі бездакорнай уласнай ігрой, але і паслядоўнай карпатлівай выхавальніцкай работай.



Паралельна з працай у аркестрах Л.Д.Гарэлік вёў сольную канцэртную дзейнасць. Ён выканаў і запісаў на магнітную стужку і грампласцінкі пераважную большасць скрыпічных твораў беларускіх кампазітараў. Сам факт існавання такога таленавітага, высокапрафесіянальнага і бясконца адданага нацыянальнаму мастацтву музыканта стымуляваў стварэнне санат, канцэртаў, мініяцюр для скрыпкі. Без удзелу Льва Давідавіча не абыходзіўся ніводны кампазітарскі з'езд, пленум, паказ беларускай музыкі за межамі рэспублікі. Цудоўная скрыпка Льва Гарэліка гучала ў многіх краінах.

Здзіўляючая творчая энергія Л.Д.Гарэліка знаходзіла выхад і ў педагагічнай працы спачатку ў Мінскім музычным вучылішчы, пазней у Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі (Акадэміі музыкі), дацэнтам якой ён з'яўляўся з 1993 года.

Светлы і шчодры талент Л.Д.Гарэліка, творчая бескампраміснасць і прынцыповасць, добразычлівасць, таварыскасць у адносінах да людзей назаўсёды застануцца ва ўдзячнай памяці ўсіх, хто яго ведаў.

**Мясніковіч М.У., Русакевіч У.В., Сасноўскі А.У., Ярмошын У.В., Алоўнікаў У.У., Анісімаў А.М., Багатыроў А.В., Бузук Р.Л., Вагнер Г.М., Гільдзюк Ю.М., Глебаў Я.А., Дрынеўскі М.П., Дудараў А.А., Душкевіч І.А., Елізар'еў В.М., Казінец М.А., Калядка М.С., Картэс С.А., Ламановіч Н.І., Лучанок І.М., Лях Л.П., Ніжнікава Т.М., Пелагейчанка Э.І., Пятроў Я.Ф., Ратабыльскі У.П., Сасноўскі А.П., Саўчанка А.М., Смольскі Д.Б., Траян Ю.А., Чарнабаеў В.М.**

# БАРЫСАЎСКАГА ПАТОПУ НЯМА. ЁСЦЬ ТОЛЬКІ ЗВЫКЛАЕ БАЛОТА

**Для барысаўчан паводкі — справа ўжо звыклая. Сёння тут няма «вялікай вады», і да сродкаў перамяшчэння не дададзены лодкі, як гэта было 2-3 гады таму, а падрыхтаваныя загадзя для барацьбы са стыхіяй ваенныя, міліцэйскія і пажарныя сілы могуць і не спатрэбіцца. Ёсць падставы ўздыхнуць з палёгкай і ў гараджан. Хоць і не бывае дня, каб у гарадскі штаб грамадзянскай абароны не паступалі заявы ад мясцовых жыхароў.**

На нашых вачах малады хлопец прынёс у штаб стос заяў з вуліцы Заходняй: «Людзі ўздзіраюць падлогі ў хатах, затоплены двары, агароды». Заходняя ў гэты дзень жыла сваім звычайным жыццём — як і ўвесь горад, нават яго традыцыйна самы паводканебяспечны раён.

«Тыдзень таму адпампавалі ваду, што затапіла гарадскі рынак, а ўвогуле, асаблівых інцыдэнтаў не было»,— расказаў старшыня гарадской камісіі па надзвычайных сітуацыях Валерый Гайдук. «Зараз вада трохі сышла, праўда, яна — пад падмоклай падлогай хаты»,— ацаніла абстаноўку ў сваёй гаспадарцы жыхарка 1-га Залінейнага завулка Леаніда Моніч. Яшчэ ўчора, па словах Леаніды Пятроўны, яна думала, што давядзецца занесці на гарышча сваіх козачак, Белку і Чарнуху. Затое сусед Монічаў, Іван Бярозка, пакуль ходзіць па двары як па балоце. Сяго-таго з суседзяў выратоўваюць высокія фундаменты дамоў, хаця тут кажуць, што фундаменты «нібыта едуць і едуць уніз, як у багну». (І дадаюць: «Нездарма ж тут у нас некалі тапіла немцаў, а яшчэ раней — Напалеона!»)

Хаця ў горадзе сёння падтоплена вадою каля 50 двароў і агародаў (прыватны сектар у Барысаве складае больш за палову горада), а на многіх вуліцах лужы і гразь, настрой у гараджан спакойны і нават бадзёры. Магчыма, нават занадта, хаця і не віна людзей у тым, што да мокра-гразкай вясны тут даўно прывыклі. У гарадскім штабе спланаваны, як і належыць, мерыпрыемствы па надзвычайных сітуацыях, але ў дачыненні да з'яў звычайных, памянёных вышэй... Распрацаваны цэлы план па барацьбе з веснавымі і ліўневымі паводкамі, толькі для яго поўнага ажыццяўлення ўсё нечага не хапае: як сказалі нам у штабе, грошай. Называлася нават канкрэтная (не надта вялікая) сума, патрэбная для аднаўлення сцёкаў, якую некалі абяцала выдзеліць кіраўніцтва рэспублікі. Пакуль жа гараджане капаюць сцёкі на незаасфальтаваных вуліцах самі, кожную вясну жывуць у звыклым ужо брудзе і скептычна заўважаюць, што грошы на прывядзенне вуліц горада ў парадак ці не дойдуць па прызначэнню, ці не прыйдуць увогуле.

У Барысаве ўсё спакойна. Штодзень 3—5 машын адпампоўваюць ваду, але гэта нішто ў параўнанні з тым, што магло б здарыцца. Аб магчымай бядзе барысаўчан папярэдзілі яшчэ месяц таму па радыё і ў мясцовай газеце, але, як зазначыў В. П. Гайдук, да парад прыслухаліся не ўсе жыхары (нават да парады застрахаваць маёмасць, каб атрымаць кампенсацыю за тую ж «патопленую» бульбу). Відаць, проста прывыклі жыць шмат гадоў з паводкамі, і не толькі вясной, але і падчас ліўняў.

— Мароз дапамагаў нам увесь сакавік, і зараз таксама надвор'е дапамагае,— кажуць у Барысаве. Дзякуючы надвор'ю шкоду прыносяць толькі талыя воды. Бярэзіна, на якой ужо пачаўся крыгалом, паднялася толькі на 20 сантыметраў. Сіноптыкі на бліжэйшыя дні абяцаюць пахаладанне. І можна будзе скінуць галошы ці гумавыя боты і ўздыхнуць з палёгкай — да наступнай вясны ці бліжэйшых ліўневых дажджоў.





**Таццяна СНІТКО.**
**Фота Віктара ДРАЧОВА.**

## СВАЕ ПРАВЫ ТРЭБА ВЕДАЦЬ І АБАРАНЯЦЬ З ЮНАЦТВА

**Як вядома, ААН аб'явіла 1995—2005 гг. Дзесяцігоддзем адукацыі ў галіне правоў чалавека. Гэтай надзвычай актуальнай праблеме быў прысвечаны «круглы стол», які днямі правёў Рэспубліканскі інстытут вышэйшай школы і гуманітарнай адукацыі. Яго тэма — правы чалавека на жыццё і бяспеку ў Беларусі.**

Адзін з арганізатараў «круглага стала» — прафесар, віцэ-прэзідэнт Беларускай асацыяцыі садзейнічання ААН Анатоль Гусеў лічыць, што правы чалавека — фундаментальная аснова прававой сістэмы дэмакратычнага грамадства. На жаль, грамадзяне нашай краіны яшчэ не жылі ва ўмовах паўнацэннай дэмакратыі, не ведаюць, як трэба цывілізавана адстойваць свае правы. Таму гэтаму трэба вучыць з маладых гадоў. Удзельнікі «круглага стала» падтрымалі мяркуемае стварэнне Нацыянальнага савета па адукацыі ў галіне правоў чалавека.

**Леанід ТУГАРЫН.**

**АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ**

# ЯНА — ПРАВАСЛАЎНАЯ, Я — КАТАЛІК

Зала прыціхла, з замілаваннем слухала песню. Кранала мелодыя — шчымлівая, нават журботная. І словы пра жыццё, такое блізкае, знаёмае кожнаму з прысутных па хрэстаматыйных творах. Яны выклікалі ў памяці родныя краявіды, вымалёўвалі вобраз самотнай старонкі. Часам голас выканаўцы заціхаў, нібы баючыся перадаць затоеныя перажыванні — і тады ў напружанні выразна спявала гітара, працінаючы душу сваім пералівістым мяккім звонам, заклікаючы да роздуму.

Моладзь — а яна складала пераважную большасць гледачоў на фестывалі бардаўскай песні «Травень-93», які арганізавала маладзёжная радыёстанцыя ў мінскім Доме літаратараў, — па-новаму ўспрымалі свайго куміра Віктара Шалкевіча і яго манеру выканання. Яшчэ некалькі месяцаў раней, у лютым таго ж самага 1993 года, на конкурсе самадзейнай аўтарскай песні ён узрушыў прысутных сваімі вакальнымі творамі «Гарадоцкі раманс», «Самотны беларускі блюз», «Добрай раніцы!». У іх юнацкая задзірыстасць і сарказм, якія выкрывалі дробязь, але вельмі істотную ў характары і паводзінах насельнікаў нашага краю, суседнічалі з пашанаю і павагаю да нацыянальнай гісторыі і культуры. Такім успрымалі Віктара Шалкевіча, акцёра Гродзенскага тэатра лялек, маладога літаратара.

Цяпер у песні «Яна — праваслаўная, я — каталік» Віктар выказаў боль, што перапаўняе сэрцы нераўнадушных людзей. Ён распавядаў пра наканаваную падзеленасць паміж людзьмі ў нашым краі, дзе да сацыяльнай няроўнасці далучаецца і духоўная адасобленасць. І зноў жа ў тэксце маладога аўтара непрыхаваная іронія, надта ж горкая па сваёй сутнасці для лёсу беларусаў: па веравызнанні іх адносяць ці то да рускіх, ці то да палякаў:

*Навошта ты бедны народ падзяліў*
*На рускіх і польскіх, мой Божа?*

Толькі любоў, светлая, усяпранікальная, — сцвярджаецца ў песні — любоў паміж людзьмі, у якіх «і доля адна і нядоля адна», любоў да роднай старонкі, дзе «цягнуцца бедныя нашы шнуры ад лесу да самае вёскі», здольна ўсталяваць паразуменне, мір і спагаду на Зямлі...

Песня «Яна — праваслаўная, я — каталік» створана на пачатку 90-х гадоў. Яна шырока бытуе на Беласточчыне. Там яе спяваюць за бяседным сталом і ў вольную хвіліну — і яна ўспрымаецца ўжо як народная. Тут, на Беларусі, гэтая песня яшчэ не на слыху, толькі час ад часу гучыць па радыё. Аднак можна верыць, што яна ўвойдзе ў наш побыт і будзе служыць, як многія вакальныя творы, накшталт «Малітвы», прасвятленню і яднанню людзей нашай краіны.

**Міхась ШАВЫРКІН.**

## ЯНА — ПРАВАСЛАЎНАЯ, Я — КАТАЛІК

***Аўтар верша і музыкі Віктар Шалкевіч***

Чаму ж ты, мой Божа, так свет падзяліў
Няроўна? Няма ў ім спакою.
Багатаму зранку калышаш дзяцей,
Да беднага — ані нагою.
Куды нам падзецца, дзе ўцехі шукаць?
Наўкола ні друга, ні брата.
Ды знаюць у вёсцы і пан, і мужык,
Яна — праваслаўная, я — каталік.
Ды скажуць у вёсцы і пан, і мужык,
Яна — праваслаўная, я — каталік.

Нібыта спачыў старажытны праклён
На вузкіх бацькоўскіх палосках.
Глянь — цягнуцца бедныя нашы шнуры
Ад лесу да самае вёскі.
І доля адна, і нядоля адна
Ўва ўсіх не мінае нікога.
Ды знаюць у вёсцы і пан, і мужык,
Яна — праваслаўная, я — каталік.
Ды скажуць у вёсцы і пан, і мужык,
Яна — праваслаўная, я — каталік.

Навошта ты бедны народ падзяліў
На рускіх і польскіх, мой Божа?
Учыні якісь цуд, бо на гэтай зямлі
Ніхто нам з ёй не дапаможа.
Яна без мяне, а ні я без яе
Гадзіны пражыць не зможам.
Ды знаюць у вёсцы і пан, і мужык,
Яна — праваслаўная, я — каталік.
Ды скажуць у вёсцы і пан, і мужык,
Яна — праваслаўная, я — каталік.



*Віктар КАРАМАЗАЎ*

# ТАМАНЬ

***З ДЗЁННІКА***

**ЖЫЎ І ЖЫВУ ў дзвюх прасторах** — правінцыяльнай і сталічнай. Як быў малады, жыў у правінцыі — хацелася ў вялікі горад. Пазней жыў у Мінску, а сэрца тужыла па роднай правінцыі. Цяпер гэтакага разладу няма. Знайшоў раўнавагу, як каляндар астатніх дзён сваіх пароўну падзяліў на правінцыяльны і сталічны.

Жыць у дзвюх прасторах удвая цікавей. Але і цяжэй удвая. Да як быццам значнага, а па сутнасці мітусліва-падманлівага жыцця ў сталіцы прыкладаюцца цяжкасці жыцця ў маёй матэрыяльна і духоўна спустошанай радыяцыйнай зоне.

Але жывуць там і тут, ёсць магчымасць бачыць час, людзей і самога сябе ў вымярэннях і правінцыі, і сталіцы.

Яно ж не сакрэт, што шмат на якія рэчы і з'явы правінцыя і горад глядзяць па-рознаму.

**СТАЮ НА БЕРАЗЕ Сажа,** гляджу на ціхую ваду. Міма па беразе баба ў гадах аберуч валачэ каляску, на якой каравая выварка. Ад бабы, ад каляскі, ад вываркі смярдзіць свежы каравяк.

Да мяне пад'ехала і спынілася.

— А я вас ведаю. Вы пішаце кніжачкі. Калі не сакрэт, як вам цяпер за кніжачкі плоцяць?

Мне б сказаць, каб яна валакла сваю выварку далей, ды сказаць гэтак не магу, бо яна мяне ведае, і мне не ўсё адно, што пра мяне падумае і скажа іншым. Казаць жа, як плоцяць за кніжачкі, брыдка. А яна, зразумеўшы маю ніякаватасць, шчыра, як свой чалавек свайму чалавеку, раіць:

— Лепш, як пісаць кніжачкі, вы б, можа, як я, смурод вазілі на свой агарод? У вас былі б свае і бульбачка, і агурочак.

**ЯК ІШОЎ З САЖА дадому,** думаў пра бабулю з вываркай і яе параду. Крыўды на жанчыну не было. Ці крыўдаю плаціць за шчырасць і спагаду? У сталіцы гэтакай шчырасці не пачуеш, хоць і там пісьменніку шмат хто параіў бы тое самае, што баба з вываркай. Хіба што з іншым падтэкстам, без той, што ў яе, спагады.

А чаму: у правінцыі ўсё скажуць, а ў сталіцы скажуць не ўсё што падумаюць? Ад рознае меры культуры — там і тут?

Мера культуры не ў тым, сказаў ці не сказаў, а ў тым, што і як падумаў, кажучы.

І ў спагадзе. Яна ёсць ці яе няма.

За гэта і люблю правінцыю: тут скажуць усё, што думаюць. Пра ўсё. Пра ўсіх. І пра мяне.

Гэтая мая любоў, можа, адтуль, што я па сутнасці таксама чалавек правінцыяльны.

**ПАДУМАЛАСЯ І ТАК:** баба з вываркай сказала сваё, адно сваё, ці з дадаткам яшчэ і «дзяржаўнага светапогляду»? Бо ёсць у тым, што яна сказала, у яе парадзе — калі без спагады, — і сённяшняя дзяржаўная палітыка ў літаратуры і мастацтве.

**ЛІТАРАТУРНЫ СЮЖЭЦІК** прычаліць да майго берага і адчаліць. Падплыве і адплыве другі, трэці. Кожны сэрца раcтравіць, а я не ведаю, што з імі рабіць.

За два гады, пакуль гарэў, зімаваў у галавешках, адбудоўваў родны дом, ляжаў на аперацыйных сталах, залізваў раны, вырошчваў, каб перажыць уздым гуманізму айчынных рэфарматараў, бульбу, цыбулю, гуркі, моркву, капусту, адбіўся ад пісьмовага стала, ад стоса чыстай паперы, які раней на стале ляжаў і таяў, нібы вясновая крыга на сонейку, а цяпер ляжыць і зарастае пылам. Ужо і за стол сесці вусцішна: кроў халодная, галава гарачая. Сам сабе брыдкі.

Ахматава сказала добра: «Когда б вы знали, из какого сора растут стихи, не ведая стыда...» А сюжэт, як і верш, часцяком пачынаецца «из сора». З зярнятка, знойдзенага на сметніку, вырастае сюжэт дрэва раю ці дрэва пекла, зямное трансфармуецца ў нябеснае, матэрыяльнае — у духоўнае.

Дык жа камп'ютар працуе? Што за бяда?

Але сюжэцік як прыплывае, так і адплывае. Ён — усяго духоўная энергія задумы, не матэрыялізаваная ў слове. Дрэўца сюжэта — не дрэва твора.

І гэта яшчэ не ўся бяда. Яна яшчэ і ў тым, што не кожны сюжэт спяшаецца мяне пакінуць у спакоі. Іншы прыплыве і доўга чухаецца аб пясок майго берага. Гукае і чакае. Я не чую. Хапаюся, ратуючыся, за сякеру, пілу, рыдлёўку. А думкі не пра зямное — пра нябеснае. Адно выгляд раблю, што не чую голасу з берага. Я ўсё чую. Кідаю вобзем сякеру, ці пілу, ці рыдлёўку — бягу ад берага падалей. А куды збяжыш? Больш надзейны сродак — сюжэты прадаваць ці аддаваць, дарыць.

Я б іх, як па цяперашнім рынкавым часе, прадаваў. Ды няма крамы з шыльдаю: «Літаратурныя сюжэты». Няма на іх попыту?

Аддаваць задарам? Але ў Чэрыкаве і Крычаве — каму аддасі?

Спрабаваў ашчаслівіць Слаўку Лазарава. Але ён беражэ сваю галаву. Каб не стамлялася, піша кветкі, амаль адны кветкі. Ставіць іх у вазы, а вазы ў яго як п'яныя, стаяць і падаюць, а кветкі пахнуць не толькі сваёй жывіцаю, але і «Рускай горкай». Аднойчы я падарыў яму ідэю нацюрморта: кусточак конскага шчаўя з барвова-залацістым чубам, а ён мяне не зразумеў: дзе вазу ўзяць пад гэтакі букет? Даў і вазу: стэп, луг, засожжа. Пакруціў цяжкой галавою: не. Даў меншую: каровіну ляпёху пасярод лугу, цёплую — пішы над ёю кусточак шчаўя конскага з барвова-залацістым чубам. А ён пакрыўдзіўся. За што?

Сплавіць сюжэт гумарысту? Але той б'ецца над сваім: як збегчы з хаты ад жанчын? Жыве ў горадзе, будуецца ў глухмені, у вёсцы — там зажыве адзін. Там — лес і луг. Пегаса, кажа, выведзе на траўку, у сюжэцік запражэ. Але ж як яго выведзеш, калі ён здох?

Сюжэт падсунуў Віцю Куліненку. А ў яго мая бяда: сваіх хапае, а пісаць — порах адсырэў. Цяпер як сустрэнемся — здзекуецца: ну, колькі сюжэтаў прыплыло сёння? а колькі ўчора?

Кажу:

— Ад сябе адрываю — бяры?

А ён:

— Не адрывай, не кажы мне тое, што ад сябе. Як раскажаш — не напішаш. Астынеш.

Гэтую мудрасць я ведаю. Але ў мяне загадка зусім іншая: каму як раскажу, тады і напішу. Мой Пегас з гэтакім норавам: не валачэ, пакуль не грымне гром, а як грымне, як адчуе, што нехта можа абскакаць, тады і ён наўскач — адкуль сілы бяруцца?

А што я Віцю расказаў сваё?

Прывёз з лесу машыну дроў. Прыйшлі хлопцы з пілою. Папілавалі. Да поўначы сядзелі на тэрасе — дровы замочвалі. Разышліся: хто на двух, хто на чатырох. Лёг спаць — не спалася. Падняўся з ложка, апрануўся абы ў што і паваloкся на Сож.

А там — прыплыў сюжэцік.

Ноч — ціша, цеплыня. Ясная поўня над ракой і такая самая поўня ў рацэ. Бераг высокі — круча, я на кручы, паміж небам і зямлёю, паміж двума незамутнёнымі поўнямі. А што яшчэ? Зорак у небе насыпана, Богавых дзетак, і ўсе яны — у рацэ купаюцца. У святле поўні і зорак плыве лодка, на ёй — капа сена і чалавек з вяслом. Нячутна плывуць — ні вясло не коўтнецца ў вадзе, ні вада не пялёхнецца. А на беразе, сустракаючы лодку, стаіць жанчына і ў яе каля ног — рабы сабака. Лодка падплывае, соўгае носам у пясок берага, і мужчына сыходзіць на бераг. Яны пераносяць сена з лодкі на бераг, за вербалоз, а потым стаяць побач, ціха гамоняць, пра што — не чую, цалуюцца. Ён зноў садзіцца ў лодку і плыве на той бераг, а жанчына стаіць на беразе, з сабакам, глядзіць удалячынь на лодку і мужчыну. На кудлатай вярбе, што на беразе каля плота, свішча начная птушка. Ледзь свіснула, як жанчына ўсхапілася і знікла. І з ёю разам знік сабака. І ў той жа міг не стала на вадзе лодкі. Даплыла да берага і зашылася ў кусты? А дзе чалавек? Замоўкла птушка на вярбе. Яшчэ мацней ноч на рацэ напоўнілася загадкавасцю, таемнасцю жыцця. Я спускаюся з кручы да ракі, распранаюся і заходжу ў рэчку. Плыву ад берага і ўсё зіркаю па берагах, шукаю, дзе яны: жанчына, мужчына, сабака — пайшлі спаць? Але і нейкая трывога ёсць у прыродзе і на душы ў мяне. Я выходжу з вады на бераг, апранаюся, аглядаюся і ўсё дзіўлюся, як ціха навокал і пуста для вачэй, на слых, і хвалюецца сэрца, адчуваючы, што тут, побач і навокал, усё дыхае, жыве, працуе. Што адбываецца? Са мной, з прыродай, з тым усім, што вакол мяне? Зноў падымаюся на кручу. Ісці дадому? Сядаю на нейкі корч у засені хмыззя і прагна дыхаю чарамі ночы.

Птушка свіснула. Свісь — і змоўкла. І адразу на беразе з'явіўся рабы сабака. Падбег да вады і сеў, наставіў востры нос на процілеглы бераг. Тут і жанчына: выйшла з-за кустоў, падышла да вады, да сабакі. Цяпер я пазнаю сабаку. І жанчыну. Сабаку бачыў тут удзень. Маўклівы і бяскрыўдны дварняк, і нешта ў ім ад лайкі, сібірскай. У спякоту прыбягаў да вады. Пахлебча, з вады выскачыць, атрасецца і знікне. Але вочы ў яго як у прафесіянальнага следчага: на момант гляне на цябе і ты адчуеш, што ён цябе запамятаў на ўсё жыццё. Тут можна і жанчыну ўдзень сустрэць. Яна яшчэ маладая, жыве за гэтымі хмызамі, на беразе дамок і сад, хлявы пад кручай старыя, пахілыя, як на эцюдах у Паленава. У хлявах — аж тры каровы, бычок, авечкі — бачыў, як яна прыпасвае іх тут па вечарах. Яшчэ пытаўся ў яе, ці не прадасць мне слоік малака. Сказала адным словам: няма. І адвярнулася. А я яе зноў да сябе прыгожым тварам павярнуў: куды ж дзяеш ад трох кароў? Зноў нібы тэлеграф адмалаціў: сама ўсё выпіваю. І — за куст.

А вось і лодка на рацэ. У ёй зноў — і сена, і мужчына. Плыве сюды, да жанчыны і сабакі.

Усё як тады. Ціха саўганула носам у бераг лодка. Мужчына і жанчына перанеслі сена на вербалоз. Пастаялі над вадою, пашапталіся. Мужчына зноў сеў у лодку і адпіхнуўся вяслом ад берага, паплыў. На беразе стаялі жанчына і сабака.

А мне ў душу павеяла лермантаўскай Таманню. У гэтае ночы на рацэ было шмат ад тае ночы на моры. Вада пад поўняй. Круча. Яна і ён, як там — татарын і ундзіна, тут — маладзіца з лодачнікам. Дзе хлопчык? А хто свістаў ў вярбе? Ноччу — птушка? І пад яе каманду героі нашы — то на сцэне, то за кулісамі? Яна за мной сачыла — птушка? Загадкавая?

Тут была наша Тамань.

Я ведаў, што над Сожам калгас касіў свой луг, і тое сена якраз плыло сюды, да маладзіцы. А хто быў ён? Вартаўнік луга ці яе каханак? Ці, можа, тое і другое ў адным — вартаўнік і каханак?

Быў цуд уначы. У паэзіі маленькага злачынства.

Ах, кашчунства — ставіць у паралель злачынства і паэзію?

Не, тут я не згодзен. Што, можа, недзе там, не ў нас — злачынства, тое ў нас бывае высокай паэзіяй. Тое ў нас — Тамань.




Другая міжнародная выстаўка-кірмаш «Мода-96. Вясна» адкрылася ў мінскім Палацы спорту. Амаль дзвесце прадпрыемстваў розных формаў уласнасці з дзевяці краін свету прапануюць тут шырокі выбар тавару, які поўнасцю адпавядае названай тэматыцы.

Гэту самую вялікую выстаўку-кірмаш праводзяць сумесна фірма «Эксібішн сісцім» і Міністэрства гандлю Рэспублікі Беларусь. Такое партнёрства дазволіць павысіць эфектыўнасць дзелавых кантактаў. Праграмаю выстаўкі прадугледжаны семінар па пытаннях знешнеэканамічнай дзейнасці і мытнага заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

*КРЫМІНАЛ*

## І ТАДЫ ХУЛІГАН УДАРЫЎ МІЛІЦЫЯНЕРА НАЖОМ. У СЭРЦА...

**Калі пра работу міліцыі кажуць, што гэта — служба днём і ноччу, дык гэта сапраўды так. І яшчэ: міліцыянер — заўсёды міліцыянер, ахоўнік парадку, дзе б і пры якіх абставінах ён ні знаходзіўся.**

Оперупаўнаважаны крымінальнага вышуку Савецкага райаддзела ўнутраных спраў Сяргей Краўчанка быў у водпуску і не думаў, што яму давядзецца пацвердзіць вышэйпамянёныя ісціны. Але вось да яго звярнулася знаёмая жанчына: у кафэ «Дарожнае» хуліганіць нейкі малойчык, і гэтага Сяргею аказалася дастаткова, каб не прайсці міма. Ён прад'явіў хулігану міліцэйскае пасведчанне (бо на ім было цывільнае адзенне) і павёў таго ў райаддзел. І тут хуліган імгненна выхапіў з кішэні нож і нечакана ўдарыў ім лейтэнанта ў сэрца, а сам кінуўся прэч.

Заціснуўшы рану рукой, Краўчанка забег у кафэ і папрасіў выклікаць «хуткую дапамогу». Яму, як скажуць потым урачы, пашанцавала, бо брыгада хуткай медыцынскай дапамогі ў саставе ўрача Мікалая Рыбчынскага, фельчараў Святланы Корж і Ірыны Касцейка праязджала міма і праз дзве хвіліны ўжо везла яго ў бальніцу, робячы па дарозе ўсё неабходнае для выратавання.

Праз дзесяць хвілін Сяргей ужо ляжаў на аперацыйным стале ў стане клінічнай смерці, бо яшчэ ў ліфце параненае сэрца спынілася. Урачы ажывілі яго і пачалі аперацыю, у час якой яно спынілася зноў, бо пацярпеўшы страціў многа крыві. Брыгада медыкаў зноў і зноў, на працягу некалькіх гадзін, змагалася за яго жыццё — хірургі Аляксандр Дзянісаў, Сяргей Краўчук, Барыс Осіпаў, рэаніматолаг Алег Ільінскі і іншыя.

Гэта было дзесятага красавіка, а адзінаццатага Сяргей ужо размаўляў і быў у прытомнасці. Барацьба за яго жыццё працягваецца, але ўжо зараз можна сказаць, што ўрачы бальніцы хуткай дапамогі яскрава прадэманстравалі сваё высокае прафесіянальнае майстэрства.

Хулігана, які ўчыніў цяжкае злачынства, яшчэ не знайшлі, але тут варта расказаць пра другі выпадак, калі рашучыя дзеянні міліцыянера ўтаймавалі хуліганаў, якія напалі на яго і хацелі авалодаць яго табельнай зброяй. Гэта былі двое непрацуючых з вёсак Глыбоцкае і Чарацянка Гомельскага раёна, А. А. і А. В., раней судзімы. У самы крытычны для яго момант участковы інспектар малодшы лейтэнант А. Ахрэменка зрабіў папераджальны стрэл (справа была вечарам), і, калі падагрэтыя спіртным хуліганы з яшчэ большай злосцю накінуліся на яго, ён параніў А. В. у плячо. Папярэднім следствам яго дзеянні прызнаны правамернымі.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

*Гомельская вобласць.*

## ПАПАЎСЯ ПАД РУКУ

**На працягу сутак бесперапынна працавалі аператыўнікі Лідскага ГРАУС, каб раскрыць загадкавае забойства.**

Яно адбылося літаральна пад бокам у шматлікіх наведвальнікаў прыватнага кафэ «Прыма», якія ў той вечар адзначалі дзень нараджэння. Дзесьці апоўначы ў залу хістаючыся ўвайшоў акрываўлены 25-гадовы дырэктар кафэ, зваліўся на падлогу. Толькі і паспеў сказаць, што яго ўдарылі нажом, бо раненне ў жывот аказалася смяротным.

Забойцам быў адзін з удзельнікаў званай вячэры. За сталом, застаўленым разнасоламі, паміж гасцямі — «новымі беларусамі» і неаднаразова судзімым лідчанінам узнікла непаразуменне. У выніку 23-гадоваму, нідзе не працуючаму хлопцу паказалі на дзверы.

Тады, відаць, у яго і ўзнікла жаданне адпомсціць крыўдзіцелю. З гэтай мэтай, напэўна, і пабег па нож да легкавіка, які стаяў непадалёку. Але на зваротным шляху ў дзвярах вячэрняй установы нечакана з'явіўся ўладальнік кафэ.

**Георгій СЫСОЙ,**
**прэс-служба**
**Гродзенскага УУС.**

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## ЧАМУ СТРАЛЯЎ ПАГРАНІЧНІК САКІН?

**Нельга, небяспечна здзекавацца з чалавека са зброяй, які выконвае свае службовыя абавязкі. Гэта прапісная ісціна была яшчэ раз пацверджана 8 красавіка ў Гродзенскім раёне. Паводле слоў палкоўніка з Гродзеншчыны пагранатрада Фёдара Паўловіча здарылася наступнае.**

У гэты дзень старшы лейтэнант Аляксандр Сакін і малодшы сяржант-кантрактнік Сяргей Сівуха з заставы «Сафіёва» правяралі выкананне правілаў пагранічнага рэжыму. Падчас гэтай работы на развілцы дарог Гродна—Галынка і Гродна—Сафіёва яны спынілі рэйсавы аўтобус, які накіроўваўся з Сапоцкіна ў абласны цэнтр. Аказалася, што два пасажыры —гродзенцы Юрый Рудкоўскі і Алена Грэсь не мелі адпаведных дакументаў на права ўезду ў пагранзону. Парушальнікаў, само сабой, высадзілі з аўтобуса, каб скласці пратаколы для накладання штрафу, які, дарэчы, можа дасягаць трох «мінімалак». І тут пачалося тое, што ўжо ўвайшло ў сістэму: на галовы людзей са зброяй пасыпаліся абразы.

У той жа час, калі пагранічнікі разбіраліся з вышэйпамянёнымі асобамі, з боку Гродна пад'ехала прыватнае таксі. Сяргей Сівуха спыніў яго, каб праверыць дакументы. Вадзіцель прад'явіў агульнаграмадзянскі загранпашпарт на імя Міхаіла Мукасея.

А вось пасажыр у грубай форме дакументы паказваць адмовіўся. Сяржант далажыў аб гэтым А. Сакіну, той падышоў да машыны. У адказ — усё тыя ж абразы. Маўляў, мяне тут усе ведаюць, я Шуцікаў, вам што-небудзь гаворыць маё прозвішча, ды я вас звольню... (Пазней аказалася, што гэта сапраўды быў Генадзь Шуцікаў, былы афіцэр, а цяпер спецыяліст у галіне лазнева-пральнай гаспадаркі.) Затым пасажыр скамандаваў вадзіцелю разварочваць машыну. Той, аднак, застаўся на месцы, пасля чаго невядомы выйшаў з «Жыгулёў» і пачаў аддаляцца ад пагранічнікаў. Аляксандр Сакін — за ім. У рэшце рэшт дайшло да таго, што парушальнік пагранрэжыму паспрабаваў узяцца за ствол аўтамата. Афіцэр папярэдзіў, што калі яго патрабаванні не будуць выкананы, ён прыменіць зброю. Клацнуў затвор, але і гэта не спыніла асобу ў цывільным. Тады старшы лейтэнант выстраліў — чатыры разы ўгору і столькі ж — у зямлю, у бок свайго «апанента». Пасля гэтага апошні, нарэшце, зразумеў, што з жартачкамі трэба «завязваць».

Неўзабаве прыехала выкліканая з заставы трывожная група і забрала ўсіх затрыманых для афармлення адпаведных дакументаў. Яны накіраваны ў міліцыю, а таксама ў пракуратуру, паколькі з аўтамата стралялі. Пагранічнікі, у адрозненне ад міліцыянераў, такога права не маюць.

Таму чакаецца разбор адносна таго, наколькі адэкватна сітуацыі дзейнічаў старшы лейтэнант Сакін, ці не перавысіў свае паўнамоцтвы. Але што ж заставалася рабіць зняважанаму, апляванаму афіцэру, тым больш, калі ў яго няма ні гумавай дубінкі, ні газавай зброі ці хаця б балончыка, ні наручнікаў? Няўжо падарыць аўтамат, за які ўчапіўся парушальнік пагранрэжыму? Ці, мо, назіраць за тым, як ён «робіць ногі»? Як бы тады рагатала гэта асоба над маладымі хлопцамі, якія сумленна выконваюць свае службовыя абавязкі. Цяпер, напэўна, будзе не да смеху.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

## СПРАВАЗДАЧА АБ ПРЫБЫТКАХ І СТРАТАХ ЗА 1995 г. АСТ «ВІКТОРЫЯ», *г. Мінск, вул. Красная, 17*

| *Прыбытак* | *Тыс. руб.* | *Страты (расходы) ...* | *Тыс. руб.* |
|---|---|---|---|
| 1. Страхавыя ўзносы па прамому страхаванню | 510400 | 1. Выплаты страхавога пакрыцця і страхавых сум | |
| 2. Сродкі, якія прыцягваюцца з рэзерваў па накапляльных і рызыкоўных відах страхавання | | 2. Расходы на вядзенне справы | 364300 |
| 3. Страхавыя ўзносы, атрыманыя ад перастраховачных аперацый | | 3. Адлічэнні ў рэзервы па накапляльных і рызыкоўных відах страхавання | 712600 |
| 4. Іншыя даходы ад страхавой дзейнасці | | 4. Заплачаныя страхавыя ўзносы па рызыках, перададзеных у перастрахаванне | — |
| 5. Даходы ад пазарэалізацыйных аперацый | 568800 | 5. Адлічэнні ў фонд папераджальных мерапрыемстваў | |
| **УСЯГО ДАХОДАЎ** | **1079200** | 6. Іншыя расходы | 14700 |
| Страты | 12400 | **УСЯГО РАСХОДАЎ** | **1091600** |
| **Усяго** | **1091600** | **Усяго** | **1091600** |

## ГАДАВЫ БАЛАНС ЗА 1995 г. АСТ «ВІКТОРЫЯ», *г. Мінск, вул. Красная, 17*

| *Актыў* | *Тыс. руб.* | *Пасіў* | *Тыс. руб.* |
|---|---|---|---|
| 1. Разліковы рахунак | 34700 | 1. Статутны капітал | 4000 |
| 2. Валютны рахунак | | 2. Рэзерв па маёмаснаму страхаванню і страхаванню ад няшчасных выпадкаў | 856900 |
| 3. Рахункі ў банку па сродках рэзерваў плацяжоў | 747600 | 4. Фонды і рэзервы спецыяльнага прызначэння | 59000 |
| 4. Каса | | 5. Сродкі ў разліках | 17600 |
| 5. Асноўныя сродкі і іншыя доўгатэрміновыя актывы | 39100 | 6. Іншыя пасівы | -37000 |
| 6. Дэбіторы | 76100 | | |
| 7. Іншыя актывы | 3000 | | |
| **БАЛАНС** | **900500** | **БАЛАНС** | **900500** |

**Дакладнасць балансу пацверджана незалежнай аўдытарскай фірма АТАА «Аўдытарыз».**

*27 сакавіка 1996 г.*

## СТРАХАВОЕ АКЦЫЯНЕРНАЕ ТАВАРЫСТВА «СКІП», *220123, г. Мінск, вул. М. Багдановіча, 129 а, тэл./факс (8-0172) 34-30-15*

## СПРАВАЗДАЧА АБ ПРЫБЫТКАХ І СТРАТАХ ЗА 1995 ГОД

*млн. руб.*

| *Прыбытак* | | *Страты (расходы)* | |
|---|---|---|---|
| 1. Страхавыя ўзносы па прамому страхаванню | 8273,4 | 1. Выплаты страхавога пакрыцця і страхавых сум | 7584,8 |
| 2. Сродкі, якія прыцягваюцца з рэзерваў па накапляльных і рызыкоўных відах страхавання | — | 2. Расходы на вядзенне справы | 2655,1 |
| 3. Страхавыя ўзносы, атрыманыя ад перастраховачных аперацый | 3810,4 | 3. Адлічэнні ў рэзервы па накапляльных і рызыкоўных відах страхавання | 443,6 |
| 4. Іншыя даходы ад страхавой дзейнасці | - | 4. Заплачаныя страхавыя ўзносы па рызыках, перададзеных у перастрахаванне | 1534,9 |
| 5. Даходы ад пазарэалізацыйных аперацый | 241,7 | 5. Адлічэнні ў фонд папераджальных мерапрыемстваў | — |
| **УСЯГО ДАХОДАЎ** | **12325,5** | 6. Іншыя расходы | 37,3 |
| | | **УСЯГО РАСХОДАЎ** | **12.255,7** |
| 6. Страты | — | 7. Прыбытак | 69,8 |
| **.УСЯГО** | **12.325,5** | **УСЯГО** | **12.325,5** |

## ГАДАВЫ БАЛАНС ЗА 1995 ГОД

*млн. руб.*

| *Актыў* | | *Пасіў* | |
|---|---|---|---|
| 1. Разліковы рахунак | 233,0 | 1. Статутны капітал | 400,0 |
| 2. Валютны рахунак | 0,1 | 2. Рэзерв па маёмаснаму страхаванню і страхаванню ад няшчасных выпадкаў | 636,4 |
| 3. Рахункі ў банку па сродках рэзерваў плацяжоў | 450,1 | 3. Рэзерв па страхаванню жыцця, пенсій і медыцынскаму страхаванню | — |
| 4. Каса | — | 4. Фонды і рэзервы спецыяльнага назначэння | 399,3 |
| 5. Асноўныя сродкі і іншыя доўгатэрміновыя актывы | 232,2 | 5. Сродкі ў разліках | 17,7 |
| 6. Дэбіторы | 531,2 | 6. Іншыя пасівы | — |
| 7. Іншыя актывы | 6,8 | | |
| **БАЛАНС** | **1453,4** | **БАЛАНС** | **1453,4** |

**Дакладнасць балансу пацверджана незалежным аўдытарам Кісель Т. Ф., ліцэнзія АП № 61 ад 15.02.93 г.**

## У ПРАВААБАРОНЦАЎ З'ЯВІЎСЯ СВОЙ «КРУГ»

**Бадай, упершыню ў Беларусі з'явілася газета, тэматыка якой засяроджана вакол правоў чалавека. Адсюль, верагодна, і назва выдання — «Круг». Кола, як вядома, сімвал абароны, а таксама геаметрычная фігура з максімальнай плошчай.**

Газета паставіла сабе мэтай дапамагчы чалавеку зарыентавацца ў сітуацыях, якія ўзнікаюць вакол яго штодзённа і патрабуюць ведання законаў і сваіх правоў. Тут будзе шмат кансультацый юрыстаў, матэрыялаў на праваабарончыя тэмы.

Чытач знойдзе ў «Крузе» таксама нестандартны падыход да праблем эканомікі і палітыкі.

Заснавальнікі газеты — Асацыяцыя пісьменнікаў, Беларускі ПЭН-цэнтр і Беларускі хельсінкскі камітэт. У састаў рэдакцыйнага савета ўваходзяць Васіль Быкаў, Уладзімір Арлоў, Таццяна Працька і іншыя вядомыя людзі. Галоўны рэдактар газеты — пісьменнік і журналіст Анатоль Казловіч.

**Ул. інф.**

*СЁННЯ*

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 6.14 | 20.06 | 13.52 |
| Віцебск – | 6.02 | 19.59 | 13.57 |
| Магілёў – | 6.04 | 19.56 | 13.52 |
| Гомель – | 6.02 | 19.52 | 13.50 |
| Гродна – | 6.28 | 20.23 | 13.55 |
| Брэст – | 6.34 | 20.19 | 13.45 |

### МЕСЯЦ

**Апошняя квадра 11 красавіка**

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Вялікая Субота. Іпацiя, Іоны, Інакенція, К. Марціна**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, на большай частцы тэрыторыі ападкі. Тэмпература паветра ў Гродне, Віцебску, Мінску — 5—7, Магілёве, Гомелі — 6—8, Брэсце — 4—6 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, часам ападкі. Тэмпература ўначы — мінус 4 — плюс 1, удзень 2—7 градусаў цяпла.

## МЕДЫЦЫНСКІ ПРАГНОЗ НАДВОР'Я НА 13-14 КРАСАВІКА

Надвор'е будзе вызначацца франтальным раздзелам, што прывядзе да воблачнасці, ападкаў і паніжэння тэмпературы. 15 красавіка — неспрыяльны дзень па геафізічных фактарах. У такіх умовах павялічваецца верагоднасць пагаршэння самаадчування ў метэазалежных хворых з захворваннямі дыхальнай і сардэчна-сасудзістай сістэм, страўнікава-кішачнага тракта.

Рэкамендуецца пазбягаць псіхаэмацыянальных і фізічных нагрузак, прытрымлівацца дыеты, прымаць заспакаяльныя сродкі (настойкі півоні, валяр'яну, сардэчніку) і лекавыя прэпараты, прызначаныя ўрачом.

**Антаніна КАРОЗА,**
**навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.**

«ПРАМАЯ ЛІНІЯ» «ЗВЯЗДЫ»

## Сямён ШАРЭЦКІ:

# «ПРАБЛЕМА ЗАХАВАННЯ ЗАКОННАСЦІ Ў НАШАЙ МАЛАДОЙ СУВЕРЭННАЙ ДЗЯРЖАВЕ СЁННЯ СТАІЦЬ НАДЗВЫЧАЙ ВОСТРА»

**Чарговая «прамая лінія» Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямёна Шарэцкага з чытачамі «Звязды», прызначаная на 29 сакавіка, атрымалася, скажам так, не зусім прамой. Справа ў тым, што напярэдадні позна ўвечары Сямён Георгіевіч выехаў у Маскву ў саставе дэлегацыі нашай рэспублікі для падпісання чатырохбаковага дагавора аб паглыбленні інтэграцыі ў эканамічнай і гуманітарнай сферах паміж Беларуссю, Расіяй, Казахстанам і Кыргызстанам. Падпісанне дакумента мела месца ў той жа дзень — 29 сакавіка, і выйсці на сувязь з нашымі аўтарамі ён, натуральна ж, не змог.**

**Аднак завочны дыялог не сарваўся. Звыш 50 тэлефонных званкоў прыняла рэдакцыя ад чытачоў газеты ў дзень правядзення «прамой лініі», яшчэ больш зваротаў — каля сотні — паступіла да і пасля 29 сакавіка. І перад ад'ездам у Маскву, і пасля вяртання адтуль кіраўнік парламента прасіў аб адным: уважліва азнаёміцца з кожнай заявай і скаргай, з кожным лістом і зваротам па тэлефоне і паведаміць яму.**

**Не будзем утойваць: праца аказалася цяжкай. Аднак добра разумеючы, што за кожным лістом і зваротам у «Звязду» стаяць жывыя людзі — са сваімі праблемамі і нявырашанымі пытаннямі, прабачце за нетактоўны выраз — змардаваныя бюракратычнымі адмашкамі, адпіскамі і элементарнай няўвагай да сябе, мы вырашылі адназначна: давесці справу да лагічнага завяршэння. У дзесяткі рэспубліканскіх міністэрстваў і ведамстваў, Генеральную пракуратуру, іншыя арганізацыі і ўстановы накіроўваюцца афіцыйныя запыты ад Старшыні Вярхоўнага Савета з просьбай разабрацца ў кожным пытанні і праблеме, прыняць адпаведныя меры, растлумачыць людзям іх правы і абавязкі.**

**Такім чынам, як у ходзе правядзення папярэдняй «прамой лініі», так і зараз, ніводзін зварот чытачоў нашай газеты не застанецца па-за ўвагай. Аднак для таго, каб разабрацца і прыняць меры па кожнаму з іх, патрэбен, натуральна, час. А сёння мы змяшчаем на старонках газеты «Звязда» першую падборку адказаў Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямёна Шарэцкага на пісьмы і тэлефонныя званкі нашых аўтараў.**



*Паважаны Сямён Георгіевіч!*

*Звяртаюся да вас, Старшыні Вярхоўнага Савета — кіраўніка заканадаўчага органа дзяржавы. Мяне, радавога жыхара рэспублікі, трывожыць становішча спраў у пытанні захавання асноўных палажэнняў Канстытуцыі і законнасці ў нашай краіне. На жаль, Вярхоўны Савет, акрамя абмеркаванняў, у гэтай праблеме нічога не робіць. Вось некалькі прыкладаў.*

*Канстытуцыйны суд прызнаў не адпаведным Канстытуцыі і законам Указ Прэзідэнта ад 1 верасня 1995 года № 349, аднак ніводзін выканаўчы орган на гэта не прарэагаваў. З ільготнікаў па-ранейшаму бяруць поўную плату за кватэру, жыллёва-камунальныя паслугі, электраэнергію, праезд у грамадскім транспарце і г. д.*

*А што робіцца з цэнамі?! Прадукты харчавання даражэюць не па днях, а па гадзінах. Студзеньскае павышэнне зарплаты ніколькі не кампенсавала ранейшага падаражання прадуктаў, а тут пачалося новае...*

*А як выконваецца Указ Прэзідэнта аб своечасовай выплаце зарплаты?!*

*Адным словам, праблемы, праблемы, праблемы...*

*Выканаўчая ўлада усё больш і больш падпарадкоўваецца прэзідэнцкім структурам, а не Канстытуцыі і законам. Хто спыніць гэта? Перш, чым патрабаваць законапаслушэнства ад народа, трэба ўсім службовым асобам стаць эталонам у захаванні Канстытуцыі і законаў Рэспублікі Беларусь. Хіба можа Вярхоўны Савет спакойна глядзець на тое, як ігнаруецца заканадаўства? Трэба неадкладна разгледзець пытанне аб стане законнасці ў рэспубліцы і прыняць адпаведную пастанову. Інакш потым будзе позна.*

*Паважаны Сямён Георгіевіч! Вы і ваш намеснік В. Новікаў вельмі правільна і востра гаворыце пра ўсё гэта. Давайце, аднак, ад слоў пераходзіць да справы. Народ чакае ад вас гэтага.*

***І. КОРЖЫКАЎ,***

*г. Мінск.*

***Такія і падобныя на іх пытанні ставяцца ў зваротах Мікалая Татарыцкага з г.п. Урэчча Мінскай вобласці, Тамары Гашымавай з Ваўкавыска, Ірыны Пятровай з вёскі Крывічы Мядзельскага раёна, пенсіянераў з Віцебска Бялевіча, Шчукінай, Гіршына, Надзеі Абрамовіч з вёскі Рудня Івацэвіцкага раёна, пенсіянераў з вуліцы Савецкай г. Смаргоні (прозвішчы напісаны неразборліва), Паўла Губарэвіча і групы пажылых людзей з г. Навагрудка, А. Рэвякова з Бешанковічаў, многіх іншых чытачоў нашай газеты.***

— Сапраўды, праблема захавання законнасці ў нашай маладой суверэннай дзяржаве сёння стаіць надзвычай востра. Прычым, стаіць яна на ўсіх без выключэння ўзроўнях. Скажу так: не вельмі законапаслухмяны наш народ у цэлым, што, натуральна, не можа не выклікаць занепакоенасці, ну а на месцах, ды і ў вышэйшых эшалонах кіравання ўлада далёка не заўсёды стаіць на варце Канстытуцыі і законаў. Ці не адсюль і нашы праблемы ў жыцці наогул, і бядоты эканамічнага і сацыяльнага існавання...

У артыкуле 6 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь запісана: «Дзяржава грунтуецца на прынцыпе падзелу ўладаў: заканадаўчай, выканаўчай і судовай. Дзяржаўныя органы ў межах сваіх паўнамоцтваў самастойныя: яны ўзаемадзейнічаюць паміж сабой, стрымліваюць і ўраўнаважваюць адзін аднаго». На жаль, узаемадзейнічання паміж Вярхоўным Саветам і мясцовымі Саветамі — з аднаго боку, Адміністрацыяй Прэзідэнта і ягонай вертыкаллю — з другога, Канстытуцыйным судом і органамі правасуддзя — з трэцяга сёння яшчэ няма. Віна ці бяда гэта нашага грамадства — тэма для асобнай гаворкі, аднак факт відавочны. Наша бліжэйшая, найгалоўнейшая задача — дабіцца гэтага ўзаемадзеяння. І ў Вярхоўным Савеце, які з'яўляецца найвышэйшым прадстаўнічым пастаянна дзеючым і адзіным заканадаўчым органам дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусь, сваю задачу разумеюць.

Першыя сто дзён працы Вярхоўнага Савета новага склікання ззаду, і я асабіста, і большасць дэпутатаў лічаць, што папрацавалі мы нядрэнна. Разгледжаны і прыняты бюджэт краіны, унесены істотныя змены ў законы аб падатках, абмеркаваны і прыняты шэраг іншых неадкладных заканадаўчых актаў. Так што вінаваціць нас у тым, што мы нічога не робім, падстаў няма. А вось наперадзе спраў яшчэ больш.

Вярхоўны Савет разглядаў ужо пытанне аб скасаванні прэзідэнцкімі ўказамі многіх ільгот і прывілей. Мы нязгодныя з многімі палажэннямі гэтых указаў. На маю асабістую думку, пытанне трэба вырашыць канчаткова, асабліва ў той яго частцы, што датычыцца дзяцей і састарэлых людзей. Яны павінны адчуваць сваю сацыяльную абароненасць з боку дзяржавы. Цяпер у парламенцкіх камісіях і фракцыях праблема канчаткова дапрацоўваецца і ў самы бліжэйшы час мы вынесем яе на пленарнае пасяджэнне Вярхоўнага Савета.

*Паважаны Старшыня Вярхоўнага Савета!*

*Неаднаразова звяртаўся я са сваімі прапановамі ў Вярхоўны Савет, але яны застаюцца незаўважанымі. Ускладаю вялікія надзеі на новы састаў Вярхоўнага Савета, спадзяюся, што ў сваіх рашэннях ён адгукнецца на мае пажаданні, а пакуль што звяртаюся да вас асабіста. На сённяшні дзень, напэўна, агульнае пытанне для ўсіх грамадзян рэспублікі, гэта — інтэграцыя з Расіяй. Якой яна бачыцца вам? Наколькі гэта новае ўтварэнне адпавядае духу і запатрабаванням часу?*

***Уладзімір МАЗОЎКА,***

*г. Мінск.*

*Ці зможа Вярхоўны Савет быць гарантам Канстытуцыі і незалежнасці Беларусі?*

***С. ТРАФІМОВІЧ,***

*г. Гродна.*

*Я перакананы: 80 працэнтаў нашага народа не маюць паняцця, што такое інтэграцыя. Трэба спачатку народ «просвещать», а потым прымаць у яго «экзамен» па любых пытаннях дзяржаўнага будаўніцтва. У рэшце рэшт, хочаце аб'ядноўвацца з Расіяй — калі ласка, хоць сем'ямі аб'ядноўвайцеся, едзьце туды і жывіце. А што рабіць такім, як я, з нізоў? Я хачу жыць, працаваць і бачыць сваіх дзяцей больш шчаслівымі, чым я. А ў саюзе з Расіяй яшчэ больш будзем у дзярме... Я прапаную: дайце нам, такім як я, адну вобласць, і ўсе ўбачаць, дзе будзе лепшае жыццё: у нас ці ў вас, з Расіяй.*

*Прабачце, можа рэзка. Але ж баліць...*

***А. ДЗМІТРУК,***

*г. Бабруйск.*

***Пісьмы і тэлефонныя званкі з такім зместам паступілі таксама ад Міколы Ермашэвіча з Брэста, інжынера Кавалеўскага (імя сваё ён не назваў) з Мінска, В. Драздова з Гомеля, Анатоля Луцэнкі з Віцебска, іншых чытачоў. А Васіль Завадскі са станцыі Навасады Барысаўскага раёна сказаў асабліва «адназначна»: «Кіраўніцтва рэспублікі не здольна вырашыць эканамічныя праблемы, вось і шукае паратунку ў саюзе з Расіяй. А трэба так мала: працаваць і яшчэ раз працаваць...»***

— Наша рэспубліка вельмі цесна звязана з Расіяй, знаходзіцца з ёй у надзвычай блізкіх адносінах. Цесна пераплецены эканомікі двух дзяржаў, нацыянальныя культуры. Яшчэ ў Полацкага княства, найстаражытнейшага дзяржаўнага ўтварэння на тэрыторыі Беларусі, існавалі цесныя эканамічныя, палітычныя і культурныя сувязі з Кіеўскай Руссю, Наўгародскім, Пскоўскім княствамі, іншымі ўсходнеславянскімі землямі. Не парываліся кантакты ў часы Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. На працягу многіх стагоддзяў мы дзялілі і радасць, і гора, разам адольвалі ворагаў і на Кулікоўскім полі, і ў Вялікай Айчыннай вайне...

Пушкін напісаў «Дуброўскага» на беларускім матэрыяле. Дастаеўскі — выхадзец з Беларусі. Горкі ў свой час моцна падтрымаў Купалу. Шырока прапагандавалі беларускую літаратуру і культуру Ісакоўскі і Твардоўскі... Ды колькі такіх прыкладаў можна сёння прывесці!

Больш чым дзесятая частка жыхароў Беларусі лічыць сябе рускімі. Мільён трыста тысяч беларусаў жывуць і працуюць зараз у Расіі. Так што сувязі нашы — векавыя, цесныя і непарыўныя.

Нашы народы будуюць сёння новае грамадства, заснаванае на дэмакратычных прынцыпах і агульначалавечых каштоўнасцях. На гэтым шляху будзе нямала цяжкасцей і перашкод. І толькі сумеснымі намаганнямі мы зможам пераадолець іх. Аб'яднаўшы матэрыяльныя рэсурсы, інтэлектуальны патэнцыял беларускага і расійскага народаў, Супольніцтва Суверэнных Рэспублік зможа хутчэй пераадолець крызісныя з'явы.

Інтэграцыя Беларусі і Расіі — гэта зусім не вяртанне назад, да СССР, як гэта спрабуюць «убачыць» некаторыя палітыкі і журналісты. Дагавор аб стварэнні Супольніцтва Суверэнных Рэспублік не толькі не абмяжоўвае правы суб'ектаў, а, наадварот, — становіцца іх гарантам. Грамадзяне нашых дзяржаў набудуць роўныя правы пры атрыманні адукацыі, працаўладкаванні, аплаце працы, прадастаўленні іншых сацыяльных гарантый. А ў перспектыве будзе падрыхтавана і пачне дзейнічаць адзіная сістэма сацыяльнай абароны насельніцтва.

Цэласнасць тэрыторый, узаемавыгадныя адносіны, неўмяшанне ва ўнутраныя справы — таксама важныя і непарушныя прынцыпы ўзаемаадносінаў Расіі і Беларусі ў адпаведнасці з новым дагаворам.

Ужо гэты няпоўны пералік палажэнняў новага інтэгрыраванага Супольніцтва сведчыць: яно поўнасцю адпавядае памкненням нашых народаў, іх гістарычным сувязям, запатрабаванням часу. Іншая справа, што насельніцтва Беларусі недастаткова поўна інфармавана аб гэтым. Вярхоўны ж Савет будзе цвёрда стаяць на варце інтарэсаў народа, Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Мы пачалі будаваць дэмакратычную прававую дзяржаву, Расія робіць тое ж самае, значыць, у нашым Супольніцтве Яго Вялікасць Закон стане тым фундаментам, які забяспечыць і будзе гарантаваць надзейнасць новага ўтварэння, яго міжнародны аўтарытэт.

Я асабіста перакананы: Супольніцтва Суверэнных Рэспублік — жыццядзейнае, рэальнае фарміраванне. Не, не мае рацыі Васіль Завадскі: мы не шукаем паратунку — ні на Усходзе, ні на Захадзе. Мы найперш хочам сцвердзіць самі сябе. А для гэтага і сапраўды трэба працаваць і яшчэ раз працаваць.

*Патэлефанаваў настаўнік з Івацэвіцкага раёна. Назвацца катэгарычна адмовіўся: маўляў, каму трэба, той мяне «вылічыць». Выклаў сітуацыю ў раёне: міліцыя атрымала зарплату за сакавік, медыкі — аванс, адміністрацыя і работнікі Саветаў усіх узроўняў таксама з грашамі... А тым часам ёсць школы, дзе не атрымалі зарплату яшчэ... за студзень. Як у такіх умовах жыць і працаваць чалавеку?*

*— Чаму ў нас, у зоне забруджвання 15—40 кі/км, на цэлы месяц і больш затрымліваюць выплату пенсій і зарплат?*

***Марыя ШУЛЬГА,***

*Нароўля.*

*Пенсію мне павінны выплачваць 10-га числа кожнага месяца. Сёння 29 сакавіка, а грошы яшчэ не атрымала.*

***Ганна КАВАЛЕЎСКАЯ,***

*Радашковічы.*

*— Апошнім часам пенсію атрымліваю са спазненнем на два-тры тыдні.*

***Надзея МАКАРЭВІЧ,***

*Беразіно.*

— Так, на вялікі жаль, сёння гэта вострае пытанне хвалюе вялікую колькасць нашага насельніцтва. Што можна сказаць чытачам «Звязды» адносна затрымак з выплатай пенсій і заработнай платы? Паабяцаць, што заўтра ці паслязаўтра сітуацыя будзе выпраўлена, я, вядома ж, не магу. Не магу па той простай прычыне, што добра разумею: наша жыццё пачне паляпшацца тады, калі пачне рытмічна, больш-менш стабільна працаваць вытворчасць — прамысловая, сельскагаспадарчая, будаўнічая і г. д. Сёння ж у бюджэце рэспублікі сродкаў на выплату зарплаты і сацыяльных дапамог вельмі і вельмі мала.

*На якой падставе пасля падзей 24 сакавіка па Беларускім тэлебачанні ацэнку ім давалі прафесар Валянцін Акулаў і Уладзімір Замяталін? Больш таго: адкуль маглі яны ведаць артыкулы і палажэнні будучага Дагавора аб стварэнні Супольніцтва Суверэнных Рэспублік, а дэпутаты Вярхоўнага Савета аб гэтым тады яшчэ нічога і не чулі? Што гэта была за гульня? Чаму Вярхоўны Савет не рэагуе на такую палітыку ўнутры дзяржавы?*

***Арнольд ХІЛЬКЕВІЧ,***

*г. Мінск.*

*Паважаны спадар Шарэцкі!*

*Скажыце, калі ласка, калі я змагу пачуць па радыё ці ўбачыць па тэлебачанні выступленне дэпутатаў Вярхоўнага Савета і іх дэбаты ў парламенце? Мне крыўдна, што мне, грамадзяніну Рэспублікі Беларусь, даводзіцца звяртацца за больш-менш праўдзівымі фактамі аб жыцці рэспублікі да перадач «Радыё «Свабода», ТБ Расіі і іншых замежных крыніц.*

***А. КОНАНАЎ, пенсіянер.***

*г. Бабруйск.*

*Калі Беларускае тэлебачанне і друк як мае быць пачнуць паказваць работу Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь? У краіне сёння поўны інфармацыйны голад.*

***Леанід ГАРМАЗА,***

*г. Мінск.*

— Вярхоўны Савет адразу ж адрэагаваў на ацэнку падзей 24 сакавіка, зробленую Беларускім тэлебачаннем. На сесіі каментарыі В. Акулава і У. Замяталіна былі асуджаны многімі дэпутатамі. Іншая справа, што тое ж Беларускае тэлебачанне не паказала той сюжэт. Чаму? Тым жа тэлебачаннем кіруе той жа Замяталін... Больш таго, на адным з пасяджэнняў я таксама асудзіў іхняе інтэрв'ю ў прысутнасці Прэзідэнта і сказаў, што лепш было б паказаць маё інтэрв'ю як Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі і інтэрв'ю Ягора Строева, Старшыні Савета Федэрацыі Расіі, па гэтаму ж пытанню. Прабачце, я гаварыў усё ж такі ад імя парламентарыяў, пытанне разглядалася намі і я ведаў думку дэпутатаў. І Строеў гаварыў ад імя Савета Федэрацыі. І якраз нашы пункты гледжання супадалі.

Так, дзейнасць Вярхоўнага Савета ў сродках масавай інфармацыі асвятляецца нездавальняюча. У тым ліку і на Беларускім тэлебачанні. Мы не адзін раз афіцыйна ставілі ўжо пытанне аб адкрыцці на тэлебачанні «Парламенцкага весніка», у якім маглі б выступаць дэпутаты ад розных фракцый ВС, дэманстраваць найбольш цікавыя і важныя моманты пасяджэнняў сесій. Аднак тэлебачаннем у нас распараджаецца Прэзідэнт...

*— Ці нясуць адказнасць дэпутаты Вярхоўнага Савета за адсутнасць на сесіях па няўважлівых прычынах?*

***Аляксей ПАТАЛЕТА,***

*г. Гродна.*

—Адказнасць за парушэнні працоўнай дысцыпліны нясуць, вядома ж, і дэпутаты Вярхоўнага Савета. Ім не выплачваюць грошы за тыя дні, калі яны адсутнічаюць на сесіі. Праўда, бываюць і ўважлівыя прычыны: дэпутаты вельмі часта выязджаюць у камандзіроўкі за мяжу і па рэспубліцы, выконваюць іншыя даручэнні. Усё гэта ў нас строга ўлічваецца.

**(Працяг будзе).**

## ЦІ ПАВЯЛІЧЫЦЦА БЕСПРАЦОЎЕ СЁЛЕТА?

**Колькі ў рэспубліцы зараз працаздольнага насельніцтва? Ці вырасла колькасць беспрацоўных за першыя месяцы 1996 года і што, па прагнозах, нас наогул чакае ў гэтым плане сёння?**

**Валянціна ЦВЯТКОВА, г. Мінск.**

Каб адказаць на ваша пытанне, звернемся да афіцыйных крыніц. Некаторыя звесткі ўтрымліваюцца ў дакладзе міністра працы Беларусі сп. Саснова, з якім ён выступіў на навуковым семінары «Сацыяльная палітыка ў Рэспубліцы Беларусь».

З агульнай колькасці насельніцтва рэспублікі — 10 млн. 297 тыс. чалавек у 1994 годзе (больш позніх звестак няма) колькасць эканамічна актыўнага насельніцтва склала крыху больш за 5 млн. чалавек (46,1 працэнта мужчын, 53,9 — жанчын), з іх у эканоміцы рэспублікі непасрэдна было занята 4 млн. 696 тыс. чалавек.

Узровень беспрацоўя ў лютым 1996 года дасягнуў 2,7 працэнта (на пачатак 1997 года прагназіруецца лічба ў 3,6 працэнта). На адно свабоднае рабочае месца сёння прыпадае 12 беспрацоўных (год назад было 6), але і гэты паказчык па рэгіёнах вельмі адрозніваецца: калі, напрыклад, на Віцебшчыне на адну вакантную пасаду прыпадае 14 беспрацоўных, то на Брэстчыне — ужо 31. Грашовую дапамогу (ад 100 да 200 тысяч рублёў) атрымліваюць зараз 69 тысяч чалавек са 131 тысячы беспрацоўных.

Трэба адзначыць, што пераважная колькасць беспрацоўных — жанчыны (больш як 64 працэнты).

Паводле апошніх статыстычных звестак, больш як 14 працэнтаў складае сёння так званае скрытае беспрацоўе, а паводле ацэнак асобных спецыялістаў, яно дасягае 20 і нават 30 працэнтаў ад агульнай колькасці працуючых.

## ЗАПІСАЦЦА НА ПРЫЁМ ДА ПРЭЗІДЭНТА

**Хачу запісацца на прыём да Прэзідэнта. Калі ласка, падкажыце нумар тэлефона, па якім можна гэта зрабіць. Думаю, не мне адной гэта інфармацыя спатрэбіцца.**

**АНТАНОВІЧ Рузэля Іосіфаўна, г. Мазыр.**

Вам трэба патэлефанаваць у аддзел па рабоце са зваротамі грамадзян. Нумары тэлефонаў яго — 22-32-17 і 22-37-78. Толькі перш чым пачняце круціць дыск апарата, запасіцеся цярпеннем: дазваніцца туды вельмі няпроста.

## ГАРАНТЫІ ПРАЦУЮЧЫМ ЖАНЧЫНАМ, ЯКІЯ МАЮЦЬ НЕПАЎНАЛЕТНІХ ДЗЯЦЕЙ

**Цяпер ідзе масавае скарачэнне ва ўсіх арганізацыях, установах, на заводах. Ці ёсць якая-небудзь перавага ў працуючых, якія маюць непаўналетніх дзяцей.**

**Зінаіда АНОП, г. Ашмяны.**

Працоўнае заканадаўства прадугледжвае гарантыі для жанчын, якія маюць дзяцей.

У прыватнасці, ч. 3 арт. 170 КЗаП РБ не дапускае скасавання працоўнага дагавора па ініцыятыве адміністрацыі — у Вашым выпадку — па скарачэнню колькасці ці штату работнікаў (п. 1 ч. 1 арт. 33 КЗаП РБ) з жанчынамі, якія маюць дзяцей ва ўзросце да 3 гадоў, а таксама з адзінокімі маці, якія маюць дзяцей ва ўзросце ад 3 да 14 гадоў (дзяцей-інвалідаў — да 16 гадоў).

Згодна з ч. 2 арт. 167(2) КЗаП РБ Вам павінен прадастаўляцца адзін свабодны ад работы дзень па вашай заяве. Памер аплаты і ўмовы прадугледжваюцца ў калектыўным дагаворы. Пры адсутнасці калектыўнага дагавора наймальнік мае права па ўзгадненню з працоўным калектывам устанавіць за кошт уласных сродкаў памер аплаты гэтага дня. Пры адсутнасці сродкаў свабодны дзень можа прадастаўляцца без аплаты, калі маці выкажа ў заяве такое пажаданне.

## АПЛАТА СВАБОДНАГА ДНЯ МАЦІ, ЯКІЯ ВЫХОЎВАЮЦЬ ТРАІХ І БОЛЬШ ДЗЯЦЕЙ

**Піша вам пастаянная Ваша чытачка Сацэвіч Галіна Мікалаеўна з Мінска. Працую я ў аддзеле адукацыі бухгалтарам. Мне хацелася б высветліць, як жа ўсё такі аплачваецца адзін свабодны дзень у тыдзень маці, якія маюць траіх і больш дзяцей: як чарговы водпуск ці як звычайны рабочы дзень па сярэднямесячнаму заробку?**

Пастановай Кабінета Міністраў РБ ад 15.12.95 г. № 691 зацверджана Палажэнне аб парадку прадастаўлення і аплаты свабоднага ад работы дня ў тыдзень маці, якія выхоўваюць траіх і больш дзяцей ва ўзросце да 16 гадоў, а таксама адзінокім маці, якія маюць дваіх і больш дзяцей такога ж узросту.

Згодна з п. 6 гэтай пастановы аплата свабоднага дня праводзіцца ў памеры сярэднямесячнага заробку за фактычна адпрацаваны час у дадзеным месяцы.

## ВЫПЛАТА ДЗЯРЖАЎНЫХ ДАПАМОГ СЕМ'ЯМ, ЯКІЯ ВЫХОЎВАЮЦЬ ДЗЯЦЕЙ

**Мы (я, муж і дзве дачушкі-малышкі, якім няма і двух гадоў) жывём у вёсцы. Муж працуе ў калгасе, у якім вось ужо 3 месяцы (снежань, студзень, люты) ніхто не атрымлівае грошай на дзяцей, хоць і зарплату тут чакаеш не менш. Пытанне маё заключаецца ў тым, што я хацела б ведаць, у які тэрмін павінны выплачвацца грошы на дзяцей, і што можна зрабіць у маім выпадку.**

**Галіна Ч. Лунінецкі раён.**

Частка 1 арт. 13 Закона РБ «Аб дзяржаўных дапамогах сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей» ад 30.10.92 г. вызначае выплату дапамогі кожны месяц з дня афармлення водпуску па догляду дзіцяці. Дапамогі фарміруюцца з сум, унесеных прадпрыемствам, арганізацыяй, калгасам у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва. Таму не своечасовае ўнясенне грошай і выклікае затрымку выплаты дапамогі. Вы можаце звярнуцца ў арганізацыю, ад якой атрымліваеце дапамогу, з просьбай хадайнічаць перад аддзелам сацыяльнага забеспячэння раёна аб выплаце дапамогі. Пры наяўнасці свабодных сродкаў Ваша просьба можа быць задаволена.

## ЯКІ КЛАС, ТАКІ І АКЛАД

**Хацелася б ведаць, якому класу адпавядае мая пасада — арганізатар аддзела адукацыі райвыканкома?**

**М. КАРОЗА. г. п. Зэльва.**

Відаць, гэта пытанне цікавіць не толькі аўтара пісьма, але і такіх жа спецыялістаў адукацыі з іншых раёнаў. Адказ на яго па просьбе рэдакцыі даў начальнік упраўлення працы і заработнай платы Міністэрства працы А. Коўшар:

— Арганізатару аддзела адукацыі райвыканкома прадугледжана прысваенне 11-12 класа, гэта значыць вышэйшы клас на займаемай пасадзе. А вось прысваенне чарговага класа можа быць праведзена пры ўмове пераводу работніка на іншую, больш высокую пасаду.

## ІМЯ І ПОДЗВІГ ДЖУМАША АСАНАЛІЕВА

**Адна з вуліц беларускай сталіцы носіць імя Асаналіева. Ці не маглі б вы на старонках «Звязды» расказаць больш-менш падрабязна аб тым чалавеку, у гонар якога названа вуліца?**

**Аляксандр РЫЖКОЎ, г. Магілёў.**

Джумаш Асаналіеў нарадзіўся ў маі 1923 года ў станіцы Атуз-Уул Ак-Суйскага раёна Кіргізіі. У няпоўныя дваццаць гадоў трапіў на фронт Вялікай Айчыннай вайны. 24 чэрвеня 1994 года яфрэйтар, наводчык кулямёта Асаналіеў адным з першых пераправіўся праз Заходнюю Дзвіну ў раёне вёскі Лабейкі тагачаснага Сіроцінскага раёна на Віцебшчыне. У час захопу плацдарма Джумаш асабіста знішчыў каля 20 нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Атакі гітлераўцаў мужны малады воін адбіваў у адзіночку: сябры па кулямётнаму разліку былі забіты. Фашысты акружылі Асаналіева, прапанавалі здацца ў палон. Апошняй гранатай ён падарваў сам сябе і знішчыў гэтым самым яшчэ некалькі ворагаў. У тым жа 1944-м мужнаму сыну кіргізскага народа было пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Яго астанкі пахаваны ў вёсцы Узрэчча Бешанковіцкага раёна.

## ГАРАНТЫІ ПРАЦОЎНЫХ ПРАВОЎ НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ МЯСЦОВЫХ САВЕТАЎ

**З нецярпеннем чакаю адказу на такія пытанні:**

**Ці мае права наймальнік заключыць тэрміновы дагавор або кантракт з дэпутатам мясцовага Савета на тыдзень або месяц, а затым звольніць яго з работы пры ўмове, што дэпутат дасягнуў пенсіённага ўзросту?**

**Ці правільна растлумачылі мне юрысты, сказаўшы, што артыкул 36 «Закона аб статусе народных дэпутатаў мясцовага Савета народных дэпутатаў РБ» распаўсюджваецца толькі на тых, хто ўчыніў нейкія процізаконныя дзеянні ці амаральныя ўчынкі? Калі ж я была добрасумленнай працаўніцай, аб чым сведчаць Ганаровыя граматы на ўзроўні вобласці і Рэспублікі Беларусь, узнагароджана медалём «Ветэран працы», за 36 гадоў работы не атрымала ніводнай дрэннай заўвагі, то згоды сесіі Савета на маё звальненне з работы не патрабуецца. І мяне звольнілі.**

**Як правільна тлумачыцца 36 артыкул «Закона аб статусе народных дэпутатаў мясцовага Савета»?**

**Дэпутат Астравецкага сельскага Савета УШАКЕВІЧ Марыя.**

У адпаведнасці з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 20.10.95 г. № 437 наймальнік заключае кантракт з раней прынятым работнікам, які дасягнуў пенсіённага ўзросту ці які атрымлівае працоўную пенсію. Тэрмін кантракта вызначаецца пагадненнем бакоў.

Скасаваць кантракт да заканчэння тэрміну яго дзеяння на падставе дасягнення работнікам пенсіённага ўзросту і які мае права на пенсію, наймальнік не мае права, таму што гэтая падстава, а ў прыватнасці п. 1 ч. 1 арт. 33 КЗаП РБ, Законам РБ ад 11.11.94 г. «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у заканадаўства аб працы ў сувязі з прыняццем Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь» — адменена.

Артыкул 36 Закона РБ «Аб статусе народных дэпутатаў мясцовых Саветаў народных дэпутатаў РБ» ад 27.03.92 гарантуе працоўнае права народных дэпутатаў мясцовых Саветаў.

Гэта гарантыя заключаецца ў тым, што без папярэдняй згоды Савета народны дэпутат не можа быць звольнены па ініцыятыве адміністрацыі, г. зн. на падставе, прадугледжанай арт. 33 КЗаП РБ. Таму незахаванне гэтай умовы з'яўляецца парушэннем гарантый працоўнай дзейнасці дэпутата, за якое службовыя асобы павінны несці адказнасць у адпаведнасці з арт. 39 вышэй памянёнага закона.

***ВАМ АДКАЗВАЕ ЮРЫСТ***

## ПРАВЫ НАЙМАЛЬНІКАЎ НЕ ПАВІННЫ ПАРУШАЦЬ ПРАВЫ РАБОТНІКАЎ...

**Часам мы не ведаем, што робім. Скараспелыя нарматыўныя акты, што замяняюцца адзін адным і ўносяць розныя змяненні, дапаўненні, калі-нікалі, як нажніцамі, перакройваюць лёсы людзей і прыносяць ім боль і непрыемнасці. Адразу гэта не відаць: акты разлічаны на неакрэсленае кола людзей. Але калі іх пачынаюць прымяняць на практыцы і яны закрануць канкрэтна Іванова ці Пятрова, — выявіцца ўся іх «каштоўнасць».**

Так адбылося і з Указам Прэзідэнта «Аб некаторых пытаннях рэгулявання працоўнай дзейнасці і пенсіённага забеспячэння». (Яго мы аналізавалі ў нашай рубрыцы ў мінулы раз — «Звязда», 28 сакавіка.)

Указ, як вядома, даў права наймальніку вырашаць: захаваць на тых жа ўмовах працоўныя адносіны з работнікамі, якія дасягнулі пенсіённага ўзросту і маюць права на поўную пенсію, ці заключыць з імі кантракт на пэўны тэрмін.

На яго падставе было прынята Палажэнне аб парадку і ўмовах заключэння кантрактаў з работнікамі, якія маюць права на пенсію. У ім (п. 3) прадугледжана, што кантракт можа быць заключаны на тэрмін да 2 гадоў. Канкрэтны тэрмін кантракта акрэсліваецца па пагадненню паміж наймальнікам і работнікам. Менавіта гэтая норма і парадзіла цяжкія вынікі.

Пошта рэдакцыі сведчыць: многія наймальнікі, лічачы, што ў іх знікла праблема са звальненнем непажаданага работніка, сталі заключаць кантракты на 1, 2, 3 месяцы. Гэта вельмі выгадна: скароціш такога работніка, як таго патрабуе закон, — выплачвай трохмесячную выхадную дапамогу. Заключы з ім кантракт на 1-2 месяцы — абыдзецца танней, бо выхадная дапамога намнога меншая (двухтыднёвы сярэдні заробак). А калі права дадзена — чаму б яго не выкарыстаць?

Многія чытачы ведаюць, што Канстытуцыйны суд не пагадзіўся з Указам і прызнаў яго ў частцы, якая датычыцца працуючых пенсіянераў, незаконным. Ведаюць, а таму не могуць зразумець: чаму не маюць права парушаць — і парушаюць.

На самай справе, Канстытуцыйны суд даў прававую ацэнку выпадкам з працуючымі пенсіянерамі. Палічыў, што яны павінны знаходзіцца ў роўных умовах з іншымі работнікамі. Прызнаў, што прадпісанне, якое прадугледжвала абавязковасць заключэння з імі кантракта, не мае юрыдычнай сілы.

Сказаць, што гэта рашэнне цалкам праігнаравана, — нельга. Рашэнне КС было прынята 27 кастрычніка 1995 г., а 29 снежня 1995 г. ва ўказ былі ўнесены новыя змяненні. Але заканатворцы пры гэтым яўна схітрылі: абавязак заключыць кантракты замянілі на права заключаць кантракты, а вынік атрымаўся той жа: пенсіянера могуць лёгка і проста звольніць. Заўвагі ж КС аб тым, што міжнародныя канвенцыі, рэкамендацыі МАП, уласная Канстытуцыя прадугледжваюць, што дзяржава не павінна дапускаць дыскрымінацыі старых людзей у галіне працы і заняткаў — засталіся незаўважанымі. Таму і ўзнікла калізія законаў.

**Наталля ДОЎНАР, юрыдычны кансультант «Звязды».**

*Выпуск «ПЫТАЛЬНІКА» падрыхтавалі:* **Іван БРАЛКА, Жанна КАТЛЯРОВА, Анатоль МЯСНІКОЎ, Анатоль СЛАНЕЎСКІ, Віктар ШЧУЧЭНКА.**

# СПАДЗЯВАННЕ НА НОВЫЯ МАГЧЫМАСЦІ БЕЛАРУСІ

## альбо Навошта Алёне Новік спатрэбіўся ў Трыесце рэцэпт прыгатавання дранікаў

**ПРАГА ДА ПАДАРОЖЖАЎ спрадвечна ўласцівая чалавеку. Напэўна, кожны, асабліва ў дзяцінстве і юнацтве, марыць аб тым, каб пабачыць свет, пазнаёміцца з жыццём іншых народаў. У сённяшняй моладзі ёсць новыя унікальныя магчымасці. Адна з іх — вучоба ў каледжах міжнароднай супольнасці. Гэта дазваляе не толькі пажыць некалькі гадоў у замежнай краіне, але і атрымаць выдатную адукацыю.**

**Сваім узнікненнем Беларускі камітэт UWC (United World Colleges), — каледжаў міжнароднай супольнасці абавязаны прафесару Адаму Мальдзісу, які прынёс да нас першыя звесткі аб гэтай міжнароднай адукацыйнай арганізацыі і ўзначаліў аргкамітэт па стварэнню яе прадстаўніцтва ў Беларусі. Галоўныя мэты каледжаў міжнароднай супольнасці — усталяванне ідэалаў узаемаразумення, талерантнасці, супрацоўніцтва паміж моладдзю розных краін праз адукацыю. Дасягаецца гэта на першы погляд проста: збіраюць з усяго свету падлеткаў (16—19 гадоў) і навучаюць іх разам у міжнародных каледжах, якія на сённяшні дзень існуюць у 10 краінах свету: Італіі, Нарвегіі, Сінгапуры, Ганконгу, Свадзілендзе, Канадзе, Індыі, Венесуэле, Злучаных Штатах Амерыкі і інш.**

Навучанне ў каледжах вядзецца па сістэме IB (International Bacalaureate) — міжнароднага бакалаўрэату. Гэтая сістэма нагадвае адукацыйныя мадэлі заходніх краін, якія дазваляюць навучэнцам старэйшага (перадуніверсітэцкага) узросту выбіраць вывучаемыя дысцыпліны і ўзровень іх вывучання згодна са сваімі прыхільнасцямі і патрабаваннямі прафесіі, якую яны мяркуюць набыць у будучыні.

Навучанне ў іх сістэме можа падацца надта палегчаным у параўнанні з нашым: замест 18 абавязковых дысцыплін (у апошніх класах нашай сярэдняй школы) студэнты, якія навучаюцца па IB, вывучаюць толькі 7: ім дазваляецца выбіраць па адной дысцыпліне з 6 груп. Існуе таксама адзін незнаёмы нам прадмет, вывучэнне якога, тым не менш, лічыцца вельмі важным і таму абавязковым для ўсіх, хто займаецца па сістэме IB, тэорыя ведаў. Яна разглядае філасофскі аспект дысцыплін, якія вывучаюць студэнты, ці, іншымі словамі, тлумачыць ролю і значэнне той ці іншай навукі ў чалавечай дзейнасці.

Дысцыпліны скампанаваныя па групах наступным чынам:

Першая група — група моў А. Студэнт абірае мову, якую ён будзе вывучаць на паглыбленым узроўні. Як правіла — гэта яго родная мова.

Другая група — група моў В. Гэта замежная мова на выбар.

Трэцяя група — грамадазнаўчыя дысцыпліны: гісторыя, геаграфія, эканоміка, філасофія, псіхалогія, сацыяльная антрапалогія, менеджмент.

Чацвёртая група- прыродазнаўчыя дысцыпліны: біялогія, хімія, фізіка, экалогія.

Пятая група — матэматычныя дысцыпліны. Налічвае таксама пяць прадметаў, якія разглядаюць розныя аспекты матэматыкі.

Шостая група — факультатывы: мастацтва альбо дызайн, музыка, лаціна, старагрэчаская мова, інфарматыка ці нейкі іншы факультатыў, які ўводзіцца каледжам са згоды кіраўніцтва IB. Акрамя таго, студэнт мае права вывучаць па гэтай групе нейкую іншую дысцыпліну з груп 2, 3 ці 4. Тры ці чатыры з абраных дысцыплін даецца права вывучаць на паглыбленым узроўні.

Студэнт абавязаны таксама займацца ў нейкай творчай студыі, наведваць спартыўную секцыю і займацца дабрачыннай сацыяльнай працай. У канцы тэрміну навучання студэнты здаюць іспыты на ступень міжнароднага бакалаўра па ўсіх вывучаемых дысцыплінах і па адной з іх (на выбар) пішуць разгорнутае эсэ — працу накшталт дыпломнай работы ў інстытуце.

Трэба адзначыць яшчэ адну цікавую акалічнасць, звязаную з правядзеннем экзаменаў. Усе экзаменацыйныя матэрыялы, білеты, тэмы, тэсты і г. д, дасылаюцца дырэкцыяй IB з Бруселя. Выкладчык у міжнародным каледжы толькі раздае аркушы з падрыхтаванымі заданнямі, а пасля выканання іх студэнтамі збірае і дасылае адказы назад у Брусель, дзе іх правяраюць, а пасля паведамляюць у каледж пра выстаўленыя адзнакі. Нават вусныя адказы запісваюцца на касету і таксама дасылаюцца ў Брусель. Напэўна, такім чынам імкнуцца дасягнуць найбольшай аб'ектыўнасці і незалежнасці экзаменатара пры ацэнцы ведаў, але і ў такой сістэме можна знайсці пэўныя хібы: у прынцыпе, нельга на 100 працэнтаў гарантаваць добрасумленнасць выкладчыка, які раздае экзаменацыйныя заданні і сочыць за студэнтамі пры іх выкананні. Апроч таго, у каледжах ходзяць легенды пра нейкага выдатнага студэнта, які бліскуча ведаў пэўны прадмет, але атрымаў па ім на экзамене нездавальняючую адзнаку толькі з-за таго, што меў дрэнны почырк. Недзе далёка нейкі экзаменатар, які ніколі яго не бачыў і нічога пра яго не ведаў, паленаваўшыся разбірацца ў ягоных каракулях, проста ўляпіў небараку «пару», прыпісаўшы пры гэтым «unreadable» (нечытабельна). Але гэта хутчэй выключэнне. Аб'ектыўнасць у каледжах сапраўды высокая, і ўзровень падрыхтоўкі сапраўды добры.

Што тычыцца невялікай у параўнанні з нашай школай колькасці вывучаемых дысцыплін, то і ў гэтым ёсць рацыя. Мэты савецкай адукацыйнай сістэмы, якая дагэтуль выкарыстоўваецца ў нас, як, дарэчы, і савецкай сістэмай ўвогуле, захоўвалі шмат утапічнага. Вывучыць такую вялікую колькасць дысцыплін, якая дагэтуль існуе ў нашай школьнай праграме, на аднолькава высокім узроўні немагчыма. Таму высокія адзнакі ў атэстатах выпускнікоў нашых школ часта з'яўляюцца фікцыяй. Заходнія адукацыйныя мадэлі адрозніваюцца большым прагматызмам: лепш засяродзіцца на тым, што табе сапраўды спатрэбіцца ў тваёй далейшай прафесіянальнай дзейнасці і выкарыстаць вызвалены пры гэтым час на самаўдасканаленне і стваральную працу, чым тлуміць галаву вывучэннем не цікавых табе прадметаў.

Усе дысцыпліны выкладаюцца ў каледжах на англійскай мове, але кожны студэнт мае магчымасць вывучаць сваю родную мову і павінен быць у стане паўнавартасна прадстаўляць сваю краіну, расказаць сваім таварышам па каледжу пра яе гісторыю і культуру.

Адборам кандыдатаў і накіраваннем у міжнародныя каледжы займаюцца нацыянальныя камітэты UWC, якія працуюць сёння ў больш чым 100 краінах свету. Трэці год працуе такі камітэт і ў Беларусі. Нашай «першай ластаўкай», якая паляцела ў Міжнародны Адрыятычны каледж у Італіі стала выпускніца Беларускага гуманітарнага ліцэя Алёна Новік. Шчыра кажучы, у нас не было вялікіх хваляванняў наконт яе адаптацыі за мяжой, бо яшчэ ў нашым ліцэі яна бянтэжыла выкладчыкаў тэмпамі засваення прапануемых ёй ведаў, мэтанакіраванасцю і засяроджанасцю. У нас яна была выдатнай навучэнкай і засталася такой у Італіі. Тым не менш, прыемна чытаць справаздачы аб яе пасяховасці, якія рэгулярна дасылаюцца нам з каледжа.

Вось, напрыклад, водгук за восень 1994 года, першы семестр, пачатак навучання:

***Нямецкая мова.*** З самага пачатку Алёна праявіла высокую матывацыю да нямецкай мовы. Беручы пад увагу тое, што ў сваёй краіне яна вывучала гэтую мову толькі год, яе валоданне фанетыкай, моўны запас, граматычныя веды проста неверагодныя. Яна валодае навыкамі вуснага выказвання, і таксама можа пісаць доўгія амбіцыйныя эсэ. Гэта проста задавальненне — бачыць яе ў класе.

**Ганс Раймунд.**

У тым, што гэтыя водгукі — не простая даніна ветлівасці, аўтар гэтых радкоў змог упэўніцца пры асабістым наведванні Адрыятычнага міжнароднага каледжа падчас адной з канферэнцый па міжнароднай адукацыі. Канферэнцыя адбывалася ў Трыесце, і ў праграме было запланавана знаёмства з Міжнародным адрыятычным каледжам. Падчас вячэры, якую каледж наладзіў у гонар гасцей з усяго свету, мы (дэлегаты з Беларусі, Украіны, Польшчы), апынуліся за адным столікам з Францыскай і Гансам Раймундамі — жонкай і мужам з Аўстрыі. Францыска — аўстрыйская паэтка, выкладае нямецкую мову і вядзе паэтычную студыю. Шчыра кажучы, было нават крыху няёмка перад калегамі з Украіны і Польшчы, бо гаворка за сталом па ініцыятыве гаспадароў ішла выключна пра Алёну, яе незвычайныя здольнасці і поспехі. Яна сапраўды пакінула добрае ўражанне не толькі аб сабе, але і аб нашым ліцэі, аб Рэспубліцы Беларусь увогуле, бо з'явілася першай прадстаўніцай нашай краіны ў каледжах міжнароднай супольнасці. Хаця, калі гаворка зайшла пра стол, варта ўзгадаць і пра пэўныя хібы ў Алёнінай падрыхтоўцы, звязаныя якраз з гэтым. У традыцыях міжнародных каледжаў — штотыднёвыя нядзельныя вячэры, якія ладзяць навучэнцы на кватэры свайго выкладчыка (выхавацеля). На такіх вячэрах кожны са студэнтаў па чарзе павінен прыгатаваць страву з нацыянальнай кухні сваёй краіны. Вось тут у Алёны раптам здарыўся пракол: аказалася, што наша выдатніца не ведае, як гатаваць боршч і дранікі. Прыйшлося тэрмінова факсам дасылаць ёй рэцэпты.

Але абмен інфармацыяй з Алёнай не абмежаваўся кулінарнай тэмай.

Адрыятычны каледж, як і любы іншы з 9 міжнародных каледжаў, — з'ява непаўторная і унікальная. Ён размешчаны ў невялічкім мястэчку Дуіна, непадалёк ад мяжы са Славеніяй.

Значную частку насельніцтва Дуіна складаюць славены, таму нават надпісы на шыльдах тут на дзвюх мовах — па-славенску, кірыліцай, і па-італьянску, лацінкай. Цікавым было агульнае вырашэнне размяшчэння каледжа. Ён не ўяўляе сабой нейкі асобны будынак ці архітэктурны комплекс. Аўдыторыі, адміністрацыйныя памяшканні, рэзідэнцыі студэнтаў і выкладчыкаў раскіданы па ўсім Дуіна. Каледж нібыта ўманціраваны ў мястэчка, стварае з ім гарманічнае адзінства: праз некалькі катэджаў мясцовых жыхароў вы раптам сустракаеце невялікую мураванку з некалькімі аўдыторыямі, яшчэ праз некалькі будынкаў — бібліятэку, лабараторыю і г. д. Падчас перапынкаў студэнты перабягаюць з аўдыторыі ў аўдыторыю праз ўсё мястэчка. Тэхнічнае забеспячэнне аўдыторый і лабараторый уражвае багаццем і разнастайнасцю. Нават мэбля — дошкі, крэслы, экраны, асвятляльныя прыборы ў розных аўдыторыях — розныя. Размяшчэнне сталоў у аўдыторыях не класічнае, шэрагамі, як у нас, а — квадратам, колам, амфітэатрам. Лабараторыі па прыродазнаўчых дысцыплінах па колькасці і якасці прыбораў і іншага абсталявання нагадваюць хутчэй навуковую ўстанову. Усё гэта сведчыць пра наяўнасць выдатна развітой індустрыі забеспячэння навучальнага працэсу.

Яшчэ адной незвычайнай для нас асаблівасцю міжнародных каледжаў з'яўляецца тое, што ў іх няма класаў, груп. Ёсць толькі курсы — першы і другі. На кожным курсе — па сто чалавек. Але, паколькі кожны студэнт абірае індывідуальны пералік вывучаемых дысцыплін, ён мае магчымасць сустрэцца ў невялікіх калектывах на занятках, падчас трэніровак, рэпетыцый, сацыяльнай працы практычна з кожным з іншых студэнтаў каледжа. Напрыклад, французскую мову ён вучыць з аднымі, матэматыку — з другімі, гісторыю — з трэцімі і г. д.

За чатыры дні, якія я правёў у каледжы, мне ніводнага разу не сустрэўся студэнт, які б гультайнічаў, марнаваў час. Адчуваецца атмасфера спаборніцтва ў набыцці ведаў, якім захоплены ўсе. Студэнтаў з кнігамі і канспектамі можна бачыць не толькі ў жылых пакоях, бібліятэцы, у вольных аўдыторыях, але і на лужку перад сталовай, куды яны выносяць талеркі з ежай, і проста на тратуары ў самых розных кутках мястэчка. Моладзь у каледжы мае неверагодную, на наш погляд, свабоду. Здаецца, што дзеянні студэнтаў ніякім чынам не кантралююцца. Яны маюць пэўныя абавязкі: наведваць лекцыі і пасяхова выконваць тэсты і іншыя заданні, наведваць спартыўныя і творчыя секцыі, працаваць па абслугоўванню каледжа: прыбіраць, мыць транспарт, які належыць каледжу, збіраць і здаваць на макулатуру паперу і г. д., у вызначаны час ездзіць працаваць у дзіцячы дом ці пансіянат для састарэлых. На ўсё гэта, што, дарэчы, і складае абавязковую праграму каледжа, ідзе каля 40—45 гадзін на тыдзень. Па-за гэтым часам асабістае жыццё студэнта ўвогуле ніяк не рэгламентуецца. Ён можа бываць дзе хоча, вяртацца ў свой пакой у любы час сутак. Але ў каледжы няма праблем, звязаных з дрэннымі паводзінамі, хуліганствам, сексуальнай разбэшчанасцю, і не відаць, каб адміністрацыя прыкладала для гэтага нейкія звышнамаганні.

Звяртаюць на сябе ўвагу іншыя, у параўнанні з нашымі, стэрэатыпы паводзінаў моладзі. У нас на паводзіны аказвае яўны ўплыў крымінальнае асяроддзе. Каб вылучыцца, звярнуць на сябе ўвагу, падлетак імкнецца выглядаць «крутым», яго паводзіны разлічаны на эпатаж, выклік грамадству. Адсюль жорсткія інтанацыі, брудная лаянка пры дарослых і дзяўчынках, адсюль і галоўныя прыярытэты — «лёгкія» грошы, якія даюць магчымасць «адарвацца», «злавіць кайф» з дапамогай алкаголю, наркотыкаў, сексу. Прычынамі такіх паводзінаў, якія ўжо сталі традыцыйнымі, можна назваць і двайную мараль, якая існавала ў школе, як і ва ўсім савецкім грамадстве, калі кожны быў прымушаны рэгламентаваць сваё жыццё догмамі і правіламі, ілжывасць і крывадушнасць якіх былі агульнавядомы. Праблема нашага грамадства і нашай школы — у яе унітарнасці, заснаванай на утапічнай крывадушнай роўнасці, калі здольныя дзеці мусяць якраз у перыяд, калі адбываецца фарміраванне іхняй асобы, вучыцца разам з няздольнымі, разумова адсталымі аднагодкамі, а часам і малалетнімі злачынцамі. Дарэчы, менавіта такая утапічная катэгарычнасць разумення паняцця роўнасці ў нашай школе і прыводзіць да таго, што разумова адсталымі, няздольнымі ў нас лічыцца значна больш дзяцей, чым іх ёсць на самай справе, бо яна не дае магчымасці паўнавартаснага развіцця для дзяцей, здольных да практычнай дзейнасці, рабочых прафесій. Вымушаныя займацца па праграме, перанасычанай навуковымі, тэарэтычнымі дысцыплінамі, па якой яны заведама няздольныя вучыцца пасяхова, яны, натуральна, імкнуцца кампенсаваць сваю амбіцыйнасць дэманстрацыяй уласнай сілы і смеласці, часта — праз хуліганскія ўчынкі, тэрор у дачыненні да больш здольных да абстрактнай разумовай дзейнасці аднакласнікаў, што вымушае апошніх таксама рабіць абарончыя захады і мімікрыраваць пад агульны крымінагенны фон.

У каледжы і ў мястэчку, дзе ён знаходзіцца, усталявалася унікальная атмасфера спакою, сяброўства, маральнага камфорту. Кожны, дзе б вы яго ні сустрэлі, знаёмы ці незнаёмы, павітае вас усмешкай і добразычлівым «хэло!», прыйдзе вам на дапамогу ў выпадку неабходнасці. Здаецца, што хамства, хуліганства, непаважлівых адносінаў паміж людзьмі тут не існуе ўвогуле.

Добры пачатак з Алёнай Новік меў і добры працяг: у мінулым годзе Беларусь атрымала ўжо два месцы ў міжнародных каледжах: адно — зноў у Італіі і адно — у Нарвегіі, у Паўночным міжнародным каледжы Чырвонага Крыжа.

Апрача ўдзелу ў канферэнцыі па супрацоўніцтву ў галіне міжнароднай адукацыі на перадуніверсітэцкім узроўні паміж краінамі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы і Захадам у Трыесце, пра які я ўжо згадваў вышэй, у мінулым годзе мне давялося таксама наведаць Сусветную канферэнцыю каледжаў міжнароднай супольнасці ў Йаганесбургу (Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка). Такія форумы з удзелам прадстаўнікоў больш чым 150 краін свету — выдатная магчымасць для абмену вопытам, атрымання інфармацыі аб адукацыйных сістэмах іншых краін, завязвання кантактаў.

Падчас гэтых сустрэч мне ўдалося пазнаёміцца з дырэктарамі міжнародных каледжаў у Сінгапуры, Ганконгу, Уэльсе, Італіі, Нарвегіі, Паўднёвай Афрыцы, Канадзе, з прадстаўнікамі каледжаў Венесуэлы і Індыі, з дырэктарамі ліцэяў, каледжаў, гімназій, прадстаўнікамі міністэрстваў адукацыі многіх краін з усяго свету. Карыснымі і перспектыўнымі былі таксама кантакты з каардынатарам міжнароднага супрацоўніцтва каледжаў Кэці Макгінес з Лондана і каардынатарам міжнародных праграм міжнароднага бакалаўрэату Монікай Лодман з Бруселя. Вельмі ўразіла асабістае знаёмства з новым прэзідэнтам каледжаў міжнароднай супольнасці, чароўнай каралевай Іарданіі Норай і старшынёй Міжнароднай рады, прэзідэнтам Паўднёва-Афрыканскай рэспублікі, легендарным Нэльсанам Мандэлай. Падчас нашай гутаркі каралева Нора выказала зацікаўленасць у заснаванні міжнароднага каледжа ў адной з краін былога Савецкага Саюза. Безумоўна, было б выдатна, каб такой краінай стала Беларусь. Але гэта пакуль што — надта далёкая перспектыва, а ў бліжэйшых планах — накіраванне ў гэтым годзе ў каледжы Нарвегіі і Італіі двух новых студэнтаў з Беларусі, традыцыйны ўдзел нашых прадстаўнікоў у міжнародных летніках у Літве і Польшчы, а летам гэтага года — прыём удзельнікаў літоўскага летніка ў Беларусі. У Йаганесбургу было таксама дамоўлена, што летам 1997 года такі летнік будзе арганізаваны ў Беларусі, у Мірскім замку. З'явілася надзея на пашырэнне геаграфіі навучання нашых студэнтаў у міжнародных каледжах.

Падчас наведвання міжнародных каледжаў у Італіі і Паўднёвай Афрыцы быў зняты цікавы відэаматэрыял, па якому рыхтуецца тэлеперадача, выпуск якой затрымліваецца з-за недахвату сродкаў. З гэтай нагоды варта адзначыць, што каледжы міжнароднай супольнасці — недзяржаўная, некамерцыйная арганізацыя, якая існуе галоўным чынам за кошт ахвяраванняў і спонсарскай дапамогі. Сярод яе апекуноў і патронаў — кіраўнікі дзяржаў, буйныя міжнародныя кампаніі і банкі, сусветна вядомыя дзеячы культуры. На жаль, Беларускі камітэт пакуль што не мае такой падтрымкі ў сваёй краіне. Навучанне беларускіх студэнтаў і ўдзел беларускай моладзі ў міжнародных летніках аплачваюць самі каледжы і Міжнародная рада гэтай арганізацыі ў Лондане. Наш удзел у канферэнцыі ў Трыесце адбыўся пры дапамозе вядомага беларусіста з Вялікабрытаніі Джыма Дзінлі, а сродкі на паездку ў Йаганесбург выдаткаваў Беларускі фонд Сораса. Выказваючы шчырую падзяку за гэтую падтрымку, спадзяёмся, што дзейнасць нашага камітэта ў рэшце рэшт зацікавіць у Беларусі тых, хто зможа аказваць яму пастаянную дапамогу, як гэта робіцца ва ўсім свеце, бо карысць ад гэтай дзейнасці — відавочная. Тых, каго цікавіць супрацоўніцтва з нашым камітэтам, просім звязацца з намі па адрасе, які мы даём ніжэй.

Ну а тыя, хто, прачытаўшы гэты артыкул, пажадае ўзяць удзел у конкурсе на атрыманне стыпендый у міжнародных каледжах Італіі і Нарвегіі, мусяць даслаць у адборачную камісію заяву з указаннем свайго адраса, тэлефона і нумара школы, эсэ на англійскай і беларускай мовах аб'ёмам 3-4 старонкі вучнёўскага сшытка з адказамі на пытанні: якім я ўяўляю сабе каледж, дзе вучыцца моладзь з усяго свету? Чаму мне было б цікава ў ім вучыцца? Чым гэты каледж мог бы мне дапамагчы ў засваенні прафесіі, якую я мяркую набыць у будучыні? А таксама копію пасведчання аб нараджэнні (абітурыент павінен мець поўных 16 гадоў на 1 верасня 1996 г.), медыцынскую даведку і копію ведамасці аб пасяховасці за 1995/1996 навучальны год. Камісіі могуць быць таксама прадстаўлены граматы, дыпломы і іншая інфармацыя, якая сведчыць пра спартыўныя і творчыя дасягненні абітурыента. Тэрмін падачы заяў — да 20 красавіка 1996 г. Тыя, хто пройдзе завочны конкурс, будуць запрошаны на субяседаванне, на якім будзе выяўляцца ўзровень ведаў абітурыентаў па беларускай гісторыі, мове і літаратуры, англійскай мове, сусветнай гісторыі і культуры.

А тым, хто жадае паступіць у Беларускі гуманітарны ліцэй, нагадваем: прыём заяў ужо пачаўся. Абітурыенты павінны скончыць 7 класаў сярэдняй школы і пасяхова здаць уступныя іспыты па беларускай і замежнай мове і гісторыі Беларусі.

**Наш адрас: Мінск 220050, Кірава, 21. Тэл. для даведак 26-10-73.**

**Уладзімір КОЛАС,**
**дырэктар Беларускага гуманітарнага адукацыйна-культурнага цэнтра, старшыня Беларускага камітэта каледжаў міжнароднай супольнасці.**

# ПРЭЙСКУРАНТ ЦЭН НА РЫНКУ «ГАНДЛЁВЫ ДОМ «ЖДАНОВІЧЫ»

## Радыёрынак

| Назва | Вытворчасць | Цана |
|---|---|---|
| ***ТБ, відэа-, аўдыёапаратура*** | | |
| «Гарызонт 51» ТЦ 441Д: | | |
| з айчынным кінескопам | РБ | 170$ |
| з імпартным кінескопам | РБ | 190$ |
| «Гарызонт 51» ТЦ 518Д: | | |
| з айчынным кінескопам | РБ | 180$ |
| з імпартным кінескопам | РБ | 200$ |
| «Гарызонт 51» ТЦ 510Д: | | |
| з айчынным кінескопам | РБ | 200—210$ |
| з імпартным кінескопам | РБ | 240$ |
| «Гарызонт 51» ТЦ 603 | | |
| з айчынным кінескопам | РБ | 290$ |
| Гарызонт 42 ТЦ 510Д | РБ | 250$ |
| няпішучы відэаплэер | Карэя, Малайзія | 100—140$ |
| пішучы відэаплэер | Карэя, Германія | 150—180$ |
| відэамагнітафон | Расія | 220$ |
| відэамагнітафон | Карэя | 200—250$ |
| відэамагнітафон | Японія, Германія | 300—500$ |
| відэакасета 180 хвіл. | Карэя | 40 тыс. руб. |
| відэакасета 240 хвіл. | Германія | 50 тыс. руб. |
| кампакт-дыскі | няфірменныя | 4—8$ |
| кампакт-дыскі | фірменныя | 10—15$ |
| кампакт-дыскі з гульнявымі праграмамі | - | 4$ |
| аўдыёкасеты | РБ | 18 тыс. руб. |
| аўдыёкасеты | імпартныя | да 30 тыс. руб. |
| аўдыёкасеты з запісам | - | 40 тыс. руб. |
| двухкасетная магнітола | Карэя | 20—40$ |
| музычны цэнтр | Карэя | 90$ |
| музычны цэнтр (фірменны) | Японія, Германія | 300—400$ |

| Назва | Вытворчасць | Цана |
|---|---|---|
| ***Блокі, вузлы, камплектуючыя да ТЦ*** | | |
| кінескоп 61 см па дыяганалі | РБ | 75$ |
| кінескоп 61 см п/д | Расія | 90$ |
| кінескоп 54 см п/д | Літва | 85$ |
| кінескоп 54 см п/д | Японія, Германія | 140$ |
| кінескоп 51 см п/д | г. Варонеж (па тэхналогіі «Filips») | 80$ |
| кінескоп 51 см п/д | г. Варонеж (звычайны) | 75$ |
| кінескоп 51 см п/д | Японія, Германія, Карэя | 130$ |
| кінескоп 42 см п/д | г. Масква | 100$ |
| кінескоп 42 см п/д | Германія, Карэя | 120$ |
| кінескоп 32 см п/д | г. Масква | 50$ |
| камплект тэлевізійных блокаў (КТБ) да ТЦ 441 | РБ | 50$ |
| КТБ да ТЦ 518 | РБ | 55$ |
| КТБ да ТЦ 510 | РБ | 75$ |
| КТБ да ТЦ 603 | РБ | 85$ |
| камплект дыстанцыйнага кіравання (КДК) да ТЦ 441 | РБ | 15$ |
| КДК да ТЦ 510, ТЦ 518 | РБ | 20$ |
| корпус да ТЦ 54 см п/д | РБ | 30$ |
| корпус да ТЦ 51 см п/д | РБ | 25$ |
| корпус да ТЦ 42 см п/д | РБ | 12$ |
| Блок для прыёму дэцыметровых праграм СКД-24-2С | РБ | 50 тыс. руб. |
| Дэкодэр ПАЛ да ТЦ 3-, 4-га пакалення | РБ | 40—60 тыс. руб. |
| Дэшыфратар кабельнага тэлебачання (ручны) ДКТ | РБ | 5$ |
| ДКТ (аўтаматычны) | РБ | 8$ |

| Назва | Вытворчасць | Цана |
|---|---|---|
| Блок тэлетэксту | РБ | 30$ |
| Ахоўны экран да ТЦ 51 см п/д | РБ | 7$ |
| Кабель тэлевізійны, тоўсты | РБ | 4 тыс. руб./м |
| Кабель тэлевіз., тоўсты | імпартны | 4,5 тыс. руб./м |
| Кабель тэлевіз. тонкі | РБ | 3 тыс. руб./м |
| злучальны шнур для відэамагнітафона, высокачастотны ўваход | РБ | 10 тыс. руб. |
| злучальны шнур для відэамагнітафона, нізкачастотны уваход | РБ | 1$ |
| антэнны разгалінавальнік на 2 тэлевізары | РБ | 15 тыс. руб. |
| антэнны разгалінавальнік на 3 тэлевізары | РБ | 20 тыс. руб. |
| антэна усяхвалевая з узмацняльнікам (пакаёвая) | Польшча | 170 тыс. руб. |
| антэна усяхвалевая з узмацняльнікам (вонкавая) | Польшча | 165 тыс. руб. |
| тэлескапічная антэна без узмацняльніка | Карэя | 2,5$ |

***Плата за паслугі, якія аказваюцца на радыёрынку***

| | |
|---|---|
| Аб'ява па радыё | 3 тыс. руб. |
| Праверка ТЦ ад антэны або ад генератара | 15 тыс. руб. |
| Праверка дробных блокаў | 5 тыс. руб. |
| Праверка камплекта тэлевізійных блокаў | 20 тыс. руб. |
| Праверка кінескопа | 20 тыс. руб. |

Карыстанне разеткай і паяльнікам бясплатнае.

***Да ГД «Ждановічы» можна даехаць прыгараднымі аўтобусамі з чыгуначнага вакзала № 219, 227 або з метро «Пушкінская» аўтобусам № 7.***

# СПІС
## НЕДЗЯРЖАЎНЫХ ВЫШЭЙШЫХ НАВУЧАЛЬНЫХ УСТАНОЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

| № | Назва, заснавальнік | Юрыдычны адрас | Рэктар, прарэктар | Тэлефон | Акрэдытацыя |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Недзяржаўны інстытут сучасных ведаў. ЗАТ «Інстытут сучасных ведаў» | 220049, Мінск, вул. Кнорына, д. 1 | Шырокаў Аляксандр Міхайлавіч Дубінін Ігар Ільіч | 66-14-68, 66-15-99 | Эк. і кір. па фін. і крэдыт. сац. праца |
| 2. | Камерцыйны інстытут прадпрымальніцкай дзейнасці. НТТ будаўнікоў | 220030, Мінск, вул. Чычэрына, д. 21 | Атаеў Сяргей Сяргеевіч | 33-51-33, 31-32-60, 33-74-68 | |
| 3 | Беларускі камерцыйны універсітэт кіравання. ТАА «ЭГНІ», ТАА «ОЛДЫНГ» | 220046, Мінск, вул. Радыяльная, д. 36 | Ахрэм Эдвард Эдвардавіч | 38-51-33, 38-54-41, 50-30-35, 45-78-60, 30-30-35 | |
| 4. | Недзяржаўны інстытут кіравання і прадпрымальніцтва. ТАА «Інстытут кіравання і прадпрымальніцтва» | 220067, Мінск, вул. Гамарніка, д. 10 | Кожар Валерый Якаўлевіч | 61-62-30 | ёсць |
| 5. | Беларускі недзяржаўны інстытут правазнаўства. МП «Беларускі інстытут правазнаўства» | 220101, Мінск, прасп. Ракасоўскага, д. 166а | Сокал Сцяпан Фёдаравіч | 48-43-97, 47-29-13 | ёсць |
| 6. | Міжнародны інстытут працоўных і сацыяльных адносінаў. Савет Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі | 220099, Мінск, вул. Казінца, д. 21, корп. 3 | Тычына Валерый Міхайлавіч Вінакураў Анатоль Пятровіч | 77-08-71, 78-61-32, 78-03-59, 78-15-89 | |
| 7 | Эканамічна-лінгвістычны недзяржаўны універсітэт МП «Эліза» | 220038, Мінск, вул. Батанічная, д. 15 | Кудасава Венера Валерыеўна | 36-36-71, 32-19-05, 35-17-22 | |
| 8. | Недзяржаўная вышэйшая навучальная ўстанова «Інстытут кіравання». МП «Бацькаўшчына» | 220034, Мінск, вул. Лазо, д. 12 | Суша Мікалай Васільевіч | 39-10-63 42-97-97 | |
| 9. | Недзяржаўны фінансава-эканамічны інстытут. МП «Вучэбны цэнтр», Камерцыйная акадэмія | 212014, Магілёў, вул. К. Лібкнехта, д. 7 | Кавалёў Віктар Пятровіч | (8-0222) 25-21-19, 25-20-19 | |
| 10. | Жаночы недзяржаўны інстытут «Энвіла». ТАА «Энвіла» | 220002, Мінск, вул. К. Маркса, 25, 78 | Чарапанава Ларыса Аляксандраўна Рашчынская В. М. | 26-04-19, 26-06-87 | |
| 11. | Бабруйскі недзяржаўны інстытут кіравання. ТАА «БІДАіП» | Бабруйск, вул. Савецкая, д. 62 | Бабрыцкі Мікалай Рыгоравіч | 8-02251 2-40-70 | |
| 12 | Гуманітарны недзяржаўны інстытут. МПП «Душа» | Брэст, вул. Наганава | Шуман Святлана Георгіеўна | 8-01622(4) 43-04-06 | |
| 13. | Недзяржаўны сацыяльна-эканамічны інстытут. ТАА «ЭКПОіК» | 220000, Мінск, вул. Пляханава, д. 5 | Валовіч Зінаіда Іванаўна | 29-00-41 | |
| 14 | Гуманітарна-эканамічны недзяржаўны інстытут. ЗАТ «Веды» | 220010, Мінск, вул. Мяснікова, д. 38 | Алпееў Аляксандр Мікалаевіч | 20-20-38, 20-27-01 20-42-31 | |
| 15. | Беларускі недзяржаўны інстытут кіравання, эканомікі і фінансаў. Фонд падтрымкі незалежных навукі і вышэйшай школы | 220000, Мінск, вул. Прытыцкага, д. 62 | Дубовік Аляксандр Іванавіч | 53-12-16 | |
| 16 | Недзяржаўная акадэмія парламентарызму і прадпрымальніцтва. ЗАТ «Акадэмія парламентарызму і прадпрымальніцтва» | 220044, Мінск, вул. М.Багдановіча, д. 153 | Каракін Уладзімір Мікалаевіч | 31-57-68 | |
| 17 | 17. Еўрапейскі гуманітарны універсітэт. ТАА «ЕГУ» | 220030, Мінск, прасп. Ф. Скарыны, д. 24 | Міхайлаў Анатоль Арсеневіч | 76-81-61 | |
| 18. | Усходнееўрапейскі недзяржаўны інстытут бізнесу і права ТАА «Эканамічныя тэхналогіі» | 220672, Мінск, прасп. Машэрава, д. 105 | Раманаў Уладзімір Сяргеевіч | | |
| 19. | Беларускі інстытут міжнародных адносінаў | 220050, Мінск, вул. Свярдлова, д. 7, кв. 312 | Гермянчук Віктар Васільевіч | 20-71-92 | |

**Заўвага. Акрэдытацыя ВНУ дае права на дыплом дзяржаўнага ўзору.**

## РАСЦЭНКІ НА АРЭНДУ ГАНДЛЁВЫХ МЕСЦАЎ НА РЫНКУ ГД «ЖДАНОВІЧЫ»

**(з 1 красавіка па 30 чэрвеня 1996 года)**

Гандаль рэчамі:
Навес — 500.000 руб. (па дагаворах)*
Палатка — 450.000 руб. (па дагаворах)
Гандаль харчовымі таварамі:
Навес — 500.000 руб. (па дагаворах)
Разавае — 40.000 руб.
Разавы гандаль:
Навес — 40.000 руб.
Палатка — 40.000 руб.
З аўтамабіляў — 40.000 руб.
Гандаль радыёдэталямі:
Навес — 350.000 руб. (па дагаворах)
Разавае — 40.000 руб.
З аўтамабіляў — 40.000 руб. (па дагавору — 500.000 руб. у месяц)
Гандаль гаспадарчымі таварамі:
Навес — 200.000 руб. (па дагаворах)
Разавае — 10.000 руб.
Гандаль дэкаратыўнымі рыбкамі, папугаямі і інш.
Разавае — 5000 руб.
Гандаль свойскай жывёлай:
Разавае — 30.000 руб.
(з транспарту)
Гандаль з рук хатнімі жывёламі:
Разавае — 5000 руб.
Гандаль з грузавых аўтамабіляў:
Разавае — 60.000 руб.
Пропуск на аўтамабілі (для завозу тавару на рынак на працягу месяца) — 150.000 руб.
Аўтазапчасткі з аўтамабіляў:
Па дагавору — 500.000 руб.
Разавае — 40.000 руб.
Стаянка аўтамабіляў на суткі:
Грузавыя — 50.000 руб.
Легкавыя — 30.000 руб.
Продаж ашыйнікаў:
Па дагавору — 200.000 руб.
Разавае — 40.000 руб.
Разавыя без месца:
Тавары народнага спажывання, гасп. тавары, тавары б/к — 5000 руб.

* Дамова заключаецца на 1 квартал, аплата — штомесячна.



*Віншуем!*

Дарагога сына, мужа, тату Паўлючэнку Юрыя Валяр'янавіча сардэчна віншуем з 30-годдзем. Моцнага здароўя, спакою, цяпла, шчасця і дабрабыту тваёй сям'і.

*Маці, жонка, сыны Максім, Руслан.*

Віншуем з днём нараджэння Вежаля Івана Казіміравіча. Жадаем здароўя, шчасця, усяго найлепшага.

*Жонка, дзеці.*

Віншуем з днём нараджэння Бакуновіч Тацццяну Іванаўну. Будзь заўжды прыгожай, добрай, мілай і любімай.

*Муж, сын.*

# РАСКЛАД

## РУХУ ПРЫГАРАДНЫХ ПАЯЗДОЎ ПА СТ. МІНСК-ПАСАЖЫРСКІ

### МІНСК—БАРАНАВІЧЫ

**Адпраўленне са ст. Мінск-Пасажырскі**

| СТАНЦЫЯ НАЗНАЧЭННЯ | ДНІ | ЧАС | ПРЫПЫНКІ |
|---|---|---|---|
| Баранавічы | штодз. | 4-23 | без прып. Мезінаўка |
| Стоўбцы | штодз. | 5-44 | усюды |
| Стоўбцы | штодз. | 6-40 | усюды |
| Баранавічы | вых., пятн. | 7-18 | усюды |
| Стоўбцы | штодз. | 7-49 | усюды |
| Коласава | суб. | 8-07 | усюды |
| Баранавічы | штодз. | 8-20 | усюды |
| Баранавічы | вых. | 11-12 | без прып. Пціч, Станькава, Мезінаўка, Атцэда |
| Брэст | штодз. | 13-09 | да Брэста, без прып. Гай, Пціч, Воўчкавічы, Бярэжа, Станькава, Клыпаўшчына, Энергетык, 806-ы, Мезінаўка, Атцэда, Кучкуны |
| Баранавічы | штодз. | 16-57 | Без прып. Пціч, Станькава |
| Стоўбцы | штодз. | 17-32 | усюды |
| Стоўбцы | штодз. | 18-23 | усюды |
| Баранавічы | штодз. | 19-11 | усюды |
| Стоўбцы | штодз. | 20-25 | усюды |
| Брэст | штодз. | 22-00 | з прып. па ст. і п. п. Бальніца, Гай |

**Адпраўленне з прыпыначнага пункта Інстытут культуры**

| СТАНЦЫЯ НАЗНАЧЭННЯ | ДНІ | ЧАС | ПРЫПЫНКІ |
|---|---|---|---|
| Брэст | штодз. | 1-03 | з прып. Бальніца, Курасоўшчына, Гай, Памыслішча, Фаніпаль, Койданава, Негарэлае, Стоўбцы, Гарадзея, Пагарэльцы |
| Стоўбцы | штодз. | 9-11 | усюды |
| Стоўбцы | вых. | 9-40 | усюды |
| Брэст | штодз. | 10-30 | усюды |
| Стоўбцы | штодз. | 12-42 | усюды |
| Стоўбцы | штодз. | 13-48 | усюды |
| Баранавічы | штодз. | 14-26 | без прып. Пціч, Станькава, Мезінаўка, Атцэда |
| Стоўбцы | вых., пятн. | 15-03 | усюды |
| Стоўбцы | штодз. | 15-30 | усюды |
| Баранавічы | штодз. | 16-13 | без прып. Клыпаўшчына, Мезінаўка, Атцэда, Сінява |
| Коласава | пятн., нядз. | 16-22 | усюды |
| Коласава | пятн., вых. | 17-07 | усюды |
| Баранавічы | штодз. | 21-00 | усюды |
| Стоўбцы | штодз. | 22-40 | усюды |

### МІНСК—МАЛАДЗЕЧНА

| СТАНЦЫЯ НАЗНАЧЭННЯ | ДНІ | ЧАС | ПРЫПЫНКІ |
|---|---|---|---|
| Беларусь | штодз. | 0-32 | усюды |
| Маладзечна | штодз. | 4-28 | без прып. Мінскае мора, Крыжоўка, Зялёнае, Хмелеўка, Анусіна, Вязынка, Пралескі |
| Аляхновічы | штодз. | 5-06 | без прып. Пралескі |
| Маладзечна | штодз. | 5-27 | без прып. Мінскае мора, Крыжоўка, Зялёнае, Хмелеўка, Анусіна, Вязынка, Пралескі, Раманы |
| Аляхновічы | штодз. | 6-08 | усюды |
| Маладзечна | штодз. | 6-22 | да Аляхновіч усюды, далей з прып. Уша |
| Маладзечна | штодз. | 6-40 | без прып. Мінскае мора, Крыжоўка, Хмелеўка, Анусіна, Вязынка, Пралескі, Раманы |
| Маладзечна | штодз. | 7-34 | усюды |
| Аляхновічы | вых. | 7-55 | усюды |
| Маладзечна | штодз. | 8-16 | усюды |
| Аляхновічы | вых. | 8-39 | усюды |
| Маладзечна | штодз. | 8-58 | усюды |
| Аляхновічы | вых. | 9-24 | усюды |
| Маладзечна | штодз. | 9-53 | усюды |
| Аляхновічы | вых. | 10-30 | усюды |
| Маладзечна | штодз. | 10-56 | усюды |
| Аляхновічы | вых. | 11-34 | усюды |
| Маладзечна | штодз. | 12-00 | усюды |
| Аляхновічы | вых. | 12-25 | усюды |
| Маладзечна | штодз. | 12-53 | усюды |
| Маладзечна | штодз. | 13-37 | усюды |
| Маладзечна | вых. | 14-04 | без прып. Мінскае мора, Крыжоўка, Зялёнае, Хмелеўка, Анусіна, Пралескі, Раманы, Селівонаўка |
| Аляхновічы | вых. | 14-24 | усюды |
| Маладзечна | вых., пятн. | 14-53 | без прып. Мінскае мора, Хмелеўка, Анусіна, Раманы |
| Маладзечна | пятн., вых. | 15-02 | без прып. Мінскае мора, Крыжоўка, Зялёнае, Хмелеўка, Анусіна, Раманы |
| Аляхновічы | штодз. | 15-22 | усюды |
| Маладзечна | штодз. | 15-40 | усюды |
| Аляхновічы | вых. | 15-54 | усюды |
| Маладзечна | штодз. | 16-14 | усюды |
| Аляхновічы | пятн., вых. | 16-36 | усюды |
| Маладзечна | штодз. | 16-54 | усюды |
| Аляхновічы | пятн., вых. | 17-24 | усюды |
| Маладзечна | штодз. | 17-40 | усюды |
| Аляхновічы | пятн., вых. | 18-03 | усюды |
| Маладзечна | штодз. | 18-32 | усюды |
| Маладзечна | штодз. | 19-16 | усюды |
| Маладзечна | штодз. | 20-11 | усюды |
| Маладзечна | штодз. | 21-05 | усюды |
| Маладзечна | штодз. | 22-16 | усюды |

### МІНСК—БАРЫСАЎ—ОРША

**Адпраўленне са ст. Мінск-Пасажырскі**

| СТАНЦЫЯ НАЗНАЧЭННЯ | ДНІ | ЧАС | ПРЫПЫНКІ |
|---|---|---|---|
| Барысаў | штодз. | 4-56 | да Смалявіч з прып. па станцыях, далей без прып. Барсукі, Пр. Перамога |

**Адпраўленне з астановачнага пункта «Інстытут культуры»**

| СТАНЦЫЯ НАЗНАЧЭННЯ | ДНІ | ЧАС | ПРЫПЫНКІ |
|---|---|---|---|
| Орша | штодз. | 1-00 | да Смалявіч з прып. па станцыях, далей без прып. Барсукі |
| Крупкі | штодз. | 5-24 | усюды |
| Орша | штодз. | 6-31 | усюды |
| Крупкі | штодз. | 7-20 | усюды |
| Барысаў | штодз. | 8-40 | усюды (па вых. да Слаўнае) |
| Барысаў | вых. | 10-10 | усюды |
| Орша | штодз. | 11-08 | усюды |
| Барысаў | штодз. | 12-33 | усюды |
| Орша | штодз. | 13-14 | без прып. Садовы, Слабада, Дамашаны, Загор'е, Барсукі, Пр. Перамога, Неманіца, Замужанне, Красноўка |
| Барысаў | штодз. | 14-35 | усюды |
| Орша | штодз. | 15-05 | без прып. Садовы, Слабада, Дамашаны, Загор'е, Барсукі, Пр. Перамога |
| Крупкі | штодз. | 15-47 | усюды |
| Барысаў | штодз. | 17-05 | без прып. Барсукі |
| Прыяміна | штодз. | 17-45 | усюды |
| Орша | штодз. | 18-22 | усюды |
| Барысаў | штодз. | 19-13 | усюды |
| Барысаў | штодз. | 20-29 | усюды |

**Адпраўленне са ст. Мінск-Усходні**

| СТАНЦЫЯ НАЗНАЧЭННЯ | ДНІ | ЧАС | ПРЫПЫНКІ |
|---|---|---|---|
| Барысаў | штодз. | 8-10 | усюды |
| Орша | вых. | 9-21 | без прып. Дамашаны, Загор'е, Барсукі, Пр. Перамога, далей з прып. па станцыях |
| Талачын | вых. | 9-59 | без прып. Барсукі, Пр. Перамога |
| Барысаў | штодз. | 10-54 | усюды |
| Бобр | штодз. | 13-57 | усюды (па вых. да Крупкі) |
| Жодзіна | штодз. | 16-40 | усюды |
| Барысаў | штодз. | 21-26 | усюды |
| Барысаў | штодз. | 22-58 | усюды |
| Орша | пятн. | 22-58 | да Барысава ўсюды, далей з прып. па станцыях |

### МІНСК—АСІПОВІЧЫ

| СТАНЦЫЯ НАЗНАЧЭННЯ | ДНІ | ЧАС | ПРЫПЫНКІ |
|---|---|---|---|
| Асіповічы | штодз. | 0-30 | да Рудзенска ўсюды, далей з прып. па станцыях |
| Асіповічы | штодз. | 4-55 | усюды |
| Асіповічы | штодз. | 6-04 | усюды |
| Асіповічы | штодз. | 6-52 | усюды |
| Асіповічы | штодз. | 7-56 | усюды |
| Пухавічы | вых. | 8-09 | усюды |
| Талька | штодз. | 8-32 | без прып. Вендзеж |
| Асіповічы | штодз. | 8-45 | без прып. Зазерка, Н. Сяло, Вяленскі (адпр. з прып. пункта «Інстытут культуры») |
| Асіповічы | штодз. | 9-11 | усюды |
| Асіповічы | вых. | 9-46 | усюды |
| Асіповічы | вых. | 10-18 | усюды |
| Асіповічы | вых. | 10-55 | усюды |
| Пухавічы | штодз. | 11-16 | усюды |
| Асіповічы | штодз. | 11-28 | усюды |
| Асіповічы | штодз. | 12-21 | усюды |
| Талька | вых. | 12-57 | усюды |
| Асіповічы | штодз. | 13-14 | усюды |
| Асіповічы | штодз. | 14-10 | усюды |
| Пухавічы | вых., пятн. | 14-44 | усюды |
| Асіповічы | штодз. | 15-20 | усюды |
| Талька | штодз. | 15-52 | усюды |
| Асіповічы | штодз. | 16-41 | усюды |
| Пухавічы | пятн., вых. | 17-00 | усюды |
| Асіповічы | штодз. | 17-30 | усюды |
| Талька | штодз. | 17-58 | усюды |
| Асіповічы | штодз. | 18-34 | усюды |
| Талька | штодз. | 19-04 | усюды |
| Асіповічы | штодз. | 20-30 | усюды |
| Асіповічы | штодз. | 22-00 | без прып. Вендзеж, Весялоўскі, Вярхі, Савецкі |

***Заўвага. За зменамі ў руху прыгарадных паяздоў сачыце ў раскладах на станцыях Беларускай чыгункі.***

## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ
### у камерцыйных банках на 12 красавіка 1996 г.

| Назва банка | Долар ЗША | | Нямецкая марка | | Расійскі рубель | | Тэлефоны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| **Белбізнесбанк (гал. аперац. упраўл.)** | 13000 | 13100 | 8700 | 9000 | 2.55 | 2.75 | 769-531 |
| **Белбізнесбанк (гар. дыр.)** | 13000 | 13100 | 8600 | 8900 | 2.50 | 2.65 | 271-906 067 |
| **ФК «Вераніка»* (за расійскія рублі)** | 13000 4950 | 13100 5038 | 8600 | 8900 | 2.60 | 2.68 | 531-504 |
| **Банк «INKO» (за расійскія рублі)** | 13020 4950 | 13100 5077 | 8700 | 9000 | 2.58 | 2.66 | 238-020 |
| **Мінскі транзітны банк*** | 12950 | 13100 | 8600 | 8900 | 2.55 | 2.70 | 298-174 |
| **Ф-л 0104 АКБ «Мінскі транзітны банк»** | 12900 | 13100 | 8600 | 8850 | 2.50 | 2.65 | 372-825 |
| **Народны банк** | 13000 | 13100 | 8750 | 8900 | 2.54 | 2.62 | 238-610 |
| **«Алімп»** | 12800 | 13100 | 8700 | 9000 | 2.55 | 2.70 | 589-649 |
| **Ф-л № 1 АКБ «Алімп»** | 13000 | 13100 | 8700 | 8850 | 2.60 | 2.65 | 291-646 067 |
| **Магазін «Панарама», фірмы «Энергія ГмбХ»** | 12900 | 13100 | 8550 | 9100 | 2.52 | 2.70 | 265-612 |
| **Нацыянальны банк РБ (курс для безн. разл.)** | 12100 | | 8059.14 | | 2.43 | | |
| **Цэнтрабанк Расіі** | 4901 | | 3265.16 | | 100 бел.р. 37.74 | | |

* — Аперацыя з валютай звыш 1000 $ праводзіцца на дагаворных умовах

**Агенцтва Граўцова.**

## ТАЛКОВЫЯ ІДЭІ НА ДАРОЗЕ НЕ ВАЛЯЮЦЦА.
### Яны публікуюцца ў часопісе «Дело»

Лёгка скардзіцца на тое, што ў школьных сталоўках дзяцей кормяць вельмі дрэнна. Больш цяжка самому ўзяцца за «гуж» грамадскага харчавання і накарміць добра. Многія бацькі і рады б, ды, на жаль, не ведаюць, як да яго падступіцца. На дапамогу ім спяшаецца сакавіцкі нумар часопіса «Дело (Восток + Запад)». Кожны прадпрымальны бацька разам з маці можа выкарыстаць тэхналогію, пра якую напісана на старонках часопіса, і пачаць уласную справу ў школе, дзе навучаецца іх дзіця. Накарміце дзетак недарагімі смачнымі абедамі — і вам гэта залічыцца: адразу станеце вядомым у сваім мікрараёне, а ў перспектыве — багатым чалавекам. Раздзел «Дело + Идея», у якім напісана аб бізнес-праектах і ёсць практычныя парады па іх рэалізацыі, вядуць у часопісе эксперты, добра знаёмыя з методыкамі бонскага выдавецтва «Рэнтроп Ферлаг» — вядомага на Захадзе «абаронцы» малога і сярэдняга бізнесу.

...Лягчэй стане дыхаць не толькі пачынаючым прадпрымальнікам, але і фірмам, якія шукаюць новыя спосабы прыкладання свайго капіталу. Прынамсі, іх кіраўнікам не трэба зараз ламаць галаву над вынаходніцтвам бізнес-ідэі. Адкрыў часопіс — і бяры гатовыя, «распісаныя» ад «А» да «Я» праекты.

**По пытаннях падпіскі і набыцця часопіса «Дело (Восток + Запад)» можна звяртацца па тэл.: (017) 2-23-52-09. Факс: (017) 2-23-09-67.**

## АБ ПРАВАХ ПАКУПНІКА

У адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб абароне правоў спажыўцоў» і Асноўнымі правіламі вядзення рознічнага гандлю і гандлёва-вытворчай дзейнасці на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь

**1. Прадавец абавязаны:**

1.1. Рэалізоўваць дабраякасныя тавары.

1.2. Выплаціць пакупніку ў поўным аб'ёме ўрон, прычынены таварам неналежнай якасці.

1.3. Прадаставіць пакупніку інфармацыю:

на шыльдзе аб найменні, прыналежнасці гандлёвага прадпрыемства, яго рэжыме работы; тэлефонах і адрасах органа кіравання, які выдаў ліцэнзію на гандаль, вышэйстаячага органа кіравання ці ўласніка, Службы кантролю Адміністрацыі Прэзідэнта;

аб гарантыйных тэрмінах і тэрмінах годнасці, цане тавараў праз цэннікі, маркіроўку, тэхнічную дакументацыю, якая прыкладаецца да тавараў.

1.4. Уручыць пакупніку касавы (таварны) чэк ці іншы дакумент устаноўленай формы, які пацвярджае, што пакупка зроблена на дадзеным гандлёвым прадпрыемстве.

1.5. Ажыццявіць разлікі за тавары як наяўнымі грашыма, так і ў безнаяўным парадку па разавых чэках і чэках з чэкавых кніжак банкаў Рэспублікі Беларусь.

1.6. Стварыць умовы для прымеркі, праверкі працаздольнасці, камплектнасці, вагі і меры набываемых тавараў.

Забяспечыць наяўнасць у гандлёвай зале кантрольных вагаў, кантрольнага метра.

1.7. Абслужыць пакупніка ва ўказаны на шыльдзе час работы прадпрыемстваў. Забараняецца спыняць доступ пакупнікоў у гандлёвую залу ў сувязі з набліжэннем абедзеннага перапынку ці заканчэння часу работы прадпрыемства.

1.8. Прадаставіць пакупніку па яго патрабаванню кнігу водгукаў і прапаноў.

1.9. Забяспечыць нечарговае абслугоўванне льготных катэгорый грамадзян, якія маюць на гэта права ў адпаведнасці з заканадаўствам.

**2. Пакупнік, якому прададзены недабраякасны тавар, мае права** на працягу 12 месяцаў з дня куплі, а па таварах на якія ўстаноўлены гарантыйныя тэрміны ці тэрміны годнасці — на працягу гэтых тэрмінаў, па свайму выбару патрабаваць:

ці бясплатнай ліквідацыі недахопаў тавару;

ці кампенсацыі расходаў па ліквідацыі недахопаў;

ці змяншэння пакупной цаны;

ці замены аналагічным таварам належнай якасці;

ці вяртання грошай.

Патрабаванні пакупніка разглядаюцца пры прад'яўленні дакумента, які пацвярджае куплю ў дадзеным прадпрыемстве, а па тэхніча-складаных таварах — належна аформленага тэхнічнага пашпарта ці іншага дакумента, які замяняе яго. Разлікі з пакупніком праводзяцца з улікам змянення цэн.

**3. Пакупнік мае права** на абмен дабраякасных нехарчовых тавараў (за выключэннем тавараў, што не падлягаюць абмену, пералік якіх устанаўліваецца ўрадам), на працягу 14 дзён з дня продажу, калі тавар не падышоў па форме, габарытах, фасону, колеру, памеру ці па іншых прычынах не можа быць выкарыстаны спажыўцом.

Абмен дабраякаснага тавару праводзіцца, калі ён не быў у карыстанні, захаваны яго таварны выгляд, спажывецкія ўласцівасці, пломбы, фабрычныя ярлыкі, а таксама ёсць дакумент, які пацвярджае куплю ў дадзеным прадпрыемстве.

У выпадку, калі ў момант звяртання пакупніка аналагічны тавар адсутнічае ў продажы, пакупнік мае права патрабаваць вяртання ўплачанай за тавар сумы, а прадавец абавязаны прыняць тавар і вярнуць уплачаную суму.

**4. Дзяржава забяспечвае пакупнікам** абарону іх законных інтарэсаў праз спецыяльна ўпаўнаважаныя органы, а таксама суд.

# ПОЛЬШЧА: вяртанне да цывілізацыі

## або Скачок «тыгра» ў Еўропу

ЯШЧЭ НЯДАЎНА можна было пачуць, што для Беларусі польскі вопыт рынакчных шокавых рэформаў не падыходзіць,у суседзяў народ быццам не ўспрыняў пераход да рынку. Між іншым, у сённяшняй Польшчы амерыканцы бачаць новага «тыгра» Еўропы. Пра гэта экс-прэзідэнт Дж. Буш сказаў так: «Польшча непараўнальна змянілася. Свет ганарыцца смелымі эканамічнымі рэформамі і падтрымлівае іх, польская незалежнасць стала рэальнасцю і ўмацоўваецца з кожным днём».

Мне давялося за апошні час пабываць у гэтай краіне пяць разоў і нават пажыць там больш як два месяцы. Магу смела сцвярджаць, што «шокавая тэрапія», уведзеная ў палякаў у пачатку 1990 года, дазволіла ім радыкальна змяніць эканоміку і спадзявацца на вяртанне з цягам часу ў цывілізаваную Еўропу. Зразумець гэта лепш і лягчэй за ўсё на побытавым узроўні. Аднойчы зайшоў у глыбінцы ў «спажыўчы склеп» (прадуктовы магазін) вёскі Рын і вачам сваім не паверыў — на прылаўку выстраіліся ў рад толькі бутэлечнага піва 18 сартоў коштам ад 1 да 2 злотых (прыблізна 5—10 тыс. беларускіх рублёў).

Іншым разам зайшоў у мясцовы магазін невялічкага гарадка Гіжыцка, які крыху падобны на наш такі ж азёрны Браслаў, і зноў адчуў пэўны шок, бо налічыў толькі каўбасы 29 гатункаў, не гаворачы пра іншыя шматлікія прысмакі, далікатэсы, кансервы, вэнджаніну. А цэны, што самае дзіўнае, там ужо меншыя, чым цяперашнія беларускія. Рэальная зарплата ў пік рэформаў у палякаў упала на 20—25 працэнтаў, цяпер яна набліжаецца па краіне да 300 долараў у месяц.

**• Варшава быццам тая і зусім новая**

Я не здзівіўся, калі пасажырскі поезд прыбыў на чыгуначны вакзал Варшавы-Цэнтральнай роўна хвіліна ў хвіліну па раскладу. Графікі руху ў Польшчы строга захоўваюцца, паўсюдна без праблем можна абмяняць валюту, для сваіх і замежных пасажыраў дастаткова патрэбнай інфармацыі, за якую не трэба плаціць, як гэта пачалі практыкаваць у нас. А яшчэ ты вольны, у які вагон і на якое месца купленага класа сесці, на якім цягніку ехаць. Па дарозе можна сысці, вырашыць якія-небудзь праблемы і працягваць паездку далей, бо інтэнсіўнасць руху высокая.

Цэнтральны вакзал Варшавы падобны на вакзалы іншых еўрапейскіх сталіц, уражвае сваім хараством і ўтульнасцю. Кожны метр свабоднай плошчы вакзала заняты, паўсюдна дзесяткі кіёскаў з самымі разнастайнымі таварамі, напоямі, сувенірамі, кветкамі, гамбургерамі, півам і шмат чым іншым. На прывакзальнай плошчы ахоўваемыя платныя аўтастаянкі, дзе безліч аўтамабіляў самых розных марак. На 40-мільённую Польшчу прыпадае 8 мільёнаў прыватных «аўто», з якіх больш як 500 тысяч машын зарэгістравана ў сталіцы. Рух на дарогах вельмі ажыўлены, пастаянна заняты па тры-чатыры паласы.

Па добраму ўразіла дакладная арганізацыя пасажырскіх аўтаперавозак. Усе прыпынкі новыя, зроблены будкі са спецыяльнага пластыку, у іх можна схавацца ад ветру і дажджу, можна паслухаць музыку, бо яны абсталяваны прыёмнікамі прыватнага радыё ЗЭТ. Ёсць і лавачкі, але чакаць доўга не прыходзіцца. Інтэрвал руху ў час пік — 4-5 хвілін, у астатні час — 10—12, у выхадныя дні і святы — да 15 хвілін. На кожным прыпынку для кожнага маршрута змешчаны расклад руху аўтобуса ці трамвая і можаце зверацца па ім гадзіннік — так дакладна ён вытрымліваецца. Адна паездка каштуе 60 новых грошаў, або 3 тысячы беларускіх рублёў. Быццам бы дарагавата, але ж варшавяне зарабляюць 500, 600, 700, а то і тысячу злотых у месяц (адзін долар каштуе 2,4 новага злотага). Нават калі плаціць за кватэру сёння даводзіцца больш як 200 злотых, на жыццё таксама застаецца нямала пры амаль аднолькавых з Беларуссю цэнах.



**• Вечарам у жыцці, раніцай — у газеце**

Чытаю раніцай у панядзелак свежы нумар папулярнай «Газеты выборчай» і адразу здзіўляюся: на першай старонцы паведамляецца аб выбуху бомбы, падкладзенай у Любліне ў аўтамашыну а дзесятай гадзіне вечара напярэдадні ў нядзелю. Пра якую-небудзь значную падзею ў сталічнай «Жычэ Варшавы» чытачы могуць прачытаць праз 3—5 гадзін пасля таго, як яно адбылося. Не толькі ў плане аператыўнасці непазнавальна змяніліся сродкі масавай інфармацыі.

Цяперашнія польскія газеты значна патаўсцелі, выходзяць звычайна на 24, а то на 48 старонках, выдаюцца да іх яшчэ дадаткі, вельмі багата ў газетах рэкламы. Раз у тыдзень уплывовае выданне выдае яшчэ часопісным фарматам на 24 старонках каляровую ілюстраваную праграму перадач тэлебачання. Тэлевізійных праграм не толькі ў горадзе, але і ў вёсцы, на аддаленых хутарах можна глядзець цяпер да 30 і болей, адных польскіх каналаў стала 6 замест ранейшых 2. Індывідуальных антэн спадарожнікавай сувязі ў краіне больш як 250 тысяч, паўсюдна шпаркімі тэмпамі развіваецца кабельнае тэлебачанне.

Але галоўнае ўсё ж не гэта. У Польшчы друк, радыё, тэлебачанне рэальна свабодныя, яшчэ 6 гадоў назад усе выданні парткамітэтаў былі адпушчаны ў вольнае плаванне. Заснавальнікамі газет сталі адны рэдакцыйныя калектывы, ім бязвыплатна перадалі рэдакцыйную маёмасць, а самі памяшканні здаюць у арэнду.

Напрыклад, сур'ёзнае аналітычнае выданне — штотыднёвік «Палітыка» мае аб'ём 24 старонкі і займае цэлы паверх у варшаўскім Доме польскага друку. Сваю ўласную газету робяць 38 журналістаў. Акрамя звычайных аддзелаў палітыкі, рэпартажа, культуры, гісторыі, эканомікі, міжнароднай палітыкі, навукі ёсць у штотыднёвіку бізнес-аддзел, аддзел маркетынгу, свой міні-бар, канферэнц-зала, архіў, вялікая відэатэка, сучасная багатая мэбля, персанальныя камп'ютэры для кожнага супрацоўніка. Пра нашу Беларусь за год надрукавалі 4 вялікія артыкулы...

Суровую праўду, асабліва аб рэаліях чачэнскай авантуры, штодзень бачыў на экране тэлевізара. Танальнасць сюжэтаў рэзка кантрастуе з тым, што мы бачым на ГРТ ці па каналу «Расія». Дарэчы, у Польшчы ўслед за газетамі сталі акцыянернымі таварыствамі і каналы польскага тэлебачання, радыё, пасля чаго прафесіяналізм, узровень падрыхтоўкі перадач значна ўзрос. Рабіць сваю справу добра вымушае канкурэнцыя, бо за прыём таго ці іншага канала трэба разам з кватэрплатай плаціць штомесяц ад 5 злотых і болей у залежнасці ад колькасці праграм, якія жадаеш прымаць. А вось газеты прадаюцца толькі ў розніцу, падпіска адсутнічае. За кожнага чытача, тэлегледача змагаюцца, як за пакупніка, кліента.

**• Рэлігія ў жыцці палякаў**

У краіне некалькі тысяч касцёлаў — ад самых старажытных (XIII ст.) да сучасных, больш падобных на эстрадныя залы з лазернымі спецэфектамі. У вялікім храме могуць служыць адразу некалькі ксяндзоў, службы праходзяць ад 6 гадзін раніцы да 11 вечара кожную гадзіну. У польскім войску з'явіліся на службе праваслаўныя бацюшкі. У арміі служыць нават епіскап у званні генерала, над чым пасмейваюцца некаторыя палякі.

І ўсё ж я не стаў бы як пераацэньваць, так і прымяншаць ролю і значэнне рэлігіі ў жыцці грамадства. У палякаў ніколі не аддзялялі касцёл ад сваёй нацыі.

Разам з тым з'явіліся і некаторыя праблемы. Па традыцыі найбольш значныя падзеі ў сваім жыцці паляк адзначае ў храме. А за хрышчэнне, шлюб, пахаванне трэба заплаціць суму ў 100 злотых і болей. На вачах у людзей у шэрагу месцаў святары будуюць сабе шыкоўныя дамы, больш падобныя на вілы. Ксяндзы часам купляюць прэстыжныя і дарагія аўтамабілі, чаго не можа дазволіць сабе просты працаўнік.

Польскі касцёл дамогся таго, што ў краіне наогул забаронены аборты. Каб пазбавіцца ад нежаданай цяжарнасці, шмат якія полькі вымушаны ехаць у «турпаездку» ў краіны, дзе гэта працэдура дазваляецца. І ўсё ж адносіны да рэлігіі ў сённяшняй Польшчы ў людзей мяняюцца.

Газета «Жычэ Варшавы» змясціла цікавыя даныя праведзенага ўласнага сацыялагічнага даследавання. Дык вось, 70 працэнтаў палякаў (78 працэнтаў маладых) жадаюць абмежавання дзейнасці каталіцкага касцёла толькі рэлігійнымі справамі ў мурах святынь. А 91 працэнт дарослых мяркуе, што касцёл павінен мець меншы ўплыў на жыццё краю, чым зараз. Жыццё ідзе наперад. І ўжо сёння ў Польшчы не рэдкасць, калі непадалёку ад храма, праўда, асабліва не прыцягваючы ўвагі прахожых, месціцца сучасны секс-шоп са шматлікімі таварамі для інтымных уцех. Уявіць такое яшчэ колькі гадоў таму назад было немагчыма.

**• Такі нетыповы фермер**

Калі я, бывае, расказваю пра гэтую польскую жанчыну-фермера, многія калгаснікі нават дзіву даюцца. Уявіце, гэта саракагадовая рухавая і маладжавая паненка Гелена Малец, адна трымае гаспадарку з 10 гектарамі зямлі, шасцю дойнымі каровамі, дзесяткам свіней, канём, трактарам і некалькімі дзесяткамі гусей, курэй і качак. У росквіце гадоў памёр яе бацька, дарэчы, ураджэнец Заходняй Беларусі, моцна паранены на вайне. Гелена, старэйшая ў сям'і, узялася дапамагаць маці весці гаспадарку і завочна вучылася ў сельскагаспадарчым тэхнікуме.

Зазначу: у Польшчы першаму сустрэчнаму так проста зямлю не прададуць. Ты павінен мець дыплом ці вытрымаць спецыяльны экзамен на курсах. Калі маці Гелены выйшла на пенсію (гэта 100 долараў у месяц), прыйшлося ўзваліць усе турботы на свае плечы. Зараз у Гелены на 50 сотках зямлі штогод вырошчваецца да 30 тон бульбы, збожжавых намалочвае не менш як 30 цэнтнераў з гектара, кожная карова дае не менш як 25 літраў малака. Зразумела, гэта нетыповая гаспадарка не можа лічыцца нейкім узорам сённяшняй сельскай гаспадаркі Польшчы. І ўлады, і сялян непакоіць слабая энерганасычанасць, адсутнасць сучаснай механізацыі і, як вынік, невялікія прыбыткі фермераў, якім цяжка канкурыраваць з заходнімі калегамі. Каго органы кіравання ваяводства прызнаюць банкрутам, тых перадаюць у веданне рэгіянальных агенцтваў па рэформе сельскай гаспадаркі. Рыначны кошт цэнтнера збожжа з'яўляецца мерай вызначэння рыначнага кошту зямлі. Хто мае льготы на яе набыццё, павінен выкладзыць у сярэднім 150 долараў, астатнія на аўкцыёне на пакупку 1 гектара зямлі трацяць да 600 долараў. Прадстаўнікі іншых дзяржаў таксама атрымалі права купляць зямлю, але вялікага наплыву жадаючых не назіраецца. Урад мае намер аддаць свабодныя землі палякам, якія жадаюць вярнуцца на радзіму з Казахстана.

**• Перамены, якіх жадалі**

Ужо сёмы год ідзе, як наш сусед будуе новы, па сутнасці капіталістычны лад. Сапраўды, па напоўненасці вітрын і паліц магазінаў, па сервісу Польшча стала падобнай на еўрапейскую краіну, але зарплата ў 10 разоў уступае той жа Германіі ці Францыі. Спецыялісты сцвярджаюць, што пры захаванні цяперашніх тэмпаў росту спатрэбіцца гадоў 10, каб падняцца да ўзроўню сённяшняй Партугаліі.

Наогул, цяпер пакупнік, кліент, пасажыр у Польшчы вельмі паважаны. Магазінаў сотні, тысячы, і табе будуць рады, калі набудзеш які-небудзь тавар. Нават у самай беднай краме, калі купляеш хоць якую дробязь, табе абавязкова падзякуюць за пакупку і запросяць зайсці яшчэ раз. Нават на дзяржаўнай аўтазапраўцы табе не трэба выходзіць з машыны — ветліва нальюць паліва і пажадаюць добрай дарогі.

Праводзячы рэформы па павышэнню эфектыўнасці вытворчасці, Польшча не магла абысціся без скарачэння колькасці работнікаў. Таму адной з найвастрэйшых праблем у краіне з'яўляецца беспрацоўе. Афіцыйны ўзровень — 13 працэнтаў працаздольнага насельніцтва (каля 3 мільёнаў чалавек). У рэальнасці ж яно ў два разы большае, бо амаль палова польскіх беспрацоўных працуе ў так званай «другой» эканоміцы.

Палякі пачалі развіваць прыватнае прадпрымальніцтва, якое і стварае новыя рабочыя месцы.

У палякаў ужо наяве бачна вялікая розніца паміж багатымі і беднымі. У адных растуць шыкоўныя асабнякі з «Мерседэсам» і спадарожнікавай антэнай, а другія павінны ездзіць на «чорныя» работы ў Італію, Германію ці ЗША, каб зарабіць грошы і купіць сабе потым невялічкую кватэру. Сам адчуваў дыскамфорт, калі заходзіў у магазін для багатых і не меў магчымасці што-небудзь купіць.

Але самае цяжкае ў нашых суседзяў, перакананы, ужо засталося ззаду. Галоўнае, што змянілася псіхалогія, большасць людзей там сталі працаваць інакш, а не рабіць выгляд, што нешта робіш. Як вынік, ужо зараз любадорага паглядзець на якасныя польскія дарогі, новыя прыгожыя дамы, змянілася ў лепшы бок якасць польскіх тавараў, многія з якіх мала ў чым уступаюць заходнім аналагам.

...Кожны раз, як вяртаешся на Беларусь і цягнік прыбывае ў Мінск, адразу адчуваеш розніцу. Пасля Варшавы наш галоўны горад здаецца нейкім шэрым і сумным, чымсьці правінцыяльным. І першае жаданне, якое ўзнікае акрамя радасці вяртання на Радзіму: каб і ў нас пачаліся перамены да лепшага, менш заставалася праблем, каб і мы, беларусы, услед за палякамі пайшлі наперад, сталі з надзеяй глядзець у будучае...

**Уладзімір ШЫК.**

*Мінск—Варшава—Мінск.*

# УСХОДНІ ГАРАСКОП НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ

**З Дэлі перадае кар. ІТАР-ТАСС Леанід КОТАЎ**

КАЗЕРОГАМ прыдзецца больш уважліва прыглядзецца да сваіх сяброў. Не ўсе яны з добрым сэрцам будуць прапаноўваць вам дапамогу. Астролаг раіць: асцерагайцеся пазычаць у іх грошы. Хатнія гаспадыні правядуць тыдзень у клопатах, у маладых расцвіце каханне, а пажылым, нічога не зробіш, давядзецца ратавацца ад віруснага захворвання.

ВАДАЛЕЮ лепш за ўсё адправіцца ў дарогу. Любое падарожжа будзе ў вас паспяховым. Але калі застаняцеся дома, то таксама не прагадаеце — зусім нечакана ў вас паявіцца сума грошай, якая забяспечыць на пэўны час вашу будучыню. Не трэба прымаць сур'ёзных рашэнняў, брацца за важную работу. Пазбягайце сварак з дамашнімі, для якіх быццам бы з'явяцца прычыны.

РЫБАМ давядзецца цалкам аддацца рабоце. Яе будзе многа, а вынікаў — не вельмі. Але не засмучайцеся — усяму свой час. Тыдзень пройдзе без узрушэнняў. Можна будзе заняцца справамі па дому, а ў выхадныя наладзіць пікнік на прыродзе. Жанчынам можа выпасці які-небудзь падарунак ці сума грошай. Тыя, хто чакае нараджэння дзіцяці, атрымаюць шанц назваць сябе бацькам ці маці.

АВЕНАМ трэба будзе даведацца, якая можа быць сувязь паміж дзелавой дзейнасцю і рамантыкай. На думку астролага, гэта азначае ўключэнне ў лік дзелавых партнёраў таго, да каго вы раней адчувалі сардэчную прыхільнасць. У маладых наступіць жаданне ўзаемаразумення пасля невялікіх рознагалоссяў. А адзінокія нарэшце знойдуць сваю палавіну, з якой адправяцца пад вянец, але ў будучым.

ЦЯЛЬЦАМ зоркі абяцаюць поспех на дзелавой ніве і на афіцыйных пасадах. У пачатку тыдня вам давядзецца вельмі многа папрацаваць, каб дабіцца поспеху праз нейкі час. Небывалы поспех чакае тых, хто танцуе, спявае, малюе карціны і піша музыку. Чакайце паяўлення гасцей, чый прыход акажацца для гаспадароў вельмі важным.

Тым БЛІЗНЯТАМ, якія працуюць на дзяржаву, варта адправіцца за мяжу з вельмі важнай місіяй, іншым пабываць там жа на семінарах і сімпозіумах. Свяцілы медыцыны зоймуць начальніцкую пасаду. Тым, хто трымае сваё каханне ў тайне ад акружаючых, давядзецца даведацца, што іх адносіны даўно не тайна. Таму раім ім падумаць аб наступствах.

РАК будзе займацца руціннай работай, нецікавай і малапрадуктыўнай. Зоркі вам спачуваюць, але паправіць нічога не могуць. Затое тыя, хто заняты гандлем, атрымаюць значныя дывідэнды, камісійныя, словам, не прайграюць. Нічым, акрамя добрага, не пагражае купля на гэтым тыдні дома ці нерухомасці. Каханне з платанічнага пяройдзе ў пачуццёвае, прадказваючы нечаканы паварот.

ІЛЬВАМ трэба будзе завяршыць пачатую і пераходзіць да новай справы, якой прыйдзецца займацца вельмі доўга. Моладзь, якая дабіваецца фінансавай незалежнасці, дасягнула пастаўленай мэты. Сваякі акажуць падтрымку вашай кар'еры, хоць вам з-за занятасці не ўдасца ўдзяліць ім шмат часу.

Тыя, хто акружае ДЗЕВУ, дапаможа дабіцца ёй задуманага. Але вам самім трэба добра ўзважыць свае магчымасці, перш чым кідацца на дапамогу іншым. Не забывайцеся, што дыпламатыя і такт будуць садзейнічаць вашым справам на гэтым тыдні. Новыя знаёмствы прынясуць вялікую карысць, і некаторым Дзевам будзе цяжка процістаяць рамантычнаму пачуццю, якое нахлыне на іх.

ШАЛІ павінны праігнараваць заманлівыя прапановы аб новай рабоце і абяцанні вялікіх грошай. Тым, хто носіць пагоны, прадбачыцца павышэнне па службе і перавод у галоўны штаб. Але кожнаму сваё, а хатнім гаспадыням давядзецца аплачваць фінансавыя рахункі і займацца штодзённай працай. Затое дома ў вас усё будзе складвацца добра, хоць ніякіх прыемных сюрпрызаў быццам бы і не чакаецца.

СКАРПІЁНА штосьці павінна пацягнуць на поўдзень, ні то адпачынак, ні то наведванне святых месцаў. У тых, хто займаецца прыватным бізнесам, настане самы спрыяльны перыяд. У фермераў прыбавіцца зямлі, а дома вам трэба рыхтавацца да сямейнай урачыстасці. У закаханых могуць быць сваркі, якія не будуць мець працягу.

СТРАЛЬЦАМ нельга адхіляцца ад намечаных планаў, бо толькі настойлівасць у іх выкананні прынясе пажаданы вынік. Хоць на вашым шляху сустракаюцца перашкоды, вы іх паспяхова пераадолееце. Чакаецца атрыманне важнага пісьма з добрымі навінамі. Маладыя на нейкі час адчуюць недахват увагі адзін да аднаго, але невялікае адчужэнне хутка пройдзе, не пакінуўшы нават і следу.

## СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ

### КРЫЖАВАНКА



**Па гарызанталях:** 5. Атрыманне высакародных металаў металургічным спосабам. 6. Акцёр, які падмяняе выканаўцу галоўнай ролі ў складаных выпадках. 9. Беларускі народны танец. 10. Самы вялікі мацярык Зямлі. 12. Белы хлеб у народаў Сярэдняй Азіі. 13. Транспартны сродак для руху як па сушы, так і па вадзе. 14. Назва твора санатнага цыкла. 17. Запаведнік у Карэліі. 19. Вяршыня галоўнага храбта Вялікага Каўказа. 20. Рускі кампазітар-песеннік. 21. Ажыццяўленне краінай перадачы ўласнай зямлі і маёмасці ва ўладанне мясцовых органаў улады. 24. Паэтычны зборнік К. Кірэенкі. 26. Паважаны чалавек у народаў Сярэдняй Азіі. 27. Рака, прыток Обі. 31. Зборнік беларускага паэта В. Зуёнка. 32. Вайсковы сцяг. 33. Злачыннае вымаганне чужых даходаў. 35. Спалучэнне фарбаў, колераў, якое стварае пэўнае адзінства карціны. 36. Беларускі кінасцэнарыст, паэт, аўтар паэмы «Вецер з Волгі». 37. Звярок з каштоўным футрам. 38. Прадстаўнік адной з народнасцей Каўказа.

**Па вертыкалях:** 1. Народны артыст СССР, акцёр, які зняўся ў фільме «Яны змагаліся за Радзіму». 2. Сібірскі алень. 3. Беларуская традыцыйная страва. 4. Сістэма безнаяўных разлікаў. 5. Гераіня апавядання Б. Васільева і кінафільма «А зоры тут ціхія..» 7. Разумнае абмеркаванне. 8. Савецкая антарктычная станцыя. 9. Прадмет культуры, які захаваўся са старажытных часоў. 11. Драпежная птушка. 15. Першая беларуская опера для дзяцей. 16. Грашовая адзінка Венесуэлы. 18. Зона адпачынку на Гомельшчыне. 20. Жанр беларускага традыцыйнага фальклору. 22. Персанаж рамана І. Шамякіна «Вазьму твой боль». 23. Мастацкае канструяванне. 25. Паслядоўнік адной з галін хрысціянства. 28. Адзінка вымярэння радыяцыі. 29. Народны звычай сумеснага карыстання сенажаццю, пашай, пчальнікам на Беларусі ў IIV—IVI стст. 30. Галоўны горад краіны. 33. Метал серабрыста-белага колеру. 34. Эксцэнтрычны танец.

**Склаў Валерый ПІНЧУК.**
*г. Бабруйск.*

### КРЫПТАГРАМА

Карыстаючыся ключавымі словамі, прачытайце ў клетках малюнка па акружнасці вядомую прыказку.



а) 1-2-3-4-5-6-7-2 — саламарэзка; б) 8-9-10-11-12-5 — раённы цэнтр у Гродзенскай вобласці; в) 13-14-15-16-5 — хваёвае дрэва; г) 17-7-16-18 — футравы абутак у народаў Поўначы і Сібіры.

**Склаў Мікола ВОРЧЫК.**
*Лагойскі раён.*

### ПРАВЕРЦЕ АДКАЗЫ

**Крыжаванка (30 сакавіка). Па гарызанталях**: 5. Міміка. 7. Аманал. 9. «Дынама». 11. Аспект. 12. Гелен. 13. Атака. 16. Абрэз. 19. Кангламерат. 22. Транспарант. 24. Брута. 27. Пасаг. 30. Рыоні. 31. Арлова. 32. Жалеза. 33. Талака. 34. Медаль. **Па вертыкалях:** 1. Лірыка. 2. Малага. 3 Парана. 4. Маркіз. 6. Ітака. 8. Ампір. 10. «Плаха». 14. Таксатар. 15. Кантракт. 17. Берагава. 18. Эстэцтва. 20. Лаос. 21. Муза. 23. Перон. 24. Баркас. 25. Умова. 26. Арагац. 27. Піжама. 28. Солад. 29. Газель.

**Крыжаванка-пераклад (6 красавіка). Па гарызанталях:** 2. Абцас. 6. Заява. 9. Прылада. 10. Страхар. 11. Грамада. 12. Кватарант. 13. Палац. 14. Бацян. 16. Сцюжа. 19. Друкарня. 20. Спажывец. 21. Гаспадар. 23. Бравэрка. 25. Ахова. 26. Ранак. 30. Вапна. 32. Пакаранне. 33. Начоўкі. 34. Селянін. 35. Спакуса. 36. Ганак. 37. Кубак. **Па вертыкалях**: 1. Лістапад. 3. Брамка. 4. Справа. 5. Уладалюб. 6. Загана. 7. Вымова. 8. Змаганец. 15. Брыда. 16. Сябра. 17. Асоба. 18. Хабар. 21. Гаротнік. 22. Вопратка. 24. Абаронца. 27. Адмова. 28. Націск. 29. Зносак. 31. Ахвяра.

**Крыптаграма-загадка (6 красавіка).** Ключавыя словы ў ёй: кааліцыя, плед, Гус. А зашыфраваная загадка: «Гусі паляцелі, а лапы пакідалі». Звычайны адказ на яе: «Літары», але ёсць і іншыя варыянты.

**Галаваломка (6 красавіка).** Прымаўка такая: «Хто з сонцам ідзе на работу — працуе ў ахвоту». Гл. малюнак.



**Дванаццаць разоў па 21 (30 сакавіка).** Адказ гл. на малюнку.



**Наступны нумар газеты «Звязда» выйдзе ў сераду, 17 красавіка г. г. Змена графіка выхаду выклікана святочным днём — другім днём Вялікадня.**

## Post Factum

### У гэты дзень...

**13 красавіка нарадзіліся** Кацярына Медычы, Дзям'ян Бедны, Гары Каспараў.

У гэты ж дзень 700 гадоў назад з'явіўся на свет Альгерд, вялікі князь Вялікага княства Літоўскага. А ў 1370 годзе **пачаўся паход** беларуска-літоўскага войска на чале з Альгердам на Маскву.

### А яшчэ быў выпадак

***Пяць кіламетраў жаху перажыла 21 жніўня 1981 года Ларыса Савіцкая. Дзіўна і, напэўна, сімвалічна, што жанчына, якая падала з вышыні 5220 метраў і засталася жывой, мае такое ж прозвішча, як і вядомая жанчына-касманаўт.***

20-гадовая Ларыса Савіцкая ў той дзень накіроўвалася ў вясельнае падарожжа. Самалёт АН-24, на якім яна ляцела, сутыкнуўся з бамбардзіроўшчыкам ТУ-16 над тэрыторыяй Амурскай вобласці. Экіпажы абодвух самалётаў і ўсе пасажыры загінулі. Ларыса выратавалася дзякуючы таму, што сплanіравала на зямлю з ніжняй часткай фюзеляжа.

Два дні нараджэння святкуе зараз і кіяўлянін Рома Глотаў. Па недагляду бацькоў паўтарагадовы хлопчык вываліўся з акна сваёй кватэры на дзевятым паверсе, праляцеўшы амаль 27 метраў. У выніку — пералом трох рабрын і лёгкае страсенне мазгоў. Праз тыдзень малы разам з мамай ужо гуляў па двары бальніцы. Што выратавала жыццё дзіцяці, і сёння застаецца загадкай.

А кажуць, не бывае цудаў на свеце...

### Цікава

***У свеце існуе нямала помнікаў жывёлам. Самыя шматлікія — манументы, якія ўстаноўлены ў гонар сабак, але ёсць і іншыя.***

У Парыжскім універсітэце, напрыклад, адкрыты помнік... жабе. На востраве Родас устаноўлены бронзавыя статуі двух аленяў, якія калісьці выратавалі некалькіх чалавек, растаптаўшы капытамі клубок ядавітых змей. У Вялікабрытаніі ёсць бронзавы помнік голубу — гэтая птушка ў 1942 годзе выратавала брытанскую падводную лодку, даставіўшы на бераг паведамленне аб аварыі рухавіка.

У ЗША існуе помнік дэльфіну. У цэнтры дацкага горада Орхуса стаіць бронзавая свіння з дзесяццю парасятамі — напамінак турыстам аб галоўным экспартным тавары краіны.

Яшчэ ў мінулым стагоддзі ў Аўстраліі стаў катастрафічна распаўсюджвацца кактус, які быў завезены з Амерыкі: расліна літаральна запаланяла ўсе пладародныя землі. Усе сродкі барацьбы з кактусам аказаліся бескарыснымі. Выратаванне нечакана прынесла бразільская кактусавая моль, якой пазней удзячныя аўстралійцы і ўзвялі помнік.

### Што ў імені маім

***Холад і святло далёкага неба адлюстроўваюць імёны Вадалея. Яны нясуць з сабой вобраз не толькі свабоды і арыгінальнасці, навізны, але і халоднай адчужанасці ад зямных праблем.***

Вось якія імёны рэкамендуецца даваць **Вадалеям-мужчынам:** Андрэй, Андрыян, Авенір, Алег, Альберт, Віталь, Вітольд, Глеб, Генадзь, Дарафей, Іларыён, Іпаліт, Кірыл, Леанід, Павел, Усевалад, Уладзіслаў, Руслан, Святаслаў, Эдуард, Ювеналій, Ян. А **жанчынам,** народжаным пад знакам Вадалея, можна выбраць такія імёны: Айна, Альбіна, Аліна, Ангеліна, Аэліта, Бела, Вітана, Весяліна, Віёла, Віялета, Вольга, Глорыя, Галіна, Іаланта, Івета, Ілона, Лада, Людміла, Лінда, Лідзія, Летыцыя, Наталля, Нэлі, Сняжана, Святлана, Славена, Ульяна, Эвеніра, Юлія, Эльміра, Яна.

### Думкі мудрых

Шчаслівейшы за ўсіх той, хто залежыць толькі ад сябе. *(Цыцэрон.)*

Розум у большасці жанчын не столькі для ўмацавання іх разважлівасці, колькі для апраўдання ўласнай неразумнасці. *(Ларошфуко.)*

Розум усіх людзей, разам узятых, не дапаможа таму, у каго няма свайго: сляпому не на карысць чужая зоркасць. *(Лабруер.)*

### Анекдот

*Ззяючы ад шчасця бацька, вярнуўшыся з клінікі, аб'явіў пяцігадоваму Жану:*

*— Дарагі, цяпер у цябе будзе маленькая сястрычка.*

*— Але ж гэта несумненна, тата, ты ж абяцаў мне падарыць шчанюка...*

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
**Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».**

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100634. Індэкс 63850.
Зак. № 1876.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12